


ВЫПУСК 64

## Юры Несцярэнка

# ЗВЫЧАЙНЫ ШОУ-БІЗНЕС

*Апавяданні*

МІНСК, «КНІГАЗБОР», 2015

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
Н55

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 64.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Прадмова
Л. Рублеўскай

**Несцярэнка, Ю.**
Н55 Звычайны шоу-бізнес : апавяданні / Юры Несцярэнка ; прадм. Л. Рублеўскай. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 156 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 64).
ISBN 978-985-7119-60-8.

Першая празаічная кніга пісьменніка і музыканта Юрыя Несцярэнкі «Звычайны шоу-бізнес», якую склалі апавяданні і навелы, уключае як аўтабіяграфічныя, так і па-мастацку змадэляваныя сюжэты. Практычна ўсе творы закранаюць тэму музыкі — рок, джаз, блюз ды іншыя альтэрнатыўныя жанры. Назва зборніка мае глыбока іранічны кантэкст, абумоўлены як асабістым досведам аўтара, так і агульнакультурнай сітуацыяй у Беларусі.

**УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7119-60-8**



## МУЗЫКА Ў СЮЖЭТАХ

Мастацкае слова і музыка — калі й не адно і тое ж, дык сінтэзуюцца часцей, чым мы можам уявіць. І калі аўтар прозы — музы́ка, чытач чакае ў ягоных радках пачуць музыку.

Юрый Несцярэнка, вядомы музыка, кампазітар і бард, сваю прозу таксама не пакідае без музыкі. Складаныя блюз-рытмы, можа, і адгукаюцца ў радках, але найперш музыка адбіваецца ў сюжэтах. Тым больш, шмат якія аповеды аўтабіяграфічныя. Лёс беларускага хлопца з правінцыі, якога выключылі з музычнай школы за «бесперспектыўнасць» і які пасля нейкі час працаваў там выкладчыкам... Лёс беларускага рок-музыкі, які звязаны з лёсам, натуральна, усяе беларускай альтэрнатыўнай музычнай тусоўкі...

Увогуле, чытаць аповеды Юрыя цікава менавіта таму, што яны нефармальныя, праўдзівыя і завершана-лаканічныя, як песні.

Гэта было шчырае пакаленне андэграўнду — калі адстойваць свае густы было небяспечна, але гэта дапамагала знайсці сэнс жыцця. Калі нельга было знайсці патрэбны дыск альбо купіць добры музычны інструмент — затое, калі ўдавалася, яны набывалі нечуваную, немагчымую сёння каштоўнасць.

Жыццё «саўка» з пункту гледжання нефармала... Цяпер гэта ўжо экзотыка — сямідзясятыя, васьмідзясятыя, перабудова... Першыя канцэрты беларускіх рок-гуртоў, выставы мастакоў-авангардыстаў... Дух вольнасці, безграшовага вальнадумства, які многія, хто пачынаў тады, страцілі на шляху да славы.

У адным з аповедаў аўтар успамінае выпадак з дзяцінства: у Сімферопальскім аэрапорце адмянілі вылеты, каб змусіць людзей сыграць масоўку для выпуску навінаў пра сустрэчу амерыканскага прэзідэнта, які наведаў Савецкі Саюз. Хлопчык выразна бачыў і чуў, як людзі абураліся, як былі незадаволеныя затрымкай і ўдзелам у бязглуздай інсцэніроўцы. А потым на экранах тэлевізараў, з дапамогай мантажу і закадравага бадзёрага тэксту ўсё ператварылася ў «энтузіязм масаў».

«Магчыма, у той момант у маёй свядомасці і адбыўся падзел. З аднаго боку, я яшчэ заставаўся чалавекам, *а з іншага* — ужо стаў “саўком”. *У тым сэнсе, што пачаў успрымаць рэчаіснасць* дваіста*:* “тут” — тое, што адбываецца на самай справе, а “там” — тое, што патрэбна “камуністычнай партыі і ўсяму савецкаму народу”.

Калі б можна было рабіць назвы апавяданняў вельмі доўгімі, то ў нашым выпадку гэта выглядала б наступным чынам: “Шоу павінна працягвацца, а звераферма застаецца зверафермай...”»

Менавіта нонканфармізм творцы, разуменне, дзе пачынаецца фальшывая рэальнасць, і нежаданне ўдзельнічаць у яе стварэнні — неабходныя складнікі сапраўднай асобы. І гэта тое, што падкупляе ў герoі прозы Юрыя Несцярэнкі.

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*



# ШОУ ПАВІННА ПРАЦЯГВАЦЦА

Фрэдэрык Булсара памалу пераставаў быць парсам і ўсё больш ператвараўся ў суперзорку, адпаведна ўзяўшы сабе псеўданім касмічнага маштабу — у гонар планеты Меркурый. Ужо былі выпушчаныя тры першыя альбомы, і хутка павінна была з’явіцца «Ноч у оперы».

На той жа самай выспе і па тых жа самых начах не губляў час дарэмна Парсанс, чалавек, які да парсаў, можа, і не меў дачынення, але старажытныя аланы, напэўна, маглі б пачуць нешта няўлоўна знаёмае ў гучанні яго імя — Алан. Сваёй гукарэжысёрскай працай у «Зваротным баку месяца» Парсанс паставіў адну цікавую кампанію ў шэраг супергруп. Кампанія сяброў, узначальваў якую спадар Гілмар (з біблейскім імем Давыд), ужо рыхтавала альбом «Вам бы тут пабываць», высакародна і амаль што шчыра прысвечаны Сіду Барэту, які гэтаксама шчыра ўсё больш рабіўся амаль што персам.

За «Вам бы тут пабываць» хутка з’явіцца альбом «Звяры». Ідэя яго была ўзятая з оруэлаўскай «Зверафермы».

Магілёўскі аэрапорт меў самае прамое дачыненне да навакольных зверафермаў, як у прамым значэнні — геаграфічна, так і ў пераносным — гістарычна, і яшчэ паўнавартасна працаваў, як і належала любому савецкаму аэрапорту ў першай палове 1970-х.

Самалёт «Як-40» па раскладзе падняўся ў паветра. Не выключаецца, што гэта адбывалася ў той самы час, калі Фрэдзі, Алан, Давыд і Сід вызначыліся, у якім кірунку сваёй дзейнасці будуць рабіць пераможны рывок (відавочна, рывок быў накіраваны не ў бок сацыялістычнай культуры). Наўрад ці яны ведалі, што канчатковым пунктам прызямлення ў «Як-40» быў Сімферопаль, ад якога да Чорнага мора заставалася кіламетраў дваццаць.

Мае бацькі спланавалі свой адпачынак у Еўпаторыі, адным з самых папулярных месцаў чарнаморскага ўзбярэжжа. Туды мы выправіліся ўсёй нашай сям'ёй: мама, тата, пяцігадовая сястрычка і дзевяцігадовы я. Тысячы такіх самых сем'яў ляцелі ў Сімферопальскі аэрапорт у гэты ж самы час з усіх канцоў Савецкага Саюза — з Сібіры, з Казахстана, а мо нават і з Далёкага Усходу, з узбярэжжа Ледавітага акіяна ці з кітайскай мяжы.

Адпачынак праходзіў традыцыйна: з раніцы пляж, невялікі перапынак з ратаваннем ад паўдзённага сонца ў любым цяністым месцы і лянівы абед, зноў пляж, увечары атракцыёны ці кавярня, марозіва і ліманад, альбо кіно на адкрытай пляцоўцы, потым цяжкі сон на здымнай кватэры ў начной спякоце паўднёвага клімату. У перадапошні і апошні дзень адпачынку самая адказная місія — закупка прадуктаў: мясцовыя вінаград, персікі, алыча, абрыкосы, кавуны. З Еўпаторыі — кірунак на сімферопальскі аэрапорт, дзе адпаведна раскладу рыхтуецца да вылету самалёт на Беларусь. Дарэчы, крыху раней ці пазней за наш рэйс рыхтуюцца ўзляцець авіялайнеры на Казахстан, у Сібір, на Далёкі Усход, да ўзбярэжжа Ледавітага акіяна, да кітайскай мяжы...

Як толькі мы трапілі ў аэрапорт, стала зразумела, што ніхто нікуды не ляціць. І казахі, і сібірцы, і жыхары Далёкага Усходу разам з кітайцамі, а таксама шмат хто яшчэ сядзелі на сваіх чамаданах у невялікім памяшканні аэравакзала. Па гучнай сувязі кожныя пяць — дзесяць хвілінаў металічны жаночы голас паведамляў аб адмене чарговага авіярэйсу. Адпаведна, людзей збіралася ўсё больш і больш. Аэравакзал акружылі міліцыянты. Адзіны раз у жыцці я бачыў такую аграмадную колькасць супрацоўнікаў міліцыі, апранутых у старую парадную форму — белыя фуражкі, белыя кіцелі, цёмна-сіняе, амаль што чорнае галіфэ, хромавыя боты. У хуткім часе гэтая форма зменіцца на знакамітую шэрую, якая праіснуе да самых апошніх дзён Савецкага Саюза.

Як усё адносна ў свеце — толькі што мы ўсхвалявана імкнуліся не спазніцца на пасадку ў свой самалёт, а літаральна праз нейкіх пятнаццаць — дваццаць хвілінаў ужо былі ахопленыя ўсеагульным страхам. Што здарылася? Вайна? Нейкая буйная катастрофа? Усіх нас падазраюць у глабальным злачынстве, здрадзе Радзіме, спробе захопу самалёта, ці аэрапорта, ці Сімферопаля ўвогуле (у забруджванні Чорнага мора, пагрозе Турцыі)? Зараз міліцыянты роўнымі шэрагамі пойдуць правяраць дакументы? Абшукваць багаж, пратыкаць шомпаламі кавуны і персікі?

Адказаць, што на самай справе адбывалася, не мог ніхто. Людзі маўкліва займалі свае месцы на лаўках, сядзелі на праходах, спрабавалі ўладкавацца на вялізных падаконніках. Дзеці не бегалі і не шумелі, разумеючы, што адбываецца нешта занадта сур'ёзнае. Нейкае дзіцё не вытрымала і заплакала. Дыхаць станавілася ўсё цяжэй і цяжэй, на вуліцу нікога не выпускалі. У рэшце рэшт незнаёмая жанчына страціла прытомнасць. Медсупрацоўнікі вельмі хутка апынуліся побач. Па залі плакала ўжо не адно дзіцё. Спробы выйсці на вуліцу заканчваліся нічым. Спытацца што-небудзь было нельга. Любыя размовы перарываліся загадамі заняць сваё месца. Мы адчувалі сябе закладнікамі.

У нейкі момант было загадана пакінуць рэчы на сваіх месцах і ўсім арганізавана выйсці на вуліцу. Па жывым калідоры, сярод міліцыянтаў, мы трапілі на пляцоўку, з якой было бачна лётнае поле. Людзі недаўменна пераглядаліся, перагаворваліся шэптам. Толькі адзін чалавек, здавалася, нічога не баяўся. Гэта быў аграмадны, паголены налыса каўказец, які ўвесь час уголас выказваў прэтэнзіі: «Шьто хацят, то тварят! Я уже давно дольжен улетаць атсюд!..»

Раптам, быццам бы зніадкуль, па руках пайшлі папяровыя кветкі, надзьмуўныя шарыкі, невялікія сцяжкі з чырвонай матэрыі, на якіх было напісана нешта кшталту «Мір» і «Дружба». Адразу натоўп павесялеў, і тут жа «сарафаннае радыё» пачало перадаваць — зноў жа шэптам, ці вельмі нягучна і загадкава, адзін аднаму «на вушка» — кавалачкі інфармацыі, якія, быццам бы ў калейдаскопе, можна было складаць у розных камбінацыях: «...урадавыя "Чайкі"...», «...Брэжнеў тут...», «...палітбюро ў поўным складзе...»

Толькі каўказскі чалавек працягваў сваю тэму: «О, шайтан, какіе чайкі! Какой палітбюро! Да пошлі ані падальшь! Мне літаць нада! Я ужі давно должін быць нэ здэсь!..»

Тым часам і сапраўды тры аўтамабілі «Чайка» не вельмі хутка праехалі ў кірунку да лётнага поля. За імі каля дзесяці навюткіх «Ікарусаў» павольна, як на паказе мод, прадэманстравалі натоўпу шчыльна закрытыя белымі фіранкамі салоны. Дружны савецкі калектыў патэнцыяльных авіяпасажыраў сімферопальскага аэрапорта нядружна прагуў нешта кшталту ці то прывітання, ці то здзіўлення. Нехта ляніва памахаў кветкамі. Я, спрабуючы таксама далучыцца да шматпакутнага свята, выпадкова лопнуў шарык. Тут жа перад шараговымі міліцыянтамі, якія ўтваралі жывую заслону, з'явіўся афіцэр і пачаў пільна ўглядацца ў тое месца, адкуль пачуўся пляскач. Твары маіх бацькоў выцягнуліся і збялелі. Але абышлося. Афіцэр не стаў расцэньваць інцыдэнт як спробу замаху ці дыверсію...

На ўзлётна-пасадачную паласу, вельмі далёка ад сваіх гледачоў, выехаў незвычайны, бруднага неакрэсленага колеру, з нязвыклай сімволікай на бартах замежны самалёт. «Боінг...» — нягучна пракаментаваў нехта з натоўпу. «Какой "боін-шмоін"?! Кагда законшіся этат безабразій? Мне давно нэ здэсь нада быць...» — паляцела ў адказ гнеўная тырада. Тыя дарослыя, хто стаяў вакол, сувора паглядалі на падазронага бунтаўшчыка, але нічога яму не гаварылі. Ад яго свабоды выказванняў мне зрабілася не па сабе. Нават у дзевяцігадовым узросце я ўжо ўсведамляў, што савецкаму чалавеку так гаварыць «нельга».

Калона «Ікарусаў», якую ўзначальвалі тры «Чайкі» — бліскучыя, чорнага колеру, легендарныя «крэмлёўскія кабінеты на колах», праехала ў зваротным кірунку.

Вельмі хутка гучнымі камандамі міліцыянтаў натоўп быў развернуты і зноў па «жывым калідоры» накіраваны да будынку аэравакзала. Нашыя рэчы былі на сваіх месцах. Праз кожныя пяць — дзесяць хвілінаў па гучнай сувязі пачалі аб'яўляцца вылеты рэйсаў, і ў хуткім часе зала чакання



лётнай установы горада Сімферопаля апусцела і ўвайшла ў звыклы рэжым сваёй працы.

У магілёўскім аэрапорце нас сустрэў нехта з татавых знаёмых з машынай. Калі дома мы распакоўвалі свае чамаданы, торбы і валізы, вымаючы з іх сакаўныя экзатычныя прадукты і сувеніры, па тэлевізары якраз пачалася «перадача № 1» для ўсяго Савецкага Саюза — легендарная «Программа "Время"»« пад незабыўнае музычнае суправаджэнне аўтарства Георгія Свірыдава.

Першым блокам навінаў ішла ашаламляльная інфармацыя аб тым, што ў нашую краіну прыляцеў прэзідэнт ЗША (па сенсацыйным узроўні падзея для тагачасных савецкіх абывацеляў прыроўнівалася да прылёту на нашую планету кіраўніка суседняй галактыкі). Са словаў дыктараў, прыляцеў прэзідэнт не абы-куды, а ў Сімферопальскі аэрапорт. І там ужо, як аказалася, «весьсоветскийнародсвоодушевлениемибезотчётнойрадостью» сустракаў лідара Злучаных Штатаў. Прычым народ няблага падрыхтаваўся: нарабіў папяровых кветак, надзьмуў шарыкі (хаця — «...Отставить шарики! Товарищ полковник, в следующий раз вместе со своими шариками пойдёте в отставку!..»), нарыхтаваў чырвоных сцяжкоў з надпісамі «Мір» і «Дружба», сабраў прадстаўнікоў неабсяжнай Радзімы з самых розных бакоў — з Казахстана! «Ура-а-а!»; З Далёкага Усходу! «Да здравствует...!»; З берагоў Паўночнага Ледавітага акіяна! «Вечно живой...!»; З кітайска-савецкай мяжы! «Даёшь автоматы Калашникова китайского производства! Ура-а-а!!!»; З савецкай Белорусії! «Жыве-е-е Белару-у-усь!!!»

(Паўза.)

«...Товарищ полковник, промотайте-ка чуть-чуть назад... Чё-то мне тут показалось...» Выявы людзей на відэазапісе хуценька пабеглі назад, падымаючы па трапе амерыканскую дэлегацыю спінай да выйсця з самалёта. Кадр змяніўся. «Стоп!» Аграмадны, паголены лысы чэрап нахіліўся вельмі блізка да камеры і спытаўся з пагрозай: «Шьто такой? Я когда-нібудь улечу адсюд?..»

«А-а, так это ж майор Абдулганиев! От уже, бл...дь, изгаляется как может, провокатор хренов, твою мать...»

Усе тэленавіны былі прысвечаны падзеі з'яўлення Рычарда Ніксана на савецкай зямлі. Я глядзеў у экран і не мог паверыць сваім вачам — я памятаў амаль што ўсіх гэтых людзей з аэрапорта стомленымі, раздражнёнымі і хаваючымі сваю раздражнёнасць. Але на тэлеэкране ўсё было па-іншаму. Зусім па-іншаму! Голас дыктара чароўным чынам рабіў сітуацыю прынцыпова інакшай — людзі па-сапраўднаму радаваліся, усміхаліся, махалі кветкамі, сцяжкамі. Праўда, бязгучна. Хуткая нарэзка патрэбных кадраў рабіла сапраўдны цуд.

Я нават пачаў думаць, што была яшчэ нейкая іншая група людзей, якая сапраўды так радавалася, крычала і махала рукамі, у адрозненне ад нашай, дзе людзі ледзь перасоўвалі ногі ад стомы і спякоты. А тое, што ў кадрах трапляліся знаёмыя твары, — я падумаў, — гэта проста некаторыя нашыя, «сумныя», нейкім чынам патрапілі ў групу тых, «вясёлых», і заразіліся іхным настроем. Але, калі камера рухалася ўздоўж натоўпу, я раптам разгледзеў кавалачак мамінай яркай спадніцы, татаў капялюш ад сонца, а таксама свой локаць і шорты.

Я павольна перавёў позірк спачатку на ўласны локаць, потым на шорты, у якія яшчэ да азначанага часу быў апрануты. І зразумеў, што гэта ўжо не проста запыленая вопратка, якая боўтаецца на нагах. Перад маімі апушчанымі долу вачыма пералівалася колерамі і зіхацела частка сусветнай гісторыі.

Магчыма, у той момант у маёй свядомасці і адбыўся падзел. З аднаго боку, я яшчэ заставаўся чалавекам, а з іншага — ужо стаў «саўком». У тым сэнсе, што пачаў успрымаць рэчаіснасць дваіста: «тут» — тое, што адбываецца на самай справе, а «там» — тое, што патрэбна «камуністычнай партыі і ўсяму савецкаму народу» (гл. тэлевізар).

Калі б можна было рабіць назвы апавяданняў вельмі доўгімі, то ў нашым выпадку гэта выглядала б наступным чынам: «Шоу павінна працягвацца, а звераферма застаецца звераfермай...» Цяпер я ўпэўнены, што ў «Чайках» ды «Ікарусах», якія праехалі тады перад намі, акрамя кіроўцаў, нікога не было. Так для праграмы «Время» здымаліся патрэбныя сцэны. Мы — «масоўка», машыны ды самалёт — «дэкарацыі», а прэзідэнт выходзіў дзе-небудзь зусім у іншым месцы, і здымалі яго зусім іншыя камеры.

Шмат чаго мяняецца ў свеце, шмат чаго застаецца ў нязменным выглядзе. Некаторых ужо няма сярод жывых. Няма Фрэдзі, няма Сіда. Сыходзяць парсы, і персы таксама сыходзяць. Сышлі Леанід Брэжнеў і Рычард Ніксан. А Давыд па-ранейшаму працягвае рабіць шоу. Гэта азначае, што і шоу працягваецца, як завяшчаў вялікі Фрэдзі, а дзе-нідзе (нават да сённяшніх часоў!) і звярафермы застаюцца звярафермамі, не горш, чым у Оруэла...

## TELECASTER

Праз дваццаць год пасля апошняй вайны ў вёсцы Прыбар яшчэ не было электрычнасці. Тагачаснае кіраўніцтва дзяржавы вызначыла агульны тэрмін «неперспектыўныя» ў адносінах да невялікіх паселішчаў, і Прыбар апынуўся ў гэтай непаспяховай катэгорыі. Нягледзячы на гэта (дзякуючы гэтаму), вёска стаяла сабе на беразе Дняпра, жыла ў поўнай гармоніі з навакольным асяроддзем ды ў адпаведнасці з набытым у папярэдніх стагоддзях досведам выжывання.

Бацьку пасля заканчэння лесагаспадарчага факультэта па размеркаванні накіравалі ў прыбарскае лясніцтва. Яго маладая жонка, то бок мая маці, да таго як нарадзіла мяне, уладкавалася на працу ў вясковую краму. Тэрмін пасляродавага адпачынку быў не больш за два месяцы. Далей можна было не працаваць, але і дапамогі ніякай не прадугледжвалася.

Маці зноў пачала гандляваць у краме праз пару месяцаў пасля родаў. Увечары кожнага дня працягвала прадаваць проста з хаты, куды забірала тавар з працы. Хата стаяла недалёка ад крамы. Тавар быў вядома які — хлеб ды гарэлка.

Напэўна, ужо на трэцім месяцы жыцця я дакладна спазнаў, што такое сапраўдны прыдняпроўскі блюз. Адна са звычайных карцінак таго часу: да мамы ў краму заходзіць вусаты, барадаты дзед. «Галя! Іду міма вашай хаты, чую — малеча моцна крычыць! Я зайшоў у пакой, пагайдаў, паразмаўляў з ім... Але ўсё роўна крычыць!..» Мама вешае на дзверы крамы аркушык з настальгічным для кожнага савецкага чалавека надпісам «Буду праз 15 хвілін» і бяжыць мяне карміць.

Адзіны чорна-белы фотаздымак тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят пятага года захаваў наступны момант: на драўляным ганку вясковай хаты мама трымае мяне на руках. Яна ў прыгожай сукенцы. Лёгкая хустачка, завязаная ззаду, ахоплівае галаву. Мы мружымся ад сонца. Магчыма, нядаўна прайшоў дождж, таму што босыя маміны ногі па костачку ў гразі. Праз дваццаць гадоў пасля апошняй вайны ў вёсцы Прыбар не было яшчэ і дарог...

Бацька быў першым чалавекам у вёсцы, хто набыў тэлевізар. Калі праблема бездарожжа сяк-так вырашылася і тэлевізар усё ж патрапіў дадому, то без электрычнасці абысціся было немагчыма. Адзіным выйсцем стаў перасоўны электрарухавік, які тата заводзіў як мага далей ад хаты, каб ён не заглушаў гук тэлеэфіра. За першыя дні тэлесеансаў у бацькоўскай хаце перабывала ўся вёска. Невядома, наколькі тата тады ўсведамляў, што стаў своеасаблівым распаўсюджвальнікам тэлехваляў у сваім рэгіёне. Хутчэй за ўсё не засяроджваў на гэтым увагі. У тыя часы, дарэчы, гэта была вельмі папулярная тэма, сапраўдная мода ў галіне найноўшых тэхналогій — магчымасць перадачы інфармацыі з дапамогай тэле- і радыёхваляў вакол зямнога шара, у стратасферы, у космасе. Ідэя захоплівала думкі звычайных людзей, простых будаўнікоў вялікай сацыялістычнай будучыні краіны Саветаў.

Хаця, шчыра кажучы, мода гэта датычылася і ўсяго астатняга свету, і гадоў за дзесяць да вышэйзгаданых падзей у супрацьлеглым лагеры сусветнай палітыкі, нават па геаграфічным размяшчэнні, амерыканец Ліа Фэндэр зарэгістраваў назву аднаго са сваіх вынаходніцтваў: электрагітары з цэльным корпусам «Fender Telecaster». Крыху раней ён спрабаваў зарэгістраваць для гэтага інструмента брэнд «Broadcaster» (што азначае «той, хто распаўсюджвае радыёхвалі»), але вядомая фірма па вытворчасці барабанаў ужо запатэнтавала такую назву і адсудзіла сваё права яе выкарыстоўваць. Таму, суадносна з нарастаючай папулярнасцю тэлебачання, наступным крокам у распрацоўцы брэнда Ліа Фэндэр вырашыў выкарыстаць назву новай ступені інфармацыйных тэхналогій — «Telecaster». Што адпавядае словаспалучэнню «той, хто распаўсюджвае тэлехвалі». Пазней гэты вядомы канструктар электрагітар прыдумаў назву «Stratocaster» для сваёй наступнай распрацоўкі.

Як дзіўна ўсё пераплятаецца ў гэтым свеце — значна пазней я адыграў шмат блюзавых канцэртаў менавіта на

«стратах». А бацька ўжо ў сталым узросце ўспамінаў, што далучыўся да сапраўднай таямніцы перадачы і прыёму тэлехваляў на вялікія адлегласці, калі наладзіў своеасаблівы фізікабіятэхнічны ланцужок: крыніца энергіі — прымач тэлехваляў — аператар, кіраўнік працэсу. Лічы, сапраўдны «тэлекастэр».



# САГА ПРА ШКОЛУ МУЗЫКІ

Я ні ў якім выпадку не паэт і ні ў якім выпадку не музыкант. Дзесяць стагоддзяў таму гэта не падзялялася, і я не бачу нагоды, каб падзяляць гэта сёння...

*Б. Г.*

*Саксафаніст Мат Густафсан заплюшчыў вочы, паднёс інструмент да вуснаў і знерухомеў, нібыта шукаючы патрэбную хвалю, на якой павінна пачацца музыка. У святле пражэктараў ягоная адзінокая постаць на аграмаднай сцэне выглядала загадкава і вымушала чакаць чагосьці цікавага, нязвыклага, неверагоднага. Перапоўненая зала сталічнай філармоніі ўважліва чакала. Зорка скандынаўскага фры-джазу раптам напружыўся, згарбаціўся, прысеў ,і рэзка выпрастаўшыся, выдаў першы гук. Гэта не была музычная нота. Гэта быў сіп з пераходам у віск. Потым сіпатыя гукі пасыпаліся бязглуздымі, неўпарадкаванымі плынямі. Яны лупілі па свядомасці, і здавалася, што галоўнай мэтай вядомага саксафаніста і яго інструмента было выдаваць любыя гукі, акрамя тых, што за доўгую гісторыю станаўлення сучаснай культуры стала прынята называць музычнымі. Ён хацеў здзівіць, хацеў паказаць нешта такое, чаго не паказвае ніхто, акрамя яго, хацеў шакіраваць, збіць са звычайнай хвалі ўспрымання музыкі. Увесь час карцела спытацца — чаго яму не хапала ў дзяцінстве, што ён страціў ці не паспеў набыць?..*

Школа, дзе выкладаюць, адпаведна, і вывучаюць, музыку, магчыма, з'яўляецца адным з найцікавейшых вынаходніцтваў чалавечага грамадства ў перадачы пэўнага досведу. На пытанне «Якога менавіта?» звычайна адказваюць: «Культурнага». Але ж нам да сённяшняга часу так і не вядомы сапраўдныя таямніцы мелодыі, гармоніі і рытму. Як

і на каго яны ўплываюць, хто і ў якой меры адчувае гэты ўплыў, а хто толькі памыляецца, думаючы, што адчувае? І самае галоўнае — якая інфармацыя перадаецца, адкуль і куды? З'яўляемся мы першапачатковымі ствáральнікамі і адзінымі ды апошнімі спажыўцамі вынікаў гульні з рэзанансам гукавых хваляў, ці толькі медыумамі, якія аднекуль атрымліваюць і перадаюць далей нешта такое, што закранае нас, магчыма, толькі на падсвядомым узроўні? Ці мелі старажытныя музыкі свае школы? Ці іхні сакральны досвед складаўся дзякуючы бесперапыннаму руху, бясконцай дарозе, таму і звалі іх вандроўнымі? І што клікала іх у тую дарогу — прага да дзіўных прыгодаў ды неверагодных спатканняў ці неадольнае жаданне адкрыцця, звязанае з іншымі краямі ды невядомымі культурамі?

*...Барадатыя, з пасечанымі тварамі, аграмадныя мужчыны, трымаючы ў руках мячы, баявыя сякеры, вострыя коп'і, акружылі зусім яшчэ юнага хлопца, які з жахам прыціснуў да грудзей дзве дудкі. Адну маленькую, крыху большую за даўжыню далоні, другую вялікую, амаль на два ўласных локці. Уперад выйшаў сапраўдны волат, на галаве якога спраўна сядзеў шлем з рагамі быка. Ён быў апрануты ў ваўчыныя шкуры.*

*— Я ведаю яго. Гэта сын Густафа з Берага Арлінага Возера. Ён лічыцца скальдам, але кажуць, што галава яго крыху не ў парадку. Вельмі дзіўна грае на сваіх дудках...*

Верагодна, у малодшым школьным узросце медыум з мяне атрымліваўся не дужа добры, бо пасля года навучання ў музычнай школе я быў адлічаны як «неперспектыўны». З гэтага перыяду выдатна запомніліся ўступныя экзамены, аўтарытэтная камісія чалавек з васьмі за сталом з традыцыйным графінам, а таксама стан той камісіі, блізкі да сапраўднай медытацыі. Жадаючых авалодаць музычнай практыкай ды тэорыяй, карацей кажучы, палепшыць майстэрства медыумаў, набілася ў маленькі калідорчык музычнай школы столькі, што было вельмі складана праціснуцца да дзвярэй прыёмнай камісіі. Хаця, здаецца, «ціснуцца» трэба было больш праз бацькоў патэнцыйных медыумаў. Будучы гонар музычнага мастацтва, гэта значыць мы, самыя маленькія ўдзельнікі ўрачыстай акцыі, па чарзе падыходзім да камісіі і барабанім па стале, адбіваючы нескладаныя рытмы.

Атмасфера мерапрыемства чамусьці засталася ў памяці нейкай напружанай і нервовай. Амаль што ўсе дзеці ўпершыню сутыкнуліся з такім «выпрабаваннем», таму некаторыя, не разумеючы, чаго ад іх хочуць, перадаюць не зусім рытм, а недзе і дынаміку. Зараз я стаўлюся да гэтага менш за ўсё з іроніяй — дзеці на такіх «экзаменах» не выстуквалі патрэбны рытм зусім не з-за таго, што не чулі яго, а, магчыма, з-за таго, што, напрыклад, адчувалі сябе няёмка ці не жадалі нешта паказваць перад кімсьці, хто ім не спадабаўся. Шмат з тых, хто ў свой час атрымаў адзнаку «незадавальняюча», на самай справе маглі валодаць і выдатным слыхам, і цудоўным пачуццём рытму. Памятаю, што майму школьнаму сябру на прыёме ў музычную школу не пашанцавала. Ён не прайшоў выпрабаванне рытмам, засяродзіўшыся на тым, чым менавіта гэты рытм адбівалі. У будучым ён скончыў тэхнічную ВНУ і стаў неблагім інжынерам.

*...Другі вялізны вікінг з капой рудых валасоў і рудой барадой наблізіўся да хлопца і павольна вымавіў: «Ну, калі ты скальд, пакажы, як ты на сваіх дудках распавядзеш пра нашую сустрэчу...» Хлопчык стаяў, апусціўшы ўніз галаву, і цяжка дыхаў. Адчувалася, што ён вельмі напружаны, але ніякіх рухаў рабіць не спяшаўся. Руды вікінг павысіў голас: «Ну, ты будзеш нам граць ці не?!» Хлопчык нерухома стаяў некалькі імгненняў. Потым паднёс маленькую дудку да вуснаў, і зноў замёр, нібыта чакаючы патрэбнага моманту, каб зайграць. Ён згарбаціўся, уцягнуў галаву ў плечы і чакаў, чакаў, гіпнатызуючы сваім чаканнем і ўсіх астатніх. Як ні сачылі за ім ваяры-вікінгі, але ж першы гук прымусіў іх літаральна адхіснуцца, калі хлапец нечакана моцна і пранізліва віскнуў з дапамогай свайго інструмента. Ад напругі юны музыка пачырванеў. Ён зрабіў паўзу, набраў поўныя лёгкія паветра*

*і зноў выдаў рэзкі, вельмі моцны і высокі гук. Ён працягваў выдзьмуваць гэтыя трывожныя, зусім немеладычныя гукі, увайшоўшы ў нейкі незразумелы экстаз, і дудзеў хвіліну, дудзеў другую, дудзеў трэцюю, чацвёртую... Руды вікінг таксама пачырванеў і напружыўся, нават неяк ненатуральна надзьмуўся, нібыта разам з хлопцам і яму вельмі цяжка даваліся гэтыя крыклівыя, вельмі трывожныя, нервовыя гукі...*

Мне здавалася, што першы настаўнік па спецыяльнасці мяне адразу не ўпадабаў. Можа быць, таму, што з-за баяна мяне было дрэнна відаць? Ці за тое, што адчуваў сябе вінаватым, што не ўмею на ім граць? А гэты вялізны чалавек любіў канкрэтыку. «Цягні мацней!» — крычаў ён, патыхаючы перагарам, і ператвараўся ў маіх вачах у сапраўднага Змея Гарыныча з казак, выпуск якіх наладзіла выдавецтва «Дзіцячая літаратура». Я ж, як ні намагаўся, усё не мог ператварыцца ў Іллю Мурамца з тых жа казак, каб спраўляцца са Змеем Гарынычам. Таму з усёй моцы цягнуў мех і выдаваў гукі, больш падобныя на нягучнае ржанне каня вядомага асілка. Чым, напэўна, вельмі раздражняў Гарыныча (на самай справе настаўніка звалі Леанід Восіпавіч, і ўсё насельніцтва мястэчка ведала яго па мянушцы «Уцёсаў»).

Леанід Восіпавіч, расхваляваўшыся, што я не дужа добра імітую голас багатырскага каня, выходзіў у суседні кабінет, дзе яго калега выкладаў акардэон. За перагародкай з фанеры, што замяняла сцяну, яны нядоўга абмяркоўвалі некаторыя вытворчыя пытанні, прычым амаль заўсёды быў чутны ціхенькі звон бутэлечкі аб шкляначку. Ведаеце тост за мілагучнасць беларускай мовы? «...Ці лілі, ці не лілі? Ці лілі, ці не лілі?»... Чамусьці ўсё, што адбывалася ў той час з маім настаўнікам, зараз асацыюецца ў мяне з гэтым выдатным беларускім музычным тостам. Калі настаўнік вяртаўся, то дыхаць было ўжо ўвогуле праблематычна, таму што з рота ў яго вылятаў амаль што сапраўдны агонь, які, здавалася, выпальваў увесь кісларод вакол Леаніда Гарыныча і яго колішняй ахвяры.



*...Вялізны ўскудлачаны рудабароды чалавек бег за юнаком і раз'юшана крычаў: «Шчанюк! Я цябе навучу, як паважаць старэйшых! Ты, напэўна, хацеў мяне абразіць! Клянуся Одзінам, у цябе гэта не атрымаецца!..» Але той, каго ён так прагнуў дагнаць, быў маладзейшы і спрытнейшы. Да таго ж, маладому хлопцу, які прыціскаў да грудзей свае дудкі, дадаваў моцы страх апынуцца ў руках раз'юшанага варвара. Астатнія вікінгі са смехам назіралі гэтую пагоню і толькі выкрыквалі: «Ды пакінь ты яго, Дацкая Галава! Мы ж табе казалі, што гэта сын Густафа, вельмі дзіўны скальд! Ты ж сам напрасіўся на яго музыку!..»*

Апісваючы ў такіх фарбах свайго першага музычнага настаўніка, я карыстаюся зараз усё ж дзіцячымі ўражаннямі. Нікуды не падзецца пэўны перыяд «вогнепаклонства» майго выкладчыка, але ўвогуле гэты чалавек быў нядрэнным спецыялістам, зусім не апошнім у нашай музычнай школе. Які да таго ж у свой час, у сярэдзіне 60-х гадоў, гэтую школу (разам з калегам па суседнім кабінеце) уласнаручна пабудаваў. Пазней мяне яшчэ вельмі ўразіў той факт, што ў сваёй працоўнай кніжцы Леанід Восіпавіч меў толькі адзін запіс: ён быў прыняты на працу пасля заканчэння музычнага вучылішча, а праз сорак з нечым гадоў звольнены ў сувязі з выхадам на пенсію. Для мяне з маімі дзясяткамі працоўных запісаў з розных гарадоў і з самых разнастайных арганізацый гэта быў узорна-паказальны выпадак.

Вяртаючыся да адноснай храналогіі, хачу дадаць, што, калі праз гадоў пятнаццаць пасля сумнага досведу навучання на баяне я ўладкаваўся на працу ў тую ж школу выкладаць гітару, мы сябравалі з Леанідам Восіпавічам, і я часта заходзіў да яго ў кабінет. На яго пытанне «Як жа такое здарылася?» я заўсёды адказваў: «Не турбуйцеся, Леанід Восіпавіч, гэта не той выпадак, калі здарылася нешта жудаснае...»

*...Мат Густафсан утрымліваў увагу залы больш за гадзіну. Так, былі тыя, што сыходзілі, — дзясяткі два чалавек не здолелі праслухаць да канца вельмі спецыфічную праграму*

*зоркі сусветнага фры-джазу. Напрыклад, бабуля, якая прыняла на сапраўдны джазавы канцэрт унука-саксафаніста гадоў дзесяці, усяго пакрытага рабаціннем, патрапіла ў крыху няёмкае становішча. Калі зала заціхла ў чаканні першага твора, маленькі хлопчык, зразумела, таксама чакаў свайго адкрыцця. Але калі спадар Густафсан выдаў першыя гукі і заціх, набіраючыся моцы, каб зайграць далей, хлопчык міжволі, цалкам шчыра, на ўсю залу сказаў: «Бабуля, дык ён жа граць не ўмее...» Бабулю такое адкрыццё не надта ўразіла, яна ўпарта спрабавала разабрацца з гэтым пытаннем яшчэ хвілінаў пятнаццаць — дваццаць. Але яе нервовая сістэма больш вытрымаць не магла — яны з унукам пакінулі залу.*

*У хлопчыка, які стараўся не адставаць ад бабулі, увесь час было нейкае дзіўнае адчуванне. Ён даганяў яе і спрабаваў зазірнуць у вочы. Але бабуля (якая, дарэчы, уяўляла сабой высокую прыгожую жанчыну, рудавалосую, скандынаўскага тыпу — яе продкі былі аднекуль з Даніі) упэўнена крочыла да аўтамабільнай стаянкі і, здавалася, не звяртала на ўнука ўвагі. Хлопчыку так карцела пагаварыць з ёй пра незвычайнага саксафаніста. Але ён ніяк не мог знайсці патрэбных слоў, каб расказаць, што даўным-даўно, значна болей часу, чым ён жыве на гэтым свеце, нешта падобнае на сустрэчу з такім самым дзіўным музыкам ужо аднойчы адбывалася...*



# ХРОНІКА СНЕГАПАДАЎ

«Верагодна, праблемы распаўсюджвання гукавых хваляў, спецыфіка іхняга адбітку ў закрытым памяшканні, а таксама канструкцыйныя асаблівасці электраакустычных сістэмаў не дужа хвалявалі публіку, што сабралася ў фае невялікага вясковага клуба. Гэта было зразумела па тым, як на дзвюх вялізных калонках, што ўвасаблялі ўсю гукавую моц мясцовага ансамбля, ляжала аграмадная гара зімовых паліто, футраў, цёплых куртак. Адзенне бесцырымонна закрывала амаль што палову пярэдняй панэлі з дынамікамі ў кожнай з калонак. Неўзабаве высветлілася своеасаблівая сувязь паміж адсутнасцю гардэроба і якасцю гучання вакальна-інструментальнага ансамбля.

Танцавальная праграма адкрывалася бадзёрай песенькай у выкананні чатырох музыкаў — басіста, барабаншчыка, клавішніка і вакаліста-гітарыста. Асноўную масу прысутных складалі дзяўчаты, якія аказаліся больш лёгкімі на пад’ём. Яны тут жа апынуліся перад “сцэнай” і пачалі танчыць. Мужчынская частка не дужа актыўна далучалася да сваіх сябровак, ці то з-за жадання паказаць сваю сталую разважлівасць, ці то з нагоды добрых порцый прынятага спіртнога — Новы год як-ніяк. Але, нягледзячы на запавольную рэакцыю, з часам у зале з’явіліся пэўныя фаварыты танцавальнага мастацтва. Музыканты з энтузіязмам падтрымлівалі агульную весялосць.

Першым пакінуў імправізаваную эстраду клавішнік. Ён быў кіраўніком ансамбля, да таго ж самым старэйшым з удзельнікаў, яму было дваццаць пяць. У дадатак да ўсяго ён яшчэ выконваў функцыі загадчыка клуба, таму патлумачыць калегам, што яму неабходна тэрмінова адысціся “па рабоце”, было нескладана.

Другім знік басіст. У зале нарэшце з’явілася дзяўчына, якую ён з нецярплівасцю чакаў яшчэ ад пачатку імпрэзы. Гітарыст раптам убачыў басіста ў цэнтры залы. Ён танчыў.

Нават не — басіст быў у стане выканання сапраўднага рытуалу. Напэўна, усё ж такі жыццесцвярджальнага характару, але здавалася, што ён прынясе смерць любому, хто асмеліцца наблізіцца да яго ўдзельнікаў. Басіст выкручваўся вакол сваёй каханай, падаў на калені, адкідваўся на спіну. Потым падхопліваўся і ў дзікім захапленні зноў кружыў вакол аб'екта пажадлівасці. Скончылася гэта ў хуткім часе тым, што ў адзін момант танцор не разлічыў ці то вугал павароту, ці то ўласную моц, патроеную на хвалі эмацыйнага парыву, — ён як пушынку схапіў дзяўчыну, шалёна закруціўся, не ўтрымаў раўнавагі і абрынуўся разам з ёй на падлогу. Тут жа ўскочыў, паспрабаваў дапамагчы каханай, атрымаў аплявуху і пабег за дзяўчынай на вуліцу. Зразумела, што яму ўжо было не да ігры на бас-гітары.

Хай сабе без клавішніка, але аказалася, што і без басіста ўсё працягвала гучаць амаль без змен. Ручкі двух узмацняльнікаў былі да ўпору выкручаны ў бок максімальнай гучнасці. Футры і курткі на калонках выконвалі функцыю адмысловых фільтраў. Апаратура, працуючы з вялікай перагрузкай, выдавала скажоны, аглушальны саўнд. У гэтым дыяпазоне апыналіся гітара і голас. Бубнач з усёй моцы лупіў у непадгучаныя бубны, але і яны тапіліся ў скрыгаце сплеценых вакальных і гітарных партый, што гучалі з дынамікаў з “драйвавым” перагрузам.

Бубнач і басіст былі сябрамі з дзяцінства. Ім абаім было каля васямнаццаці. Вогненна-руды, пакрыты з галавы да ног рабаціннем, бубнач крыху камплексаваў з-за сваёй знешнасці і ўпотай зайздросціў басісту, на якога звярталі ўвагу амаль што ўсе дзяўчаты, якія прыходзілі ў клуб на танцы. У адрозненне ад калегі, у бубнача тут не было ніводнай знаёмай дзяўчыны. Можа быць, гэтыя абставіны, а ў дадатак — разуменне таго, што бубнаў усё роўна не чутно, — прымусілі і бубнача ў рэшце рэшт пакінуць працоўнае месца.

Самы малодшы з усіх музыкаў — гітарыст (у свае чатырнаццаць год пачуццё адказнасці вымушала яго заставацца на імправізаванай сцэне пры любых абставінах) працягваў выконваць набор сваіх шлягераў. Шукаць калег не было ні



часу, ні магчымасці. А ў зале пакуль што ніхто не заўважыў адсутнасці музыкаў. А можа, хто і заўважыў, ды быў упэўнены, што так і задумана? Сольная праграма юнага гітарыста?

Адзінае, што замінала выступоўцу, — гэта мясцовыя аматары барабаннага мастацтва, якія заўважылі вакантнае месца за ўдарнай установкай. Яны па чарзе залазілі на вольнае крэсла і хто як мог перадавалі рытм і дынаміку твора. Гралі яны чым папала, і гітарыст час ад часу збіваўся з уласнага рытму, калі падаў на падлогу які-небудзь барабан ці валілася стойка з талеркай. Энтузіясты барабанных спраў маглі не падзяліць між сабой чаргу, і тады ўзнікала кароткатэрміновая бойка. Нарэшце іхні калектыў распаўся, разваліўшы заадно і ўдарную ўстаноўку, якую “барабаншчыкі” так і не здолелі сабраць у зыходнае становішча...»

**Пасляслоўе і каментары шырокавядомага крытыка Н. Рэкамендацкага (прадстаўніка грамадскага аб'яднання «Вузкае кола»)**

**ROADHOUSE**

Тэкст, які мы разглядаем у дадзеным выпадку, з'яўляецца ўрыўкам з твора «Варыяцыі на асноўную тэму». Аўтар прапануе апісанне творчай дзейнасці з часоў свайго ранняга юнацтва, а дакладней — перыяду ўдзелу ў складзе ансамбля сельскага дома культуры вёскі Л.

З аналізу гэтай тэмы вынікае, што мы маем у наяўнасці расповед пра пачатак нялёгкага музычнага шляху — першыя напаўафіцыйныя клубныя (ніяк іначай) выступленні, першы выязны нідзе не анансаваны канцэрт, першы неафіцыйны ганарар, першая спроба ўжывання алкаголю, выпрабаванні гастрольнага жыцця і гэтак далей. Самі сабой напрошваюцца аналогіі з падпольнымі ўстановамі ЗША перыяду «сухога закона», у якіх гралі блюз (адкуль і алегарычная назва артыкула — «Roadhouse»*). Існуе меркаванне, што пры пэўных

* 1) Roadhouse — добрае, правільнае месца (Слоўнік ідыяматычных выразаў і слэнгу. ЗША, 1921); 2) roadhouse — пітны дом,

магчымасцях можна было б зняць нядрэнны блокбастар на тэму айчыннага музычнага руху ў правінцыі.

Па максімуму скарачаючы аб'ём працы, спынімся на дадатковых матэрыялах, што маюць для нас найбольшую каштоўнасць. У іх выкарыстоўваецца некалькі асноўных тэмаў і вобразаў, што ствараюць сапраўднае мазаічнае палатно, з дапамогай якога і адлюстроўваецца рэальная карціна падзей.

*Тэма дарогі.* Вобраз яе ўзнікае ў любых інфармацыйных блоках, якія закранае аўтар. Напрыклад, з незалежных крыніц вядома, што звычайна «на працу» разам з іншымі ўдзельнікамі калектыву герою трэба было дабірацца за сем кіламетраў на апошнім аўтобусе (гл. *Архіў аўтобусных раскладаў на пачатак 80-х гг. XX ст.*). Усе калегі, больш самастойныя і дарослыя музыкі, пасля вечара адпачынку заставаліся начаваць у вёсцы Л. А галоўнаму герою (чытай — аўтару ўрыўка. — З*заўв. рэд.*), асабліва ў першыя часы, даводзілася бліжэй да поўначы аднаму ісці дадому (бацькі былі ўпэўненыя, што існуе нейкі *міфічны* транспарт, які развозіць маладых музыкаў пасля іхняй нялёгкай працы па дамах).

*Дом пры дарозе.* У дадзеным выпадку вобраз прымае жахлівыя прыкметы свайго часу, і ў гэтым кантэксце ёсць магчымасць скарыстацца службовымі нататкамі аднаго з кіраўнікоў ніжэй узгаданага сельскагаспадарчага комплексу: «...Крыху ўбаку ад трасы знаходзілася жывёлагадоўчая ферма. Нямногім вядома, што, калі там аднойчы здарыўся «падзёж ската», тушы мёртвых жывёлаў выкідвалі ў раўкі побач з будынкам фермы, чым прывабілі немалую колькасць ваўкоў. Але ж многія памятаюць, што ў адну са сваіх начных вандровак малады музыка (дабіраўся па трасе

шынок, карчма за горадам (там, дзе не дзейнічаюць гарадскія абмежаванні на продаж спіртнога), з ежай, танцамі, азартнымі гульнямі. Выраз можна знайсці: Jeff Healey Band (When The Night Comes Falling Down), а. C. Reed (Roadhouse Blues); 3) «Road House» — «Прыдарожная ўстанова», фільм рэжысёра Роўдзі Хэрынгтона, 1989, ЗША. У галоўнай ролі Патрык Суэйзі. Песня «Roadhouse Blues» уключана ў саўндтрэк у выкананні Jeff Healey Band, якія зняліся там жа ў эпізадычных ролях.



пешшу дадому) пачуў у раёне фермы такое выццё, што на ўсе астатнія гады вобраз ваўка зрабіўся адным з галоўных у яго творчасці...

Зыходзячы з сітуацыі, калі становішча фаўны рэгіёна магло пагражаць фізічнаму здароўю і нават жыццю ўдзельнікаў культурных рэгіянальных працэсаў, мясцовае насельніцтва вырашыла наладзіць транспартныя камунікацыі (зноў тэма дарогі. — *Заўв. рэд.*). Сказаць, што гэта былі *міфічныя* камунікацыі, — гэта значыць не сказаць нічога. На самай справе мы маем перад сабой прыклад спосабаў дастаўкі, якія трапляюць пад катэгорыю *фантастычныя* (гл. *Легенды культавых асобаў беларускай зямлі. Усяслаў Чарадзей*).

*З успамінаў асуджанага К., якія захаваліся ў зборы дакументаў па крымінальных справах вёскі Л. (участковы інспектар Іваной Р. П., следчы Іваной П. Р.), у кантэксце тэмы «дома пры дарозе»*: «...Працэс на той момант выглядаў так: «фомкай» (невялікі лом, аздоблены прыстасаваннем для выцягвання цвікоў, прабояў і г. д.) узломваўся замок стайні, выводзіўся конь, запрагаўся ў сані, і ажыццяўляўся выезд на пакрытую асфальтам трасу. Па часе гэта адбывалася пасля вялікага снегападу, які адразу змяніўся адлігай з плюсавой тэмпературай днём і моцным марозам па начах (*для даследавання дадаткова рэкамендуецца літаратура: «Хроніка снегападаў нашага рэгіёна». Блн, выдавецтва «Перабудова», 198? г.)*.

Снегаўборачныя машыны мясцовай дарожнай арганізацыі збольшага прыбіралі вялікую колькасць ападкаў з дарожнага палатна на абочыну. З адлігай асфальт цалкам адкрыўся, а па баках дарогі засталіся ляжаць вялізныя горы падталага, а потым адразу замерзлага снегу.

Каня пусцілі па асфальце. Бедная жывёліна цягнула сані, якія жудасна скрыгаталі на ўсё наваколле, таму аб нападзе драпежнікаў можна было не хвалявацца — гэты сапраўдны беларускі стогн мог напужаць і ваўкоў, і рысяў, і мядзведзяў, разам узятых.

Убачыўшы, што конь не можа далей цягнуць сані па асфальце, «кіроўцы» вырашылі паехаць па заснежаным полі

ўздоўж дарогі. Паспрабавалі пераадолець аграмадныя камякі цвёрдага, як камень, снегу на ўзбочыне. У выніку «экіпаж» перакуліўся, і ўсе, разам з санямі і канём, паляцелі ў глыбокі кювет. Дзякуй богу, жывёліна нічога сабе не зламала. Ды і ўсе астатнія пасажыры і кіроўцы засталіся цэлымі...»

Магчыма, гэтыя прыгоды для аўтара пазней, прыкладна праз два гады, знайшлі свой адбітак у незабыўным канферансе падчас навагодняга канцэрта 1982 года: «Я думаю, што кожны з вас катаўся на конях, але ці задумваўся — едзе ён на сваім кані, ці на чужым?..». Пасля чаго быў выкананы тагачасны хіт са словамі: «Мне всегда во все года с конём везло. Но везенье — непростое ремесло. И когда пройдёт удача стороной — на моём коне окажется другой. А всё могло бы быть совсем не так...» *(гл.: Ахова аўтарскіх правоў, спісы твораў. М.: А. В. Макарэвіч).*

Тэма дарогі нечакана знаходзіць працяг у выкарыстанні (у межах дадзенага даследавання) мемуараў былога супрацоўніка дзяржаўтаінспекцыі, якія выпадкова маюць дачыненне да нашага героя: «...Разнастайнасць "службовай" дастаўкі музыкаў да месца пражывання ўражвала сваёй арыгінальнасцю. Напрыклад, мелі месца паездкі на матацыкле маркі "Восход" (без каляскі). Сярод мясцовага насельніцтва вёскі Л. лічылася, што тры чалавекі на два колы матацыкла — гэта норма. Прадстаўнікі транспартнай эліты ўласнымі дзеяннямі доўгі час спрабавалі ўнесці папраўку ў рэгіянальныя правілы дарожнага руху аб колькасці пасажыраў, але існавала старажытная мясцовая прыкмета — калі аднекуль у вас за спінай з'яўляецца міліцэйскі "уазік" з мігалкай, гэта значыць, папраўка яшчэ не працуе.

Што робяць дасведчаныя кіроўцы матацыклаў у такіх выпадках? Яны набіраюць абароты. Не заўсёды, праўда, атрымліваецца выруліць на скрыжаванні, і тады даводзіцца ўразацца ў плот бліжэйшага агарода. Па няпісанай інструкцыі, усе тры "наезнікі" збягаюць (дзякуй богу, што засталіся цэлыя і здаровыя), а "Восход" з паўгода стаіць на так званай "штрафпляцоўцы" мясцовага РАУС, дзе яго памалу разбіраюць на запчасткі. Але, што б хто ні гаварыў, дастаўка



музыканта адбылася. Як адбывалася яна і ўва многіх іншых выпадках — у кузавах грузавікоў, у трактарных ці экскаватарных кабінах, у калясках матацыклаў. Карацей, звычайным транспартам тагачаснага шоу-бізнесу...»

Нездарма ў недалёкай будучыні галоўны герой гэтых падзей створыць гурт пад назвай «Апошні шанец». Відаць, акалічнасці існавання ў папярэднім музычным асяроддзі паўплывалі на лад жыцця, светапогляд, адпаведна, і на выбар назвы наступнага калектыву. Назвы, якая яскрава падкрэсліла жыццёвыя прынцыпы не толькі героя, але і пакалення ў цэлым...

*P. S.* Клуб вёскі Л., які знаходзіўся пры дарозе ў кірунку з мястэчка Б. у мястэчка К., у хуткім часе зачынілі з-за аварыйнага стану будынка, а музычнае абсталяванне перадалі ў падшэфную школу райцэнтра *(гл. Архіў прыдарожных установаў).*

# КВІТКІ ДА АПОШНЯГА ШАНЦУ

Лёха быў маім лепшым сябрам на першым курсе. З першых дзён нашага знаёмства мы фанатычна рвалі струны на гітарах, пісалі паэмы і ўвогуле не дужа разумелі — навошта нам здаўся гэты дыплом інжынера. Напрыканцы гэтага самага курса трэба было вызначацца — ці варта працягваць далей навучанне? Вырашана было паехаць на праслухоўванне ў музычную вучэльню — Лёха выпадкова знайшоў абвестку ў газеце і прынёс мне.

Мы трэсліся на нейкіх электрычках усю ноч і ранкам патрапілі на сталічны чыгуначны вакзал. Пабадзяліся па залах чакання, якія на пачатку 80-х мелі дастаткова правінцыйны выгляд, папілі нейкіх сумніўных напояў у брудным вакзальным буфеце, распыталі, як даехаць да месца праслухоўвання.

За гадзіну да мерапрыемства на лесвічнай пляцоўцы перад лёсавызначальнымі дзвярыма назбіралася даволі шмат народу. У асноўным — выхаваныя дзяўчынкі разам з татамі і мамамі. Апошнія дапамагалі трымаць скрыпічны футарал ці тэчку з нотамі. Траляліся акуратна стрыжаныя хлапчукі ў белых кашулях і ў пінжаках з троечкай. Адзін патэнцыяльны абітурыент, які выглядаў намнога старэйшым за ўсіх, бесперапынна ганяў гамы на сваёй электрагітары. Пераблытаць ягоны інструмент было немагчыма ні з якім іншым — гэта быў сапраўдны чэхаславацкі «Diamant». Мара ўсіх саўковых рэстаранных лабухаў.

Дакладна можна сказаць, што мы ў сваіх пакамечаных джынсах, у скураных пашарпаных куртках, з доўгімі нямытымі валасамі моцна выбіваліся з шэрагу рэспектабельных прэтэндэнтаў.

У пэўны момант вызначыліся — я іду на праслухоўванне, а Лёха працягвае навучанне ў тэхнічнай ВНУ. Лёхава неўтаймаваная душа прыбівалася то да аднаго берага, то да другога ў акіяне сваіх магчымасцяў і інтарэсаў. Але ў сваёй жыццёвай пазіцыі ён застаўся верным сабе — характар яго патрабаваў пэўнай логікі ў дзеяннях: раз паступіў, то трэба працягваць навучанне.

У мяне было крыху па-іншаму. У тым сэнсе, што перспектывы для рок-музыканта з дыпломам інжынера ў светлай будучыні савецкага ладу не надта праглядаліся. Што ў жыцці гэта будзе асноўным заняткам, было зразумела на нейкім падсвядомым узроўні. Але дэталёва не дужа вымалёўвалася. Грунтоўным пацвярджэннем выбранага шляху быў зусім яшчэ нядаўні поспех уласнага гурта «Апошні шанец», гісторыя якога была кароткай, але багатай на падзеі. А яшчэ, як ні дзіўна, вельмі ўражвала рок-жыццё ў краінах так званага сацлагера: супергурты Венгрыі, Югаславіі, ГДР, Польшчы — яны ж нейкім чынам існуюць!..

Нарэшце з аўдыторыі са шчаслівым тварам выскачыла маленькая піяністка, якая толькі што віртуозна выканала два ці тры творы як мінімум з кансерваторскай праграмы. Расчуленыя бацькі абдымалі яе і шапталі віншаванні на вушка. Лёха, рост якога быў прыблізна двухметровы, зверху паглядзеў на гэтыя сюсюканні, потым па-мужчынску абхапіў мяне, паляпаў па спіне і басам, на ўсю пляцоўку абвясціў: «Давай, стары! Удачы!». Чым проста заваражыў увесь натоўп, які замёр ад нечаканасці. Бацькі з дзяўчынкай у адно імгненне зніклі з пляцоўкі. Гэта ўсё засталося *звонку,* як толькі я пераступіў парог.

*Унутры*, за дзвярыма, за невялікім сталом сядзеў гадоў трыццаці пяці выкладчык. Яго барада і акуляры ў атачэнні розных музычных інструментаў падаліся мне тады сімвалам грунтоўнай музычнай эрудыцыі. Ён ветліва прапанаваў падысці бліжэй і спытаўся, на якім інструменце я буду граць. Я адразу паказаў на падключаную да гэдээраўскага комбіка «Vermona» электрагітару «Musima Delux 25».

*Звонку* гэта выглядала, дакладней — чулася, так: праз некалькі хвілінаў пасля таго, як за мной зачыніліся дзверы, да выпадковых слухачоў даляцела ўпэўненая імправізацыя ў танальнасці E, у манеры, стылістычна блізкай да блюзавага выканання (кожны гітарыст тут павінен падміргнуць і ўсміхнуцца;). Натоўп на лесвічнай пляцоўцы змоўк і пры-

слухаўся. Калі праз некалькі хвілінаў музыка сцішылася, слухачы за дзвярыма выдыхнулі: «О-о-о!» Што прыкладна азначала некаторае здзіўленне і прызнанне таго, што яны ўсё ж такі ўражаныя. Пасля кароткай паўзы пачалася класічная тэма. Першая частка была сыграна больш-менш роўна і ўпэўнена, а на другой выйшла нейкая блытаніна, у пэўным месцы мелодыя спатыкнулася, потым, праз секундную паўзу, пачалася зноў. Гэты кавалачак пачынаўся яшчэ разы тры, але падступнае месца так і не паддалося. Натоўп тут жа зрэагаваў: «У-у-у... ы-ы-ы...», і дзе-ндзе пачуліся іранічныя смяшкі. У дадатак да ўсяго, праз некалькі хвілінаў адчыніліся дзверы і мая кудлатая галава спыталася: «Лёха, два рублі ёсць?..» Тут ужо натоўп сваіх эмоцый не стрымліваў — усе рагаталі ад душы! А нехта яшчэ так інтэлігентна, гэта значыць ціха, але каб пачулі ўсе, дадаў: «Даваў хабар, ды не хапіла дробязі...»

*Унутры* ўсё адбывалася прыкладна так. Калі я зайшоў у аўдыторыю, то і прыблізна не ведаў, што буду граць. Выйсце падказаў інструмент (калі б гітара была іншая, рэпертуар мог быць зусім у іншым ключы), а характар імправізаванай п'есы вызначыўся з дапамогай прыемнага настрою выкладчыка. Ён уважліва паслухаў хвіліны тры-чатыры маё спантаннае музіцыраванне і прапанаваў сыграць канкрэтную п'есу: «Можа, што-небудзь з класікі?...»

Годам раней, яшчэ да таго, як лёс паклікаў мяне стаць студэнтам, мая сястра да іспыту ў музычнай школе зімовымі вечарамі разбірала на фартэп'яна п'есу спадара Джыавані Батыста Пэшэці, вядомую як «Прэста Пэшэці». Седзячы ў той жа час у суседнім пакоі і, як заўсёды, не здымаючы рук з гітарнага грыфа, я на слых добра вывучыў першую частку, а другую — яна паўтаралася значна меней разоў — адпаведна не дужа добра...

Выкладчык быў уражаны маім імкненнем стаць музыкам, але наконт апошняй п'есы сказаў так: «Праз тры тыдні ў нас будзе справаздачны канцэрт кафедры эстраднага дырыжыравання. Прыязджайце паглядзіце, параўнайце, набярыцеся новых уражанняў і станоўчага досведу. Можа быць, гэта дапаможа Вам больш прафесійна падысці да ўласнай творчасці...» Якраз за квіткі на той самы справаздачны канцэрт пажадана было разлічыцца без рэшты, таму і спатрэбілася два рублі.

Пасля праслухоўвання мы з Лёхам доўга бадзяліся па горадзе і выпадкова патрапілі на выставу мастакоў-авангардыстаў на свежым паветры каля Старога горада на Нямізе. На ганку граў рок-гурт. Вакаліст спяваў па-беларуску. Гэтая імпрэза пад адкрытым небам урэзалася ў памяць адчуваннем нейкай нязвыклай вольнасці і свабоды, што для саўковай сістэмы ўзору 1983 года было зусім непрымальна. На мальбертах мастакоў былі палотны, якія па манеры выканання, па сваіх нязвыклых сюжэтах і арыгінальных ідэях зусім не нагадвалі сацрэалізм. Я захварэў на Менск: калі ў гэтым горадзе адбываецца такое, то вучыцца трэба толькі тут.

Праз шмат гадоў, у незабыўным цэнтры беларускасці — краме пры офісе на былой менскай вуліцы Варвашэні, накупіўшы кніжак на распродажы, сярод іншага набыў гісторыю гурта «НРМ». Адкуль даведаўся, што музыкі, якія трыццаць год таму гралі на ганках Траецкага прадмесця, выступалі пад назвай «Мроя». Дарэчы, гэта быў іхні дэбютны выступ. Што цікава, у кнізе захавалася нават дата мерапрыемства (а гэта значыць, ускосна — і дата нашай неверагоднай вандроўкі з маім сябрам Лёхам, — дзякуючы дакладнасці біёграфаў).

Праз тры тыдні, вызначаных барадатым выкладчыкам, ні я, ні Лёха не патрапілі на справаздачнае мерапрыемства музычнай вучэльні. Шчыра прызнацца, калі я набываў квіткі, чамусьці на дзевяноста дзевяць адсоткаў быў упэўнены, што не прыеду на той канцэрт, хоць сам сябе спрабаваў падмануць і ў думках прымушаў: трэба ехаць! Але нейкі нябачны суразмоўца ўнутры мяне, настроены дастаткова скептычна, нібыта адмахваўся: пабачым, пабачым... Набыццё квіткоў было, напэўна, маім своеасаблівым парывам у жаданні спрычыніцца да нейкага таемнага і важнага працэсу, ды яшчэ — не пакрыўдзіць выкладчыка. Дзве паперкі з пазначанымі на іх нумарамі месцаў у актавай зале вельмі доўга акуратна

ляжалі ў маім нататніку, нагадваючы засушаны адмысловы талісман — прыпынены ў часе шанец далучэння да музычнага братэрства.

Можа быць, яны захоўвалі сапраўднае чараўніцтва, таямнічы сэнс загадкавага словаспалучэння «апошні шанец»? У хуткім часе я патрапіў у зусім іншыя аўдыторыі, якія ў мяне да сённяшняга часу атаясамліваюцца са святлом. Вялікія светлыя вокны, светлыя сцены, прасторныя калідоры, святло цікавых людзей, цеплыня адносінаў і прыгажосць пачуццяў. Гэта быў вельмі кароткі перыяд, выпадковы і заканамерны, нялёгкі і шчаслівы — працяг майго «Апошняга шанцу». Квіткі даўно згубіліся, а яго адчуванне засталося.



## АПОШНІ ШАНЕЦ ВЫЙСЦІ Ў ЛЮДЗІ

Так час ад часу здараецца — ты едзеш у Ленінград на провады сябра ў войска. Бывае яшчэ — былая твая сяброўка стала яго нявестай. Нічога дзіўнага, што праз яе вы і пазнаёміліся, і цяпер называеце адзін аднаго сябрамі.

Сітуацыя складаецца так (звычайна бліжэй да поўначы), што ў інтэрнаце на Васільеўскім востраве прызыўніку трэба пабыць сам-насам з яго каханай прыкладна да раніцы. Усё ж такі апошняя ноч, і дзяўчыне няёмка дзяліць яе на траіх. Ну, у сэнсе — сядзець за сталом да світанку і піць утраіх каву. Таму, як сапраўдны джэнтльмен, крыху хістаючыся, ты проста выходзіш у раннекрасавіцкую ноч з думкамі: «Дзе наша не прападала...». І трываеш гадзіны дзве. Трэба ведаць, што такое надвор'е на беразе Фінскага заліва на пачатку вясны. Словы «страшэнны холад» ці «мацнейшы вецер» і блізка не перададуць незабыўныя ўражанні.

У аграмадным гатэлі побач з пірсам не гарыць ніводнае вакно. Гэта надае месцу выгляд мёртвай планеты. Ты проста «рубішся» на хаду, пакуль ідзеш на другі бок гатэля, туды, дзе пляскочуць хвалі. Прысесці ці прылегчы немагчыма, бо бетон настыў так, што, зрабіўшы спробу прыладкавацца дзенебудзь, даводзіцца падскокваць, быццам абліўшыся кіпнем.

Ахоўнік на судне, з аўтаматам і ў кажуху да палубы, хавае ўсмешку і крычыць зверху з трапа: «Не-не, брат, у нас нельга пераначаваць...» Алкаголь ужо амаль выветрыўся, ты згорбіўся, брыдзеш да паркінга, уціскаючы галаву ў плечы — нібыта гэта сапраўды дапаможа сагрэцца. Ды бог з імі, хай глядзяць з вокнаў гатэля ў гадзіны тры-чатыры ночы, як ты хапаешся за ручкі і спрабуеш адкрыць якое-небудзь аўто. І што? А тое, што раптам задняя дзверца трэцяга па ліку аўтамабіля адчыняецца! І ты ўвальваешся ў салон і ўвогуле не клапоцішся ўжо ні пра што. Трэба толькі закрыць выратавальныя дзверцы, і ўсе твае беды застаюцца дзесьці далёка. Спаць... Не спаць!.. Толькі хвілiначку... Не, пятнаццаць...

Недзе ўверсе, над галавой, звіняць званочкі трамваяў, сігналяць машыны, шыпяць дзвярыма на прыпынках тралейбусы. Асцярожна прыўзняўшыся, ты разумееш, што цяпер прыкладна гадзінаў шэсць-сем, мяркуючы па ранішняй актыўнасці ленінградцаў. Трэба хуценька і незаўважна пакідаць месца выратавання. Дзякуй, машынка, дай бог табе добрага гаспадара! «Будьте добры, не скажете, который час?» Да ваенкамата яшчэ дзве гадзіны. Спаць хочацца неверагодна. Выйсце адно — сесці ў нейкі тралейбус. Піцерскія тралейбусы на той момант падаюцца чамусьці вельмі ўтульнымі. Праспаць у адным з іх да канцавога прыпынку і ў той жа спосаб вярнуцца да месца, дзе заходзіў, — ідэя не самая горшая.

Заняўшы адзіночнае месца ля вакна, ты спрабуеш заснуць. Спробы дзеляцца на кавалачкі — першы прыпынак, другі, трэці... Недзе на пятым ты ў паўзабыцці бачыш праз шкло, як у салон заходзіць Ірка Т., твая зямлячка па невялікім беларускім мястэчку.

Спрасоння раптам падаецца, што сустракацца з ёй нельга ні ў якім разе. У свядомасці ў адно імгненне праносіцца, што Ірка на восем гадоў старэйшая за цябе, што кожны раз, прыязджаючы дадому, яна цэлымі днямі сядзіць на працы ў сваёй сяброўкі Ленкі, працоўны стол якой стаіць побач са сталом тваёй мамы. Ірка ў захапленні ад Мікалаеўны, так яна кліча маму, і ўвогуле Ірка з Ленкай дастаткова дарослыя цёці, каб ім давяраць — ажно па дваццаць пяць год маюць.

Сустрэцца з Іркай — гэта значыць рассакрэціць усю нелегальнасць цяперашняй паездкі. А давялося звальваць з заняткаў, неяк дамаўляцца са старастам групы, каб не пісаць заяву дэкану. А гэта ж не блізкі свет — амаль што тысяча кіламетраў. А трэба яшчэ вяртацца... Усё пралятае ў галаве за секунду, і ты асцярожна абыходзіш Ірку ззаду, каб не прыцягнуць яе ўвагі, і хуценька спрабуеш выскачыць з тралейбуса, пакуль не зачыніліся дзверы.

Але ж дзверы такія нахабныя — зачыняюцца, калі ты апынуўся якраз на апошняй прыступцы! Ты ўсё ж выскокваеш, з ляскатам і грукатам, амаль што на хаду. Нехта з



культурных піцерскіх пасажыраў, каб дапамагчы табе, крычыць: «Водитель!..» Кіроўца ціsне на тормаз, увесь тралейбус паварочвае галовы ў твой бок. Зразумела, Ірка таксама! Не пазнаць цябе, нават са спіны, немагчыма. Як заўсёды некалькі апошніх год, твае доўгія русыя валасы спрабуюць дацягнуцца да джынсаў «Levi's». Як звычайна, — ці гэта халоднае лета, ці любы месяц зімы, — ты не здымаеш з плячэй карычневай скураной лётнай курткі. Падарунак бацьку ад знаёмага афіцэра Ваенна-Паветраных Сілаў — эксклюзіўная рэч. Фігура, хада, пастава? Не ведаю дакладна, якім чынам, але неяк так адбываецца — прадстаўнікі аднаго полу па гэтых самых прыкметах беспамылкова ідэнтыфікуюць прадстаўнікоў полу супрацьлеглага...

У ваенкамат ты паспяваеш і сябра праводзіш як належыць. Пазней высвятліцца, што ён патрапіў на афганскую мяжу (пасля войска, дарэчы, яны ажэняцца з той самай сяброўкай з інтэрната, у іх атрымаецца выдатная сям'я).

А ты праз пару месяцаў развітваешся са сваёй змрочнай шэрай правінцыйнай навучальнай установай і падаеш дакументы на падрыхтоўчыя курсы ў светлую сталічную ВНУ. Такое час ад часу таксама адбываецца.

Калі-ніколі яшчэ здараецца, быццам бы нешта надыходзіць, — і ты цэлы месяц займаешся, не адрываючы галавы ад падручнікаў. Напрыклад, перачытваеш палову школьнай праграмы па літаратуры, да якой не датыкаўся апошніх гадоў пяць-шэсць.

Трэба адзначыць у гэтым ланцугу выпадковасцяў, што заняткі на курсах вядуць найцікавейшыя людзі, і ты проста заўсёды знаходзішся ў стане лёгкага шоку — ад таго, як яны нечакана і нестандартна падаюць вучэбны матэрыял. Усё, што адбываецца, проста непараўнальна з тваім папярэднім студэнцкім досведам! Гэта будзе гучаць пафасна, але ты ніколі ў жыцці не хацеў так вучыцца (скажам шчыра, што ў школе ты не напісаў ніводнага сачынення — няма чым ганарыцца, але так ёсць: першае ў жыцці было напісана на уступным іспыце пасля вышэйзгаданых курсаў).

І вось ты прыязджаеш дадому на пару дзён, што пасля заканчэння курсаў даюцца на падрыхтоўку да іспытаў. І нечакана на цябе абрынаецца моцны бацькоўскі гнеў. Ты ўвогуле не разумееш, пра што гаворка, калі мама пачынае галасіць: «Мы яму дапамагаем, мы яго на вучобу накіравалі, а ён, такірастакі, усе грошы траціць, каб па Піцерах раз'язджаць...»

Ты, стаміўшыся шукаць логіку, — а старыя не хочуць слухаць ні тваіх пытанняў, ні тваіх адказаў, — выстаўляеш бацькоў вар'ятамі (хай прабачаць яны за тое непаразуменне) і з нялёгкім сэрцам едзеш назад да Менску.

Такое здараецца — ты проста не можаш ведаць (бо сапраўды быў вельмі заняты сваімі новымі справамі), што ў самы адказны, можна сказаць, пераломны момант твайго лёсу з Піцера на чарговы адпачынак прыехала Ірка Т. Зразумела, яна днямі сядзіць на працы ў сваёй сяброўкі Ленкі і распавядае байкі з паўночнай сталіцы імперыі. Яны з Ленкай увесь час хіхікаюць, і між іншым Ірка раптам аднойчы ўзгадвае: «Ой, Мікалаеўна, я і забылася вам сказаць, я ж сына вашага нядаўна ў Піцеры бачыла...» Тут у Іркі бразнулася на падлогу сумачка, і яны з Ленкай пачынаюць рагатаць і збіраць рэчы па падлозе. А мама са збялелым тварам выходзіць на калідор. На вачах у яе слёзы. І дату, халера, калі ты на самай справе быў у тым Піцеры, на жаль, Ірка не ўдакладніць. Бо пакуль вернецца мама, хаваючы заплаканыя вочы, Ленка з Іркай ужо збягуць на абед...

Дык вось, калі-небудзь так здараецца — ты выходзіш ноччу пагуляць па Ленінградзе (увогуле не з-за сяброўкі — проста самому захацелася прайсціся па набярэжнай), у стане, блізкім да абмаражэння (амаль што не заўважыў — так сабе крышку прахалодна), ты спіш у чужой машыне на заднім сядзенні замест утульнага інтэрнатаўскага ложка (звычайны спосаб адпачынку беларусаў у Ленінградзе). Потым едзеш у тралейбусе, нумар якога не ведаеш, выпадкова сустракаеш знаёмую (іх у любым горадзе, на адлегласці тысяча кіламетраў, колькі заўгодна), але гаварыць з ёй не дужа хочацца, і ты выходзіш на невядомым прыпынку. Нейкім цудам ты



ўчасна трапляеш да ваенкамата, каб выканаць сваю місію і праводзіць у рэшце рэшт прызыўніка ў войска.

Толькі мама пра гэта не ведае, і амаль што праз паўгода вецер прыносіць ёй няпэўную інфармацыю. А ў мамы такая праца — перажываць за дзяцей і плакаць.

— Ну і пры чым тут апошні шанец? — пытаецца хтосьці з мамінай работы.

— Ды амаль што ні пры чым, — адказваеш ты. — Так, былая сяброўка пазнаёміла са сваім жаніхом, які прыехаў да яе ў госці з Піцера пад Новы год, менавіта на выступленні гурта «Апошні шанец».

# ВАЙСКОВЫ СПІРТ

*Тры гісторыі*

> ...Магчыма, азначаныя стагоддзі даследчыкі ў будучыні назавуць «эпохай алкагольнай залежнасці» ці, напрыклад, «гісторыяй выжывання чалавецтва ва ўмовах гарэлачнай экспансіі». А можа, гэта будзе «перыяд татальнага паслаблення імуннай сістэмы карэннага насельніцтва планеты пад уплывам формулы спірту»?..
>
> *З сучаснай фантастыкі, Беларусь, 2001*

## СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ

Гэтую перадачу, што запрашала на сустрэчу ў даволі позні час па суботах, калісьці я чакаў з такім натхненнем, што сённяшнія аматары штодзённых каналаў кшталту «MTV» ды «VIVA» наўрад ці зразумеюць мой былы імпэт. Здаецца, быў перыяд, калі «Сустрэнемся пасля адзінаццаці»* на Беларускім рэспубліканскім тэлебачанні нейкі час не выходзіла, але дакладна памятаю: калі мяне забралі ў войска, яе выпускі зноў пачалі рэгулярна з'яўляцца.

* Напрыканцы 70-х — пачатку 80-х першая рэгулярная перадача пра сучасную музыку на адзіным беларускім, гэтак званым «другім», нацыянальным, канале (БТ). На «першым» (агульнасаюзным) канале былі «Мелодии и ритмы зарубежной эстрады» — нешта кшталту адмысловых музычных міжнародных навінаў, якія трансляваліся таксама па выхадных днях. Больш у Беларускай ССР ніякіх каналаў не было. Аб іншых музычных перадачах рокавага, джазавага ці нейкага альтэрнатыўнага ў адносінах да афіцыйнай эстрады напрамку не магло быць размовы. Калі ў «Международной панораме», адмысловым палітычным аглядзе на першым канале, мільгаў дзесяцісекундны сюжэт пра заходнюю рок- ці поп-музыку (зразумела, у адмоўным ідэалагічным кантэксце) — гэта было сапраўднай сенсацыяй для айчынных меламанаў. Адпаведна, у плане набыцця пазітыўнай культурнай інфармацыі.

Такім чынам — асобная рота аэрадромнага забеспячэння, узвод сувязі на адным з аэрадромаў былой Беларускай ваеннай акругі. Глядзець тэлеперадачы пасля адбою лічыцца грубым парушэннем вайсковага раскладу. Але ж для таго яна і дысцыпліна, каб час ад часу яе парушаць.

Адметнасць службы «сініх пагонаў» (так называлі нас «чорныя», «чырвоныя», «зялёныя» ды іншыя рознакаляровыя «пагоны») — гэта доступ да неверагоднай колькасці спірту. Парадокс заключаўся ў тым, што афіцэры і прапаршчыкі рэгулярна карыстацца такім важным стратэгічным прадуктам магчымасці не мелі. Акрамя начальніка складу ГЗМ (што азначае «гаруча-змазачныя матэрыялы»).

У дадзеным выпадку спірт, напэўна, трэба разглядаць больш як змазачны, чым гаручы матэрыял, бо ён у якасці тэхнічнага сродку прызначаўся для знешняй прамыўкі шкла ў кабінах пілотаў ва ўмовах нізкіх тэмператур на вялікай адлегласці ад зямлі. Ды яшчэ ў невялікіх колькасцях для прафілактычнага абслугоўвання ўсёй аэрадромнай апаратуры. Ён паступаў на склад ГЗМ тонамі і захоўваўся ў цыстэрне на пасту № 3.

Пломба, якой апячатвалі кран, падраблялася вельмі проста — добры пластылінавы злепак залівалі эпаксіднай смалой, і па зацвярдзенні копія пломбы была гатовая. Але ў свой час гэта і быў самы стратэгічны сакрэт нашай часці на ўзроўні сапраўднай ваеннай таямніцы.

П'янства ў асобнай роце аэрадромнага забеспячэння стала ўсеагульным і несла ў сабе рысы стыхійнага бедства. Камандзір роты дарэмна спрабаваў нешта зрабіць. У некаторых байцоў з'явіліся пэўныя анамаліі на глебе алкагалізму — яны пачыналі піць адразу пасля каманды «Пад'ём».

Яшчэ ўдзень, калі мы адпачывалі ў казарме перад заступленнем у нарад, я выпадкова прачытаў у тэлепраграме, што сёння, у суботу, павінна быць добра мне вядомая і цікавая

амаль што для аднаго мяне з усёй нашай інтэрнацыянальнай роты перадача на канале БТ.

Калі мы з’явіліся на развод у якасці замены байцоў узвода аховы, яшчэ нічога не прадказвала ніякіх сур’ёзных падзей. Усе салдаты былі ў добрым фізічным стане. Начальнік варты, пра якога нельга было і падумаць, што ён можа парушыць дысцыпліну, прыняў усе пасты. Іх было тры. Пост № 1 лічыўся сакрэтным. Гэта быў своеасаблівы перасоўны штаб, які месціўся ў памяшканні накшталт вагончыка. Унутры вагончык быў напакаваны рознай апаратурай, дзе, між іншым, стаяў і звычайны тэлевізар.

Пасля першай змены начальнік варты спаў мёртвым сном, а салдаты працягвалі піць спірт самастойна. Добра, што сяржант, які застаўся за старэйшага, апынуўся досыць моцным хлопцам. Нейкім чынам ён яшчэ выводзіў змены на пасты. Я заступаў на «Пост № 1».

Тое, што мы ўжывалі ў якасці святочнага напою, быў так званы «неачышчаны спірт». Ад чаго і як яго трэба было «ачышчаць», мы не ведалі, таму спадзяваліся толькі на ўласныя фільтры — ныркі ды пячонку. Магчыма, гэтая вадкасць акрамя ўтрымання ўласна алкагольных складнікаў мела яшчэ і дадатковыя таксічныя (з чыгуначных цыстэрнаў спірт пераганяўся звычайным пажарным шлангам, праз які, напрыклад, раней мог пераганяцца бензін ці ацэтон).

Мне вельмі добра запомнілася, што я «зацыкліўся» на тым, што зараз, з хвіліны на хвіліну, пачнецца важная для мяне перадача «Сустрэнемся пасля адзінаццаці». Калі я застаўся на пасту адзін, дык адразу ж штык-нажом ускрыў досыць шырокую фортку сакрэтнага вагончыка і паспрабаваў залезці ўнутр. Але заміналі шынель ды рэмень, на якім боўтаўся падсумак з двума ражкамі баявых патронаў і штык-нож. Усё гэта хуценька было схавана ў проціпажарную скрыню з пяском. Велічыня вакна дазваляла без амуніцыі праціснуцца ўсярэдзіну. Зброю, у адрозненне ад боепрыпасаў, я не пакінуў, узяўшы аўтамат з сабой.

Вось і мэта немалых намаганняў — тэлевізар. Так, кнопка «Сеть». Пераключальнік каналаў. Але чамусьці толькі шыпенне экрана. Так — чакаць! Напэўна, збіта наладка. Наладжваю! Правяраю антэну! Усё на месцы, што можа быць? Зноў кручу каналы, наладжваю, правяраю...

Тэлевізар так і не запрацаваў. Па прычыне зусім іншай, чым збой наладак, і, па сутнасці, вельмі простай — час, які ўмоўна можна было назваць «пасля адзінаццаці», даўно мінуў. Мала таго, было ўжо далёка за дванаццаць. А ў гэты час савецкае тэлебачанне не дазваляла сабе турбаваць сон сваіх суайчыннікаў. Але ўнутраны гадзіннік, напэўна, нейкім чынам «заспіртаваўся» (ад перабольшання дозы прафілактычнай вадкасці), і я зусім не звярнуў увагі, што пракорпаўся з тым тэлевізарам палову гадзіны, калі не болей. Нешта зрушылася толькі тады, калі я выпадкова праз акно вагончыка ўбачыў нашага дзяжурнага па роце.

Спачатку я падумаў, што гэта пабочны галюцынагенны эфект ад ужывання спірту, але, працёршы вочы, упэўніўся, што гэта сапраўдная праверка варты. За дзяжурным па роце ішлі двое — боўтаўся ва ўсе бакі наш сяржант і роўна крочыў баец, які з намі ў нарад не заступаў. Гэта значыць, яго вызвалі замяніць таго, каго знялі з варты. Ці яшчэ толькі павінны былі зняць?..

Я валіўся ў акно, але апрануць шынель, зашпіліць рэмень з падсумкам і ўскінуць аўтамат на плячо не паспеў. Тым больш не паспеў зачыніць за сабой фортку сакрэтнага аб’екта, які я так заўзята вартаваў. «Што не сустракаеш, ахова?» — весела крыкнуў дзяжурны па роце, які на ўсякі выпадак рыхтаваўся да самага дрэннага — за паказной весялосцю ён, вядома ж, хаваў немалое хваляванне.

Пазней нехта расказваў, што калі гэты афіцэр у той вечар наведаў памяшканне для вартавых, ён моцна перапалохаўся, бо на сталах, на падлозе, на крэслах нерухома ляжалі салдаты на чале са сваім камандзірам, раскідаўшы вакол сябе аўтаматы, патроны і штык-нажы. Першым уражаннем правяраючага было тое, што байцы сталі ахвярамі чагосьці накшталт газавай атакі ці масавага атручвання. На самай справе недзе так яно і было, а бутэлькі на стале толькі пацвярджалі гэта.

Калі сяржант неяк здолеў падняцца і выйсці разам з дзяжурным на праверку, то на адным пасту яны ўвогуле не знайшлі вартавога. На другім пасту ахоўнік спаў. А на самым далёкім, сакрэтным пасту № 1, як ужо няцяжка здагадацца, адбываліся амаль што «радарныя» спробы з дапамогай бытавога тэлепрыёмніка запеленгаваць у эфіры перадачу «Сустрэнемся пасля адзінаццаці»...

Дзякуючы гэтаму выпадку літаральна назаўтра я пазнаёміўся з выдатным гістарычным помнікам пачатку XIX стагоддзя, што на той час цудоўна захаваўся ў Бабруйску, — будынкам сапраўднай турмы, які па-ранейшаму адпавядаў свайму прамому прызначэнню і выконваў функцыі гарнізоннай гаўптвахты. Бабруйскую крэпасць пабудавалі ў 1810-м па загадзе Аляксандра I.

Напэўна, гэтаксама як і маіх землякоў у далёкія часы пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, мяне падымаў ахоўнік у пяць гадзін раніцы, выводзіў на пляц, дзе шыхтавалі арыштаваных. Усім апавяшчалася, дзе хто сёння будзе працаваць. Потым у турэмнай сталоўцы кармілі баландай, рэцэпт якой, мабыць, быў умураваны дзе-небудзь у таўшчэзнай сцяне тутэйшай кухні яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя. У асобных камерах-адзіночках сядзелі пару асабліва шалёных, гвалтаўнік ды забойца, што чакалі прысудаў ваеннага трыбуналу.

Мне было прызначана ўсяго дзесяць сутак арышту (яшчэ раз з захапленнем узгадваю муры і сцены каля метра таўшчынёй, выкладзеныя са старадаўняй чырвонай цэглы). Двое сутак мне дадалі ўжо «на месцы». За гэты тэрмін я неаднойчы з удзячнасцю ўспамінаў перадачу «Сустрэнемся пасля адзінаццаці» і яе нязменнага вядучага Зміцера Падбярэзскага, у думках дзякуючы за культурны ўплыў і веды ў галіне не толькі сучаснай музыкі, але і новай гісторыі.

Напэўна, нейкая астральная сувязь паміж эфірам тэлевізійным і эфірам тых спіртавых пароў усё ж такі існавала, бо праз нейкі час пасля дэмабілізацыі я асабіста пазнаёміўся са спадаром Падбярэзскім. А пазней нават своеасабліва аддзячыў яму за колішні выдатны практыкум па гісторыі



роднага краю. Неяк сустрэўшыся ва ўтульным менскім кафэ «У Радзівіла», я паведаміў Зміцеру, што ў Бялынічах, на месцы ранейшай арганізацыі «Сельэнерго», побач з месцам былых так званых «польскіх могілак», захавалася вялізная надмагільная пліта, на якой выбіты наступны тэкст: «Adella z Podberezkich Siellawina. Urodzona 1815 oktobra 19 dnia, zeshla tego swiata 1853 novembra 17 dnia. Obok jey pochiwają corka aleksandra 2 la ti syn ignacy 4 miesięcny».

Далей пачатак малітвы «Sprosi przychodnia...» у памяць гэтай невядома як загінулай сям'і.

Зміцер, зразумела, зацікавіўся такой інфармацыяй, паведаміўшы, што яго старажытны род паходзіць менавіта з Магілёўшчыны і што ён, калі атрымаецца, абавязкова наведае Бялынічы.

А пра армейскі выпадак я яму так і не расказаў. Можа быць, гэта было на той момант недарэчы. А магчыма, я зыходзіў з меркавання, што ў нас яшчэ павінна быць нагода, каб сустрэцца пасля...

Але, напэўна, гэта ўжо будзе нешта накшталт навейшай за найноўшую з гісторый.

## СЯ-БРЫ

Многія аматары сучаснай музыкі чамусьці заўсёды прымалі шматгадовую творчасць гэтага ансамбля за ўзор псеўдабеларускага кітчу. Чаму? Не ведаю. Увогуле добры ансамбль. І нават для маіх вайсковых саслужбоўцаў з Расеі знаёмства з беларускай культурай (хутчэй нават з культурай беларускай мовы) пачалося з аднаго памятнага канцэрта. Да якога акрамя артыстаў славутага ансамбля непасрэдна спрычыніліся і мае армейскія сябры.

Дакладней, усё пачалося нашмат раней за той канцэрт. Тады, калі нашу асобную роту аэрадромнага забеспячэння прызначылі дзяжурнай па «ПСС». У армейскім варыянце гэта расшыфроўвалася як «поисково-спасательный сезон». Прыкладна на працягу месяца на аэрадроме кругласутачна мусіў знаходзіцца дзяжурны экіпаж на выпадак пажараў,

стыхійных катастроф, якіх-небудзь ваенных манеўраў ці іншых экстрэмальных здарэнняў.

Вадзіцель АПА* Валодзька П. па нацыянальнасці быў немцам з горада Кургана (па пашпарту — Вальдэмар Рыхардавіч). Як і любы карэнны сібірак — вельмі спакойны і дабрадушны малады чалавек. Невялікага росту, каржакаваты, Валодзька меў, што называецца, «залатыя рукі». Увесь час нешта рамантаваў, дапрацоўваў, некуды спяшаўся, шукаў нейкія дэталі. Яго самога заўсёды шукалі, каб праканcультавацца ці вырашыць якое-небудзь тэхнічнае пытанне.

Пачаўшыся ў лютым, апошні «ПСС» зацягнуўся амаль што на два месяцы па не вядомых нікому з шараговых байцоў абставінах. Пад канец «сезону» Валодзька выглядаў вельмі стомленым. Напэўна, давалі пра сябе знак сталыя вылеты авіяцыі, што адбываліся ў любы час сутак, ды заўсёдныя рамонты старога «Урала».

Той раніцай я ўбачыў яго машыну яшчэ здалёк. Калі Валодзька пад’ехаў бліжэй, я прывітаў яго ўзнятай рукой, аднак чамусьці ён праехаў побач і не адказаў мне, што было не падобна да яго. Я крыху здзівіўся, але падумаў, што ён мог быць засяроджаны на якіх-небудзь тэхнічных сваіх справах і проста не заўважыў мяне. Я пакрочыў далей, і калі зайшоў за вугал будынку КПП, мне яшчэ добра быў чутны гук «уралаўскага» рухавіка. Праз імгненне пачуўся магутны ўдар, потым нешта моцна бухнула, і рухавік заглох.

Ад раптоўнай цішыні зрабілася неяк не па сабе. Я кінуўся назад. Не зразумеў ад чаго, але першае ўражанне было такое, што быццам бы ўбачыў цяжка параненую машыну. Заваліўшыся на левы бок, яна сіратліва стаяла пры ўездзе на дзяжурную пляцоўку, а пад ёй па белым снезе расцякалася вялізная чорная пляма машыннага масла, ад якога падымалася пара, як ад свежай крыві. Я падбег да машыны, але мяне апярэдзіў афіцэр з верталётнай эскадрыллі.

* АПА, аэродромный пусковой агрегат (рус.) — абсталяванне для запуску верталётных ці самалётных рухавікоў, размешчанае звычайна на базе аўтамабіля «Урал».



Валодзька ўрэзаўся ў адзін з двух кароткіх і вельмі моцных металічных слупоў, што сімвалізавалі вароты дзяжурнай пляцоўкі. Слядоў заносу відаць не было, ніякага тармажэння кіроўца не рабіў. Сам ён яшчэ знаходзіўся ўнутры. Афіцэр, які прыбег раней за мяне, паспрабаваў адчыніць кабіну. Зрабіць гэта яму не ўдалося, бо левае кола ад моцнага ўдару змяла крыло і «заехала» ў дзверцу. Тады лётчык перабег і адчыніў кабіну з правага боку. Ён хваляваўся, што з кіроўцам нешта здарылася. З Валодзькам і сапраўды нешта здарылася — ён таямніча ўсміхаўся і павольна, вельмі павольна, збіраў свае дакументы. Афіцэр паспрабаваў з ім загаварыць, але кіроўца не здолеў вымавіць і слова. «П’яны!» — разгублена сказаў лётчык і, толькі цяпер зразумеўшы прычыну аварыі, моцна вылаяўся...

Вектар удару «Урала» быў стыхійна выбраны такім чынам, што пры невялікай хуткасці Валодзька здолеў расквасіць амаль што ўсе асноўныя вузлы аўтамабіля: рухавік сарваць з мацаванняў, вырваць пярэдні мост, сагнуць малы «кардан» і папсаваць ім «раздатку», а далей і скрыню перадач, і карданны вал, што ішоў да задняга маста. Нават рама («уралаўская»!) сагнулася, быццам была зроблена з алюмінію.

Як на тое зло, напярэдадні выйшаў указ міністра абароны СССР аб матэрыяльнай адказнасці за пашкоджанне ваеннаслужачымі армейскай маёмасці. Гэта значыць, што калі б Валодзька разбіў «Урал» хаця б месяц таму, яму б нічога не было — акрамя таго, што адседзеў бы на гаўптвахце сутак пяць — дзесяць (крымінальную справу ніхто не заводзіў бы). А машыну давялося б спісаць — колькі іх паспісвалі!

Але часы змяніліся: такі выпадак не прайшоў незаўважаны камандаваннем. У выніку была створана камісія, якая ацаніла матэрыяльныя страты і назвала астранамічную суму выплаты. Такія грошы не маглі сплаціць ні сам салдат, ні яго маці, што жыла ў вёсцы недзе ў Курганскай вобласці. У гэтым выпадку парушальніка ўставу павінны былі пасадзіць у дысбат і вылічваць грошы, пакуль ён канчаткова не разлічыцца. Вось такім чынам у нашай вайсковай часці

адгукнуліся пачатак «перабудовы», гаспадарчы разлік і самаакуплялыьнасць.

Камандзір нашай асобнай роты маёр Сямко ледзь не кожную раніцу паўтараў на пастраенні такія словы: «Байцы, за дваццаць чатыры гады службы я нікога не пасадзіў. А вы ўпарта не хочаце даць мне даслужыць апошні год і спакойна сысці на пенсію...» Сказаў ён сваю прыказку і шараговаму Уладзіміру П., які моўчкі стаяў перад строем праз некалькі дзён пасля здарэння. Аднак зрабіў — гэты мудры і вельмі паважаны намі чалавек — усё па-іншаму. Камандзір дабіўся адтэрміноўкі разгляду справы з разбітым «Уралам» у высокіх інстанцыях і запэўніў камандаванне, што машына будзе адноўлена ўласнымі сіламі.

З гэтай нагоды камандзір аўтаўзвода, старлей Рэзнікаў, схапіўся за галаву. Ён і так разрываўся, шукаючы па ўсім наваколлі варыянты «армейскага бартару» — каб змяняць радыятары на колы, стартары на аўтамабільнае шкло, паліва на паліўныя бакі — карацей, адшукаць усё тое, што бесперапынна выходзіла са строю на дзясятках падпарадкаваных яму машын. А тут належала сабраць не проста «Урал», а спецмашыну на яго базе.

Але загад ёсць загад, і абмеркаванню ён не падлягаў. Сцяўшы зубы, Рэзнікаў знайшоў усё, што трэба, аднак «уралаўскія» раму і пярэдні мост ён, як ні намагаўся, знайсці не здолеў. Па неверагодных сувязях і знаёмствах маёр Сямко і старшы лейтэнант Рэзнікаў выйшлі нават на аўтаслужбу акругі, але там абяцалі выдзеліць гэтыя дэфіцытныя запчасткі толькі на працягу года. За неаднаўленне знішчанай адзінкі ваеннай тэхнікі над нашым сябрам і саслужыўцам зноў навісла пагроза ваеннага трыбуналу.

Што магло ўратаваць байца, які трапіў у такія цяжкасці праз злашчасную праклятую атруту пад назвай спірт? Як аказалася пазней — толькі цудоўнае, амаль што казачнае, супрацьяддзе пад той жа назвай. Нехта з калегаў-саслужыўцаў, усюдыісных і ўсёведных, выгледзеў на тэрыторыі аўтапарка суседняга танкавага рамонтнага батальёна тое, што было жыццёва неабходна нашаму «рэстаўратару». А дакладней — запаветныя раму і пярэдні мост для аўтамабіля «Урал». Навюткія, бліскучыя, у чорнай антыкаразійнай фарбе, яны ляжалі пасярод чужога пляца разам з іншым буйнагабарытным абсталяваннем.

Аб нейкай дамове на афіцыйным узроўні не магло быць і размовы — нашая авіяцыйная часць і вышэй узгаданая танкавая хоць і размяшчаліся побач, але належалі да розных вайсковых груп і па службе не сутыкаліся адна з адной нават ускосна. Заставалася адзінае выйсце — неафіцыйныя, а дакладней неўстаўныя, адносіны ваеннаслужачых тэрміновай службы.

Аперацыя была спланавана геніяльна проста. У прызначаны дзень у нарад па аўтапарку «танкістаў» заступалі: дзяжурны (з малодшых афіцэраў, якія, за рэдкім выключэннем, амаль што ўсе «выпівалі») і два днявальных (у салдацкім калектыве замяніцца, каб заступілі «патрэбныя людзі», было няцяжка). З другога боку агароджы, у аўтапарку «лётчыкаў», адбывалася такая самая сітуацыя, з той толькі розніцай, што днявальнымі заступалі не проста «дасведчаныя» байцы, а менавіта кранаўшчык і кіроўца дзяжурнага цягача.

Спірт «танкістам» быў выдадзены загадзя, аперацыя па спойванні іхняга дзяжурнага займала не больш за дзве гадзіны. У «лётчыкаў» адбываліся такія ж дзеянні. Праз пару гадзінаў абодва дзяжурных, «авіятар» і «танкіст», моцна спалі. У абодвух аўтапарках былі адчыненыя заднія, запасныя вароты, і кран з цягачом ад «лётчыкаў» заехалі на тэрыторыю «танкістаў». Пагрузка заняла пятнаццаць — дваццаць хвілінаў, і вароты зноў зачыніліся, як быццам ніколі і не адчыняліся...

Назаўтра Валодзька прыступіў да «перакідвання» ўсіх дэталяў са старой рамы на новую. Старшы лейтэнант Рэзнікаў ледзь не плакаў. «Адкуль, — крычаў ён, — якім чынам вы маглі недзе раздабыць гэта?!» Рота таямніча маўчала і толькі палохала лейтэнанта сваёй маўклівасцю. Маёр Сямко зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў, магчыма, хвалюючыся, што нечаканае з'яўленне неабходных дэталяў яшчэ магло мець нейкі непажаданы працяг. Але ўсё было ціха.

Валодзька працягваў працаваць. Кожны дзень ад пад'ёму да адбою. Прыкладна за тры тыдні ён аднавіў АПА. Электроннае абсталяванне перакідваў, запамінаючы па праўвадочку, што да чаго мацавалася. На гэтай машыне Валодзька даездзіў да дэмбеля і запусціў не адну сотню авіяцыйных рухавікоў. Ён аказаўся геніяльным, а не проста здольным механікам.

У танкавым рамбаце схамянуліся наконт адсутнасці рамы і моста недзе толькі праз тыдзень. Спрабавалі нават праводзіць нейкае расследаванне. Дапытвалі ўсіх афіцэраў і прапаршчыкаў, хто заступаў на дзяжурства ў аўтапарк. Усе шчыра адказвалі, што нават не ўяўляюць, як гэтыя запчасткі маглі знікнуць. Ніхто з дзяжурных не хлусіў. Факт заставаўся фактам: дэфіцытнае абсталяванне растварылася ў паветры, праваліліся скрозь зямлю, змылася з дажджом — ніякіх, нават дробных, слядоў не ўдавалася знайсці. Ніхто не здагадаўся звязаць таемнае знікненне з выпадкамі масавага п'янства, што назіраліся ў казарме тэрміновай службы «танкістаў» увесь тыдзень. Аднекуль у іх з'явілася аж тры трохлітровыя слоікі спірту.

У дзень, калі Валодзька першы раз пасля рамонту выехаў на аэрадром, зампаліт часці прынёс запрашальнікі на канцэрт. Зразумела, усе, хто быў вольны ад нарадаў, пажадалі вырвацца ў горад. Не кожны раз выпадае такая магчымасць. Тым больш, калі прапанавана якая-ніякая, а культурная праграма.

У гарнізонны Дом афіцэраў набілася поўная зала ваенных. На сцэну выйшла высокая прыгожая вядучая з неверагоднай усмешкай на вуснах і абвясціла ў мікрафон: «...Дорогие друзья, сегодня у вас в гостях ансамбль “Сибры”!..»

Валодзька, пляскаючы ў ладкі на суседнім крэсле, нахіліўся да мяне і запытаўся: «Кость, а чё такое “Сибры”?» Мне чагосьці стала няёмка, і я адказаў: «Валодзька, адвянь!» Але той нічога не хацеў разумець і пачаў піхаць мяне ў бок: «Косць, правда, чё такое?..» У той час я зусім не адчуваў сябе носьбітам беларускай культуры і захавальнікам роднай мовы. Наадварот, мелася нейкая незразумелая патрэба хаваць сваю беларускасць як мага глыбей, а звонку выстаўляць наноснае «саўковае», быць «як усе». Таму я адказаў з неахвотай: «Сябры — гэта “друзья”...»

Пасля канцэрта Анатолю Ярмоленку і яго калектыву спатрэбілася дапамога. Трэба было ўсю апаратуру са сцэны перацягнуць у «фуру». Чамусьці кіраўнік ансамбля звярнуўся менавіта да нашага зампаліта ў сініх пагонах. Валодзька і яго землякі-курганцы былі ў захапленні, што працавалі з самімі «Сибрами»...

Калі мы скончылі працу, маэстра Ярмоленка падзякаваў і зрабіў для нас сапраўдны падарунак — пакінуў цэлую серыю сваіх аўтографаў на бляклых і невыразных ад недахопу друкарскай фарбы запрашальніках. Валодзька паляпаў мяне па плячы і, шчаслівы ад верагоднасці стасункаў з усесаюзна вядомымі зоркамі эстрады, а ў дадатак ад таго, што ведае цяпер адно новае слова з іншай мовы, спытаўся:

— Кость, так мы теперь чё, навсегда сибры?

Ягоныя жарты не дадалі мне весялосці.

— Сібры, сібры... — неяк сумна адказаў я і, крыху памаўчаўшы, нечакана для самога сябе сказаў. — Але па-беларуску ўсё ж будзе: ся-бры...

## ПРАДЧУВАННЕ «ПАЛАЦА», альбо ПАДАРУНАК НА РАЗВІТАННЕ

Апавяданне пра скарбы, багацце і спадчыну з віртуальным гукавым суправаджэннем, якое, калі б спатрэбілася, магло стаць літаратурна-музычнай кампазіцыяй (курсавой ці дыпломнай працай у ВНУ з культурна-асветніцкай прафілізацыяй), дзе тэкставую частку мог напісаць Аляксей Х., студэнт бібліятэчнага факультэта, у будучым знакаміты беларускі сцэнарыст. А стыльны

фолк-мадэрн саўндтрэк зрабілі б яго аднакурснікі з факультэта самадзейнага музычнага і харэаграфічнага мастацтва — будучыя ўдзельнікі вядомай беларускай групы «Палац».

*(Гучыць народная беларуская песня «Як пайду я ў новую канюшню».)*

Пачалося ўсё з дэмабілізацыі. Я напісаў заяву, дзе тлумачылася неабходнасць працягу навучання ў вышэйшай навучальнай установе. Як ні дзіўна, мая просьба была задаволеная, і, вярнуўшыся дадому ў пятніцу, ужо ў панядзелак я прыступіў да заняткаў у інстытуце.

У *той дзень ці ў нейкі іншы, у хуткім часе я сустрэў Алега Хаменку. Пры нашым сутыкненні на лесвічнай пляцоўцы мелодыя «Як пайду я ў новую канюшню» паступова, але вельмі хутка выплыла з нулявога ўзроўню, рэзка набіраючы гукавую моц, разанула па вушах і ў тое ж імгненне знікла. Мы прыгнуліся ад нечаканасці і дастаткова моцных адчуванняў, потым павіталіся і пакрочылі сваімі шляхамі. Ён, як цяпер зразумела, — да фолк-мадэрну.*

Пасля армейскіх перыпетыяў вельмі цяжка было прызвычаіцца ўвогуле да цывільнага жыцця, не кажучы пра навучальны працэс. Я ўклініўся ў яго ў адказны перыяд падрыхтоўкі да няпростых заліковых мерапрыемстваў. Праграма нашай групы рабілася пад аўтарытэтным кіраўніцтвам дацэнта Маслоўскай, таму патрабаванні да мастацкага ўзроўню заліковай літаратурна-музычнай кампазіцыі былі вельмі высокімі. Усе ролі былі раздадзеныя, усе вакантныя месцы занятыя, а мне дасталося месца гукааператара, чаму я быў надзвычай рады — гэта была знаёмая і цікавая для мяне праца. Наш творчы кіраўнік арганізавала рэпетыцыі такім чынам, што мы прыходзілі ў інстытут у восем раніцы, а пакідалі яго ў восем-дзевяць вечара, ледзь пасоўваючы ногі ад стомы.

*Аднойчы падчас рэпетыцыі я паставіў касету з працоўнай фанаграмай, а замест яе арыгінальнага зместу з дынамікаў раптам — я і сам не зразумеў, як гэта адбылося — панесліся фолкавыя распевы «Як пайду я ў новую канюшню...» Рэпетыцыя спынілася, у зале — мёртвая цішыня, а дацэнт Маслоўская, вытрымаўшы паўзу, сказала: «Канстанцін, час гэтай песні яшчэ не надышоў!..» Я паспеў толькі выціснуць з сябе сіплае «Прабачце...», як самі па сабе ўрубіліся дынамікі і загрымела патрэбная фанаграма. Удзельнікі рэпетыцыі з месца заскакалі, як шалёныя, у сваім фантасмагарычным танцы...*

Калі напрыканцы другога месяца нашых заняткаў надышоў час генеральнай рэпетыцыі, я сядзеў за гукааператарскім пультам у вялікай аўдыторыі спінай да дзвярэй. Мае аднагрупнікі выраблялі амаль немагчымыя рэчы: яны дэкламавалі вершы, чыталі маналогі і дыялогі, здзіўлялі танцавальнымі па, спявалі песні на працягу ўсяго сцэнара, ад урачыстага пралогу да маштабнага і пафаснага фіналу. Пасля трох ці чатырох прагонаў мазгі ўжо адмаўляліся вытрымліваць перагрузку, таму я не звяртаў увагі на нейкія пабочныя дзеянні, у прыватнасці, зусім не сачыў за тым, хто адчыняў дзверы ў мяне за спінай, заглядаючы ў аўдыторыю, — дацэнт Маслоўская працавала ў экстрэмальным рэжыме і не давала расслабіцца ні на хвіліну.

Нечакана, калі ў соты раз дзверы расчыніліся, а я да іх не павярнуўся, ззаду мне на галаву мяшком накінулі нешта мяккае і сілком выцягнулі ў калідор. Там, сарваўшы нейкі шырокі шалік з вачэй і гатовы да таго, каб гэтым шалікам пяшчотна перацiснуць шыю любога, хто так са мной пажартаваў, я раптам убачыў перад сабой сваіх армейскіх сяброўкурганцаў. Так, гэта былі мае саслужыўцы! Ад якіх я пацiху пачынаў ужо адвыкаць, і ад іхніх жартаў тым больш. Двое з іх вырашылі на развітанне наведаць мяне ў інстытуце, а заадно

паглядзець сталіцу Беларусі. Камандаванне часці нарэшце адпусціла іх «на дэмбель», за ўсе іхнія «подзвігі» дацягнуўшы тэрмін службы амаль да Новага года. Ехаць дадому ў свой родны Курган яны павінны былі праз Маскву, адпаведна з Менска, дзе і адбылася нашая незвычайная сустрэча.

Зразумець маё знікненне з генеральнай рэпетыцыі яшчэ маглі б аднакурснікі, а вось дацэнту Маслоўскай пазней было вельмі цяжка нешта растлумачыць. Рэпетыцыя ў разуменні былых маіх саслужыўцаў Серага і Грыні, адпаведна іх даармейскаму курганскаму досведу, — гэта пару «бомбаў» недарагога віна, некалькі песняў на электрагітары для сяброўак, з якімі гэтае віно распіваецца. Ну а потым ужо хто куды...

У той вечар мы, пэўна, не пілі віно з дацэнтам Маслоўскай у вучэбным корпусе, таму дзве постаці ў вайсковай форме прываблівалі жаночыя позіркі значна маладзейшых асобаў у нашым інтэрнацкім пакоі. Сярод мужчынскай паловы студэнтаў, што далучыліся да провадаў маіх сібірскіх сяброў, за сталом апынуўся і наш аднакурснік Аляксей Х. Да нас ён часта заходзіў з суседняга інтэрната, падтрымліваючы сувязь са сваім земляком, і цяпер, зразумела, трапіў «з карабля на баль». Аляксей у той вечар, як, зрэшты, заўсёды, размаўляў на беларускай мове. Чым вельмі здзівіў курганцаў. Яны, хоць і знаходзіліся шмат часу на Беларусі, але чалавека, які б увесь час размаўляў на тутэйшай мове, яны ўбачылі ўпершыню.

*У пакой нечакана зазірнулі Зміцер Вайцюшкевіч з Веранікай Кругловай: «Хаменку не бачылі?» Іх адразу пачалі запрашаць за стол, але яны рашуча адмовіліся. Будучыя ўдзельнікі «Палаца», а пазней лідары адпаведна «WZ Orchestra» і «Крыwі» хуценька зачынілі дзверы, а з калідора даляцела: «Я-я-к пайду я ў но-овую канюшню-ю...» (Відаць, сустрэліся з тым, каго шукалі...)*

Вядома ж, вайскоўцы як сапраўдныя «дембеля ВВС» везлі з сабой шмат спірту: па пяцілітровай каністры «недатыкальнага запасу» выключна для дому (тут у спірт быў дабаўлены вязкі салодкі сіроп для асаблівага смаку — гэткая «эсэнцыя» з'яўлялася прадметам асобнага гонару), і яшчэ па невялікай пластмасавай каністры чыстага спірту прызначалася на «бягучыя расходы» па дарозе дамоў. Да жалю маіх сяброў, большай колькасці спірту ўзяць з сабой было немагчыма. Уявіце ваеннага, які ў руках замест дэмбельскага чамаданчыка трымае дваццацілітровую каністру.

Студэнцкае брацтва пацвердзіла, што яно, таксама як і веннае, ведае толк у высакародных напоях, таму спірт, прызначаны на «бягучыя расходы па шляху руху», разышоўся амаль увесь па інтэрнацкіх паверхах яшчэ да пачатку ўласна руху. Правесці да вакзала Грыню і Серага здолела невялікае, але моцнае кола самых вытрыманых «дэгустатараў». Калі з намі ў тралейбусе апынуўся Аляксей Х., то Серы ад расчуленасці ледзь стрымаў слёзы. Ён ужо не адыходзіў ад Аляксея ні на крок, патрабуючы ўсё новых перакладаў расейскіх словаў на беларускую мову. Ён піхаў мяне ў бок і ва ўвесь голас, прыцягваючы ўвагу пасажыраў, пытаўся: «А ты почему не размавляешь на такой прекрасной мове?! Ты же её... Алесь, как будет по-вашему... Ты же её... О! Павінен ведаць! Ну ты вашче магёшь? В смысле... Алесь, как?.. Увогуле можаш? Так почему не размавляешь?!»

Што яму адказаць, я не ведаў, але калі чуў, як размаўляе Аляксей, ад якога курганцаў было не адарваць, я сапраўды, магчыма, упершыню ў жыцці, заслухаўся прыгажосцю сваёй мовы. На якой, як аказалася, можна проста размаўляць, а не толькі зачытваць афіцыйныя навіны.

*Раптам Серы на ўвесь тралейбус гучна, ва ўвесь голас заспяваў: «Як па-а-а-айду-у-у я ў но-о-о-овую каню-ю-ю-ю-шню-ю-ю...» Увесь салон нечакана стаў пляскаць у ладкі і гойдацца ў такт на сваіх месцах, а з месца тралейбуснага кіроўцы выглянуў Алег Хаменка, паказаў мне О'К і нейкі час таксама пляскаў у ладкі. Я выпадкова паглядзеў у вакно — за шклом ззялі зоркі, яны былі значна бліжэй, чым звычайна, аблокі белым дымам абгортвалі звонку ўвесь салон і клубіліся прама за ваконным шклом. Далёка ўнізе пад намі праплываў*

*вельмі маленькі, нібыта цацачны, будынак мінскага чыгуначнага вакзала...*

Нездарма кажуць, што з добрых намераў выкладзеная дарога ў пекла. Мае сябры-вайскоўцы так засяродзіліся на практыкаваннях у беларускай мове, што пераблыталі цягнік. У рэшце рэшт мы апынуліся каля маскоўскага, але зусім іншага цягніка. Прычым уся праважальная частка нашага калектыву ўжо была ўнутры вагона, а ад'язджальная яшчэ заставалася на пероне. У іх узніклі пэўныя праблемы з дакументамі. Яны пачалі «качаць правы» і прарывацца ў вагон. І раптам, проста на нашых вачах, вельмі далікатна і прафесійна, не прыцягваючы лішняй увагі, ім заламілі рукі нейкія людзі ў цывільным, якія выраслі нібыта з-пад зямлі. Яны хуценька правялі «салдацікаў» у кірунку да падземнага перахода. Мы ледзь паспелі вываліцца з вагона, бо машыністам ужо далі сігнал да адыходу.

*Ці мне падалося, ці сапраўды ў гэты момант, пасля гучнай аб'явы аб адпраўленні цягніка, з узмацняльніка над перонам загучала — невядома адкуль, аднак жа да болю знаёмая — песня ў незвычайнай фолк-мадэрн апрацоўцы. На самай справе гурт «Палац» запіша яе толькі праз пяць-шэсць год. Але пры той колькасці спірту, што выпіла нашая кампанія, дар прадбачання адкрываўся вельмі проста, і прадчуванне «Палаца» ўжо лунала ў паветры, што прапахла чыгуначным водарам (не выключаецца, што супрацоўнікі чыгункі, якія адказвалі за гучную сувязь на пероне, маглі таксама ўжываць тэхнічны спірт у службовы час, адпаведна, у іх таксама маглі адкрыцца экстрасэнсорныя магчымасці, а хвалі іхняй перадачы — супасці з нашымі...).*

Знайшлі мы нашых сяброў у апорным пункце чыгуначнай міліцыі. Яны сядзелі ў дальнім кутку, з белымі тварамі і амаль цвярозыя. У іх ужо канфіскавалі ўвесь спірт, і міліцыянеры апантана праводзілі экспертызу змесціва каністраў. Рэшткі спірту, які быў змяшаны з сіропам і прызначаўся для



«ўжывання толькі дома», у міліцыянераў вызвалі пэўную падазронасць. Уражваючы вялізным досведам, яны прыйшлі да высновы, што каляровая мутнаватая вадкасць — гэта спірт, выгнаны з клею.

Але самай захапляльнай для міліцыянтаў знаходкай сталі два ваенныя білеты Серага, бо абодва дакументы былі выпісаныя на адну і тую ж асобу. Міліцыянты так і не даведаліся (таму што Серы маўчаў як рыба) пра сумную гісторыю яго перавыхавання нашым камандзірам.

Справа ў тым, што апошнія паўгода службы Серы «бухаў». Ён піў кожны дзень, спірт у яго горла ліўся ў неверагодных колькасцях, і калі яго залежнасць ужо стала немагчыма хаваць, камандзір часці ўласнаручна ўзяўся за «лячэнне». Зыходзячы з уласнага тэзісу аб тым, што ён за ўсю службу нікога не пасадзіў і не хацеў бы гэтага рабіць да пенсіі, камандзір адвёз Серага да знаёмага начальніка турмы і папрасіў, каб той прадэманстраваў свае ўладанні. А праводзячы «экскурсію», расказаў пра тое-сёе са спецыфікі жыцця на зоне. Уражанняў ад гэтага праменаду Сераму хапіла тыдні на два. Потым ён запіў так моцна, як быццам хацеў выпіць за ўсіх тых, хто не здолеў выпіваць там, за калючым дротам. Серы сядзеў на гаўптвахце ў камеры-адзіночцы па дзесяць і болей сутак, атрымліваў «нарады без чаргі», патрапляў пад самы пільны кантроль — але нічога не дапамагала, баец працягваў «бухаць». Ён схуднеў да немагчымасці, нічога не еў, толькі піў. Вось тады ў графе «Асобыя адзнакі» ваеннага білета, што замяняе салдату пашпарт, з'явіўся легендарны запіс камандзіра часці: «Схільны да ўжывання спіртных напояў». Пячатка часці і подпіс камандзіра.

У гэтай графе звычайна запісвалася інфармацыя аб усялякіх узнагародах, медалях ці ордэнах, адзнаках, катэгорыях, класнасці і гэтак далей. Але такі запіс, як у Серага, трэ было не тое што заслужыць — выпакутаваць. Калі праз пару дзён Серы зноў «забухаў», камандзір яго пабіў. Проста на КПП, не звяртаючы ўвагі на сведкаў таго, што адбывалася. Неўзабаве Серы атрымаў у ваенны білет яшчэ адзін запіс:

«Нягледзячы на прынятыя меры, працягваў ужываць усё, што звязана са спіртам». Пячатка. Подпіс камандзіра.

Напярэдадні адпраўлення дадому Серы быў у роспачы. Як прыйсці ў родны ваенкамат? З такімі запісамі ў Кургане, напэўна, яшчэ ніхто не дэмабілізаваўся за ўсю гісторыю Савецкай Арміі. Выйсцем стаў вядомы закон аб тым, што «кожнае дзеянне раўняецца супрацьдзеянню», а ў нашым выпадку можна было б удакладніць: «Што спіртам нарабілася, тое ж ім і выпраўляецца...» За тры літры штабны «пісар» намаляваў Сераму навюткі і чысцюткі ваенны білет з нагоды «страты папярэдняга дакумента, які просьба лічыць несапраўдным». Але запісы ў тым, «несапраўдным», засталіся самыя сапраўдныя. І вось цяпер замест курганскіх сяброў гэты дэмбельскі сувенір з захапленнем разглядаюць менскія менты. Што тут сказаць? Уразіў!

*Нечакана з рацыі аднаго з міліцыянтаў загучала знакамітая ў будучым у выкананні зорак айчыннага і сусветнага этна-року кампазіцыя. «Я-я-як пайду-у-у я ў новую-ю-ю канюшню-ю-ю...» Магчыма, прафесіяналы гуказапісу МУС «запеленгавалі» яе на пероне, калі яна ляцела з чыгуначных дынамікаў, а цяпер рассылалі сваім калегам інфармацыйныя «ўводныя», маўляў, калі што даведаецеся — дасцё сігнал... Усе міліцыянты адразу заторгаліся ў танцы перад разгубленымі Грынем і Серым...*

Выратаваў курганскіх сяброў іхны наваспечаны сябра, «з гэтага часу і назаўсёды», Аляксей Х. Калі нас усіх, хто спрабаваў «вызваляць» вайскоўцаў, павыганялі з памяшкання апорнага пункта на вуліцу, да дзвярэй паважна падышоў спадар Аляксей. Што ён казаў за тымі дзвярыма, Грыня і Серы так і не змаглі перакласці на расейскую мову і нешта даступна растлумачыць, калі іх літаральна праз пятнаццаць хвілінаў адпусцілі. Зразумела, без спірту і «сувенірных» дакументаў. Але нягледзячы на тое, што змест Аляксеевай прамовы яны перадаць не маглі, сам факт яго «выступлення» на беларускай мове іх вельмі ўразіў. Здаецца, таксама як і міліцыянтаў. Грыня не мог супакоіцца да самага ад’езду: «Ну как ты их, блин... Карлом Марксом р-р-раз... Они — чё, чё? Я и сам-то мало чё понял... А ты им Ленина — полное собрание сочинений, том такой-то... Да на беларускай мове! Ну, ты, блин, мастак!.. А про Василия Быкова правда, что ли?..»

Што пачуў Грыня пра Васіля Быкава, засталося таямніцай, бо госці ў рэшце рэшт развіталіся і з беларускай сталіцай, і з усімі намі, і асабіста з Аляксеем Х. Але дакладна вядома, што пазней той жа самы Быкаў актыўна падтрымаў творчасць пісьменніка-пачаткоўца, як, зрэшты, і шмат іншых выдатных людзей, якія мелі дачыненне да сапраўднай беларускай культуры.

Можа быць, нехта скажа:, дык што ж цікавага ці каштоўнага ў гэтай гісторыі? Магчыма, і сапраўды выпадак з шэрагу звычайных, бытавых сустрэч не варты, каб прэтэндаваць на нейкі літаратурны сюжэт. Але прайшло дваццаць гадоў, а мае ўласныя ўражанні нідзе не падзеліся.

Я па-сапраўднаму быў уражаны тым, як чалавек за пару гадзінаў выпадковых адносінаў адкрыў для гасцей тутэйшы свет. Сапраўдны каларыт тутэйшай культуры захапіў вельмі далёкіх ад яе людзей, хаця б і перад самым з ёй развітаннем. І гэта здарылася пасля двух гадоў іхняга знаходжання на беларускай зямлі і пастаянных штодзённых стасункаў з іншымі мясцовымі жыхарамі. Зрэшты, такімі самымі, як і я, што за гэтыя два гады жыцця побач не здолеў паказаць не тое што багацце, а ўвогуле нешта вартае ўвагі. А можа, быў сам яшчэ зусім бедным тутэйшым жыхаром, і паказваць не было чаго? І, магчыма, разам са сваімі сябрамі з далёкіх сібірскіх земляў на развітанне я таксама атрымаў ад незвычайнага чалавека частачку сапраўднага скарбу.

*Кажуць, што фільм, зняты паводле аповесці Аляксея Х., быў прапанаваны не адной замежнай кампаніі, і шмат хто з прадстаўнікоў тых кампаній зацікавіўся гэтым праектам. Знаёмыя супрацоўнікі адной з беларускамоўных рэдакцыяў неяк расказвалі, што Аляксей як аўтар сцэнарыя і па сутнасці адзін з галоўных стваральнікаў фільма пасля*

*выхаду на экраны мала што ведаў пра яго далейшы лёс. Задавальняючыся чуткамі, што тыя ці іншыя камерсанты ад кіно выкарыстоўваюць яго працу.*

*Застаецца спадзявацца толькі, што калі карціна праўдамі ці няпраўдамі трапіць у Курган, то ўдзельнікі даўніх прыгодаў у беларускай сталіцы нейкім чынам даведаюцца, зразумеюць ці адчуюць няўлоўную сувязь з чалавекам, які калісьці выпадкова зрабіў для іх сапраўдны падарунак (*здаецца, што самы час ужо зайграць музыцы, але ж не! Патрэбны момант, напэўна, яшчэ не надышоў...).

Часам адбываецца так, што пэўны выпадак ці дзеянне аднаго чалавека аказвае значны ўплыў на тых, хто вакол яго. Калі апошнія становяцца «аб'ектамі» ўзаемаадносінаў. Аднак для самога «суб'екта» той выпадак ці дзеянне можа быць увогуле незаўважаным.

Пры нашай выпадковай сустрэчы на плошчы Перамогі ў Менску спадар Аляксей Х. мяне не пазнаў, таксама як і не прыгадаў выпадак з вайскоўцамі. Нічога дзіўнага — за два дзесяцігоддзі ў яго жыцці адбывалася шмат больш значных падзеяў і хапала сустрэч з самымі рознымі людзьмі. Хаця мае знаёмыя з беларускамоўнай рэдакцыі сцвярджалі: «Ён памятае ўсіх, хто калісьці сядзеў з ім за адным сталом...»

Аднак прыемна адчуваць сябе хоць нейкім выключэннем хаця б з якіх-небудзь правілаў...

*На хвалі адной з менскіх радыёстанцыяў з прымача, які ўключае і выключае бармэн кавярні «Бярозка», што месціцца на сталічнай плошчы Перамогі, недалёка ад рэдакцый часопісаў «Полымя» ды «Маладосць», пад нягучны перастук двух кілішкаў гучала кампазіцыя «Як пайду я ў новую канюшню» ў выкананні аднаго з лепшых беларускіх фолк-гуртоў.*



# ВЕЧАРЫ Ў ПРАВІНЦЫІ

*Сапраўдная акалада**

## 1. (ДУЖКА ПЕРШАЯ)

Што за Новы год без Дзеда Мароза і Снягуркі ў невялікім мястэчку? Калі ўсе, хто яшчэ здольны рухацца пасля дванаццаці гадзінаў, няўпэўнена, але даволі аптымістычна перасоўваюцца на цэнтральную плошчу, да вялізнай ёлкі, што сама крыху няўпэўнена стаіць пад добрым вуглом да гарызантальнай плоскасці паміж будынкамі райвыканкама і райкама партыі. Быццам сімвалізуючы, а мо нават і прадвызначаючы нейкі ўсеагульны перакос. І не дзіўна, бо Саюз Савецкіх, а ў яго складзе і Беларуская ССР, сустракаюць хоць і новы, але апошні свой год.

Пра гэта, зразумела, невядома большасці звычайных людзей, ніхто з іх не здагадваецца нават, што такое можа ўвогуле адбыцца. І ў пацвярджэнне гэтага стабільнага ўспрымання рэчаіснасці на цэнтральную вуліцу выязджаюць сані, у якія традыцыйна запрэжаны неакрэсленага колеру брудны конь. У санях рыпіць гармонік, што граў яшчэ, мабыць, і дваццаць гадоў таму на такіх жа навагодніх святах. Як заўсёды, пішчаць дзяўчаты з раённага Дома культуры, якія, здаецца, за тых жа дваццаць гадоў зусім не пастарэлі, а на дарогу з саняў выскоквае дзіўны персанаж педэрастычнага выгляду і заклікае народ: «Людцы! Людцы! Усе на свята! Усе на свята!»

Нехта з моладзі, што праходзіла побач, кідае масавікузацейніку пад ногі петарду. Конь палохаецца выбуху і,

* 1) Акалада (фр. accolade) — знак музычнага пісьма (прамая ці фігурная дужка), які аб'ядноўвае два і больш нотных станаў у партытуры для аргана, фартэпіяна і г. д.; 2) «Акалада» — перадача на адным з каналаў беларускага тэлебачання, аўтарамі якой з'ўляліся Анатоль і Аксана Вечар.

прысеўшы, рве з месца. «Тпр-р-р-р-у-у-у! Ёпсяль ты мопсяль!» — крычыць «кіроўца», а незразумелы персанаж з ліку культпрасветработнікаў бягом даганяе сані і на хаду куляецца проста на дзяўчат. Гарэзлівая моладзь, задаволеная сваім жартам, рагоча і спрабуе адшукаць сабе новых прыгодаў.

Да гэтых піратэхнічных штучак і людзі яшчэ не надта прызвычаіліся, не тое што коні. У якасці рэдкіх сувеніраў петарды толькі нядаўна з'явіліся ў гэтай мясцовасці. Тут моладзь заўважае «кліента», які ўжо амаль «выспеў». Вялізны рабацяга, сапраўдны волат, ледзь рухаецца ў напрамку да ёлкі. Яго куртка маеаграмадны, «саўковага» пакрою, капюшон, куды пры жаданні можна загрузіць бутэлькі тры-чатыры гарэлкі, пару піва і немалую колькасць закусі. Ці, напрыклад, схаваць дзве-тры вялізныя галоўкі сыру, каб пранесці цераз прахадную мясцовага масласырзавода. Адзін з падлеткаў хуценька выбірае петарду памацней, запальвае яе, падбягае да ўдзельніка свята ззаду і кідае выбухованебяспечны цуд у капюшон.

Пакуль фіціль недзе там пырскае іскрынкамі, хлопец забягае перад павольным пешаходам і кажа: «Дзядзька, стой! Слухай!». Жудасны выбух грыміць у дзядзькі за плячыма. У нармальных людзей у гэтай сітуацыі адразу ўзнікла б пагроза страціць прытомнасць ад ціску на барабанныя перапонкі. Аднак уладальнік капюшона, нават не пахіснуўся, і здаецца, не звярнуў на выбух ніякай увагі. Чым вельмі ўражвае жартаўнікоў-піратэхнікаў, у якіх усмешкі павольна сыходзяць з твараў. А дабівае дзядзька аматараў экстрэмальных жартаў сваім пытаннем праз пэўную паўзу пасля выбуху: «Дык што слухаць?!»

Моладзь разгублена моўчкі рэціруецца, яшчэ не разумеючы з прычыны свайго ўзросту, што ціск вадкасці, якую дзядзька прыняў унутр за апошнія двое-трое пераднавагодніх сутак, значна перасягае ціск нейкіх вонкавых, хай сабе і моцных, раздражняльнікаў. Прыкладна ў такім жа стане да ёлкі сцягваецца большая частка дарослай публікі.

А на вялікай размаляванай сцэне, што знаходзіцца непасрэдна за ёлкай і пад балконам пасялковага Савета, ужо з'явіліся Дзед Мароз са Снягуркай. І здаецца, што ў сённяшнюю святочную ноч у ролі гэтых папулярных у народа персанажаў апынуліся Анатоль ды Аксана Вечары («Што, тыя самыя?! — натхнёна запытаецца малады «прасунуты» чытач. — Тыя, што праз шмат гадоў будуць вядомыя па ўсёй рэспубліцы як аўтары і стваральнікі цікавых музычных праектаў на беларускім тэлебачанні, яркія рок-вядучыя, прадзюсары ды рэжысёры шматлікіх кліпаў і фільмаў?» — «Так, тыя самыя», — не спяшаючыся адкажа яму сталы, з вялікім музычным стажам, глядач). Яшчэ здаецца, што ролю Бабы Ягі выконвае прыгожая і цікавая, і таксама ў будучым — стваральніца выдатных музычных радыё- і тэлерэпартажаў, вясёлая дзяўчына, якой не надта і падыходзіць роля злой бабулі. На заднім краі сцэны круцяць неверагодныя сальта і кульбіты двое братоў-блізнятаў з Белдзяржцырка — яны не толькі віртуозы сваёй справы, але і сапраўдныя цыркавыя экстрэмалы, бо працуюць на абледзянелых і занесеных снегам дошках.

Як апынуліся гэтыя паважаныя людзі на мястэчковай сцэне нашай забытай богам правінцыі, ды яшчэ на Новы год? Не ведаю, як і сказаць, але адбылося гэта менавіта па маёй ініцыятыве. Справа ў тым, што на дадзены момант я ўзначальваю гаспадарча-разліковую фірму, так званы «Цэнтр дасуга», і зараз на мне ляжыць адказнасць за правядзенне навагодняга свята ў нашым райцэнтры.

Часы цяпер не самыя лепшыя для фантастычных шоу, але мы і самі не дурні наконт пашукаць прыгодаў... Чаго вартая адна толькі святочная прафілактыка камплекта апаратуры, калі за гадзіну да пачатку мерапрыемства гукааператар (з найлепшых, відаць, пераднавагодніх пачуццяў) вырашыў пераправерыць красовер (навошта?!!), зняў крышку і пад напругай патыкаў туды-сюды адвёрткай. У выніку згарэў блок, без якога цяпер не могуць працаваць дзве гары вялізных калонак на балконе пасялковага Савета, што прызначаліся для якаснага агучвання плошчы. Гукааператар згубіўся разам са сваёй ініцыятывай, і замест яго апаратуры

па вуглах балкона стаяць два сціплыя невялічкія «комбікі», моц якіх разоў у дзесяць меншая, чым у былой «панарамы».

Комбікі ў наш час — рэч дэфіцытная. Адзін з іх — мой гонар. Зрабіў яго менскі майстар па мянушцы Фэндар, які некалі мантаваў стылёвую апаратуру «пад фірм*у*» і, па чутках, нават сядзеў за савецкім часам за незаконную прыватна-прадпрымальніцкую дзейнасць, а потым і ўвогуле некуды знік. Але ж, як вядома, справа Фэндара жыве і квітнее. Доказам чаму — вясёлая музыка з балкона пасялковага Савета народных дэпутатаў, якая льецца праз стварэнне рук чалавечых.

Але ж мы зусім забыліся пра галоўных герояў на сцэне. Усё добра атрымліваецца ў сталічных вядоўцаў: і пастаўленыя галасы не падводзяць, і беларуская мова прыгожа гучыць, і сцэнарый выдатны, з нестандартнымі сюжэтнымі паваротамі, з небанальнымі жартамі, зваротамі да публікі.

Толькі адно не ўлічылі вядучыя, а я як арганізатар не пракантраляваў (што рабіць, выпускнікі адной установы, рэнамэ якой добра адлюстроўваецца ў вядомым анекдоце пра Інстытут культуры і пральню). Дык вось, не ўлічылі мы тое, што працаваць нам сёння неабходна не ў тэле- або радыёстудыі ў прамым эфіры ці на ўзорнай пляцоўцы перад тэлецэнтрам на Макаёнка, 9, ды для падрыхтаванай публікі. А працаваць трэба з нашымі звычайнымі правінцыйнымі людзьмі, з публікай простай і далёка не элітнай. Той аўдыторыяй, што ніякіх умоўнасцяў кшталту культурных паводзінаў ці добрых манераў (несапраўднае ўсё гэта) не прымае. Якая з раніцы трыццаць першага снежня нават і ўявіць сабе не магла, што будзе распяваць мацерныя прыпеўкі з навагодняй сцэны, а прачнуўшыся да абеду першага дня новага года, пры ўсім жаданні той факт не ўзгадае:

«...Эта у міня так хлебало разукрашена за то, што танцавал на сцэне са Снігурачкай, а патом хател іё пацалаваць? А хто ж міня так разукрасіл? Адгадаць з трох разов? Думаю, што з вас дваіх гэта была не Снігурачка... А што эта у тібя пад глазам? Фінгал? За то, што я бараду Дзеду Марозу атрывал, а ты яго зашчытіла? Ты гонішь? Ішчё мікрафон хацел атарваць і закінуць в ёлку? А гарманіста скінул са сцэны, за тое, што не дал гармонь? Паслушай, я што-та нічіво такова не пріпомню... Ну, праснулся сіводня, думал ўсё как у людзей, патанцавалі, там, пад ёлкай, півка папілі...»

А дзе ж у радасны час навагодняга свята знаходжуся ўласна я? Той, хто заварыў усю гэтую кашу? Той, хто запрасіў выдатных вядучых, а падраздзяленне АМАПа, каб абкружыць імі навагоднюю сцэну, запрасіць не падумаў, спадзеючыся на такую ўмоўнасць, як культурны ўзровень публікі? А вось і я — разам з Міхаілам, сваім напарнікам па арганізацыі мерапрыемства (ён ганарова прадстаўляе тут райкам камсамола), мужна змагаемся замест адсутнага атрада спецназа з некантраляванай масай пад умоўнай назвай «мясцовая публіка». Спрабуем утрымаць і не пусціць неўтаймаваны натоўп на сцэну. Туды, дзе вядучыя ўжо з жахам пачынаюць разумець, што працаваць ім засталося вельмі мала часу, і таму, самі таго не жадаючы, паціху скарачаюць сцэнарый...

Пасярод гэтай сапраўднай баталіі, побач з краем сцэны нейкім чынам апынаецца дзесяцігадовая дзяўчынка. «Дзядзь, — тузае дзяўчынка мяне за рукаў, — у вас на балконе нешта гарыць і вялікі дым ідзе...» Я вылучаю момант і падымаю галаву. Гэтую захапляльную карціну цяжка апісаць словамі. З балкона, амаль што вертыкальна, у празрыстае ад марозу начное неба ўздымаецца, пашыраючыся чым вышэй, тым больш, таўсценны слуп чорнага дыму. Кажуць, што не бывае гэтай другаснай фізічнай з'явы без папярэдняй першаснай. І, апускаючы позірк ніжэй, я раптам згубленую сувязь аднаўляю і дакладна фіксую. Полымя вырываецца з-пад верхняй панэлі знакамітага «фэндараўскага» самаробнага шэдэўра — там ужо па-сапраўднаму гараць два вялізныя, наматаныя спадаром Фэндарам уручную, трансфарматары, гарыць паралон унутранай абіўкі сценак, плавяцца правады. Комбік мне нагадвае зусім не музычную апаратуру, стылізаваную пад фірму «Фэндар», а прадукцыю завода «Месершміт», што была выведзена са строю ў начным зімовым небе і звалілася на балкон пассавета пры знакамітым штурме навагодняй сцэны.

А вось я зноў, сачыце, — у расцягнутых рухах запаволенай здымкі, падлятаю па прыступках пассавета і далей, далей — на другі паверх, каб трапіць на балкон. Мне наўздагон нешта бязгучна крычыць мой напарнік Міхаіл, якога я так нечакана пакінуў, і ён застаўся трымаць абарону адзін. Але яго ўжо падхоплівае на рукі вялізны чалавек, што выдзяляецца з натоўпу і сваімі габарытамі, і вялізным капюшонам. Паклаўшы на плячо, ён без цяжкасці заносіць майго таварыша на сцэну, накіроўваючыся туды разам з натоўпам, што свішча, галёкае і вішчыць на розныя галасы. Вось ужо ў Дзеда Мароза «папрасілі» мікрафон, і сцэнарый свята кардынальна змяняецца на вачах, напаўняючыся нейкім жудасным сэнсам першабытнай рэальнасці.

Прабачце, але гэта зноў я — тут ужо, здаецца, хуткасць умоўнай здымкі пэўна перабольшана. Вось я з шалёнай энергіяй вышморгваю сеткавы шнур з разеткі і пачынаю чым трапляе пад руку тушыць «Фэндара»: уласнай вопраткай збіваю полымя, закідваю снегам, які трохі назбіраўся на балконе. «Фэндар» раз'юшана шыпіць і дыму выпускае як сапраўдны збіты «месер». Усё гэта адбываецца пад музычнае суправаджэнне другога комбіка. Дзякуй Богу, ён яшчэ працуе. Нічога не замкнула, нічога не загарэлася. Таму гэта здарэнне, мабыць, ніхто і не заўважыў, акрамя той дзяўчынкі ды мяне, — музыка ж не перарывалася!

Неяк мы дапрацавалі гэтую незабыўную ноч. Сталічныя госці былі ўражаны незвычайна — вось у якіх умовах гартуюцца характары! Прымаючы бок таксама не ведаў, куды падзецца ад эмоцыяў. Быў яшчэ адзін цікавы момант у гэтай гісторыі — справа ў тым, што вышэйапісаная паездка з'явілася для маладой пары Вечараў сапраўдным вясельным падарожжам.

З мясцовых жыхароў, напэўна, і да гэтага часу ніхто не ведае, хто іх забаўляў у ролі Дзеда Мароза і Снягуркі. Што тут скажаш? Каму што выпадае — адны адпачываюць, другія працуюць. Гэткая ўзаемасувязь — які адпачынак, такая і праца.



**2. (ДУЖКА ДРУГАЯ)**

Метамарфозы культурнага жыцця — рэч абсалютна правільная і неабходная. Праз год ужо я, можна было б нават сказаць — з візітам у адказ, патрапіў у якасці ўдзельніка навагодняга шоу ў прэстыжную камерцыйную ўстанову сталіцы і са здзіўленнем пазнаў пад дзедамарозавай барадой прарэктара роднага інстытута, што працаваў тут на пару разам з загадчыцай вядучай кафедры.

Можна, безумоўна, дапусціць, што ўсім, хто меў дачыненне да сферы культуры ў той час, было нялёгка з заробкамі, але ж нельга выключаць і такое меркаванне, што кіраўнікі аўтарытэтнай ВНУ знаходзіліся ў пэўным навучальным працэсе. З мэтай, па-першае, набыцця, а па-другое — перадачы сваім выпускнікам, будучым патэнцыйным зоркам айчыннай культуры, не толькі адарванай ад жыцця тэорыі, але і грунтоўных практычных ведаў.

Аднак сапраўдныя зоркі, як паважаны чытач мог упэўніцца, час ад часу трапляюць у непараўнальна больш складаныя ўмовы адмысловых «рэаліці-шоу». Тут гісторыі істотна адрозніваюцца адна ад адной.

Ну, а мы пакуль што развітваемся з вамі. Да новых сустрэч! Працяг у наступнай... О, прабачце, шаноўныя чытачы, вядома ж, мы зараз не ў эфіры. Мы па-ранейшаму на гэтых старонках, і наша сённяшняя тэма — апошні савецкі Новы год у правінцыйным мястэчку з удзелам тэлезоркапачаткоўцаў.

Трэба ўсё ж такі адзначыць, што атрымаўся ён на славу — у лепшых, так бы мовіць, культурных традыцыях былой краіны.

# ЗВЫЧАЙНЫ ШОУ-БІЗНЕС,
# альбо НЯЛЁГКАЯ ТРАСА ДА ШЧАСЦЯ

## У РЭЖЫМЕ СВАБОДНАГА ПОШУКУ — ТРЭК «ШОУ ЯК ЭЛЕМЕНТ БІЗНЕСУ»

Аднойчы я пражыў на чыгуначным вакзале ў Брэсце трое сутак. Не, я не стаў чалавекам «без пэўнага месца жыхарства». Наадварот, набыў больш-менш устойлівае сацыяльнае становішча — я зрабіўся прыватным прадпрымальнікам. Адкрыў відэапракат, студыю гуказапісу і краму па продажы музычных тавараў.

Зарэгістравацца ў ліку першых некалькіх дзясяткаў прадпрымальнікаў у сябе дома, у маленькім мястэчку на Магілёўшчыне, аказалася не так і проста. Не таму, што на шляху да запаветнай рэгістрацыі знаходзілася неверагодная колькасць кабінетаў, дзе неабходна было прад'явіць, пацвердзіць, атрымаць, напісаць, перапісаць стосы даведак-заяваў-рэкамендацыяў-дазволаў. А таму што сярэдзіну 90-х ад часоў Савецкага Саюза аддзяляў невялікі тэрмін, і адпаведна, мысленне большасці насельніцтва заставалася па-ранейшаму «яшчэ тым...» У першую чаргу гэта тычылася бюракратычнага апарату былой сістэмы.

Ва ўсіх камітэтах і саветах, філіялах і аддзелах, а таксама гаспадарках, аб'яднаннях, таварыствах і ўстановах працягвалі працаваць былыя савецкія супрацоўнікі. Любога з тых удзельнікаў сістэмы кіравання вельмі добра можна было зразумець, як і дылему, паўсталую перад ім. На працягу ўсяго папярэдняга жыцця спадара бюракрата «прыватна-прадпрымальніцкая дзейнасць» разглядалася як артыкул крымінальнага кодэксу. Але ж зараз аднекуль з'явілася неабходнасць яе афіцыйна падтрымліваць (от, спекулянты! Банда гультаёў! Сталіна на іх няма! Я ім дам дзейнасць! Яны ў мяне паскачуць...).



Калі, узяўшы курс на ўладкаванне ўласнага жыцця ў якасці верагоднага прадпрымальніка, пройдзеш хаця б сем колаў знаёмства з мясцовай адміністрацыяй на працягу некалькіх тыдняў (а то і месяцаў) — адчуваеш сябе не грэшнікам, а думаеш дакладна наадварот: навошта мне, з маім анёльскім мінулым, былі патрэбны гэткія пакуты? Можа, пакуль не позна, кінуць гэты «доўгі шлях да пасведчання» ды вярнуцца ў рай савецкага ўзору? Займаць пасаду і, пакуль начальства заплюшчвае вочы, паціху красці? Калі ж начальства прыадкрые хаця б адно «вока» — маўчаць «у анучку» і падзяліцца з «уладарамі свету». Вось і ўвесь рэцэпт выжывання. Навошта патрэбныя гэтыя навамодныя «павевы» з мэтай самастойна зарабляць суадносна са сваімі здольнасцямі? І дзе ўпэўненасць, што насамрэч нешта заробіш, калі і набудзеш канчатковы дазвол на прыватна-прадпрымальніцкую дзейнасць?

Але нешта непадуладнае асэнсаванню ўсё ж такі не дае спакою і прымушае прайсці гэты шлях да канца. Што хаваецца за гэтым «нешта»? Прага да адмоўных эмоцыяў, імкненне да брутальнасці ў стасунках з бюракратычнай сістэмай? Ці наіўная надзея на змены ў грамадстве і яго мысленні?

Мая невялічкая музычная крама, як караблік з паперы, няўпэўнена боўталася на магутных хвалях усё буйнейшых эканамічных зменаў. З мізэрных даходаў ад далучэння рэдкіх спажыўцоў да культурнага сусветнага багацця трэба было плаціць зарплату гандлярам, арэнду за памяшканні, падаткі, спасцігнуць рост якіх было немагчыма, а таксама тэрміновыя «дадатковыя» паборы ўсіх узроўняў.

Нарэшце надышоў час, калі ад «уласнай справы ў культурнай сферы» застаўся толькі «спартовы інтарэс», а на жыццё зарабляць ужо трэба было нейкім іншым чынам.

## ВЫПАДКОВЫ ВЫБАР. ТРЭК № 2. БІЗНЕС ЯК СКЛАДНІК ШОУ

Выратавала, як ні дзіўна, знакамітая траса, якая будавалася яшчэ для маскоўскай «Алімпіяды-80». На ўсіх былых савецкіх і постсавецкіх картах яна была пазначана як «М-1» і насіла неафіцыйную назву «Масква–Брэст». На тых жа картах гэтая магістраль мела дадатковае пазначэнне «Е-30», што дазваляла за савецкім часам сціпла называць яе «Масква–Варшава» (маўляў, Варшава — гэта ўжо і так занадта вялікае замежжа для савецкага чалавека). На самай справе аўтатраса Е-30 як калісьці, так і цяпер праз Польшчу выходзіць на поўнач Германіі, перасякае Галандыю, працягваецца да сталіцы Вялікабрытаніі — горада Лондана і канцавым пунктам у далейшым напрамку мае горад Корк на востраве Ірландыя. Горад гэты стаіць на беразе заліва, і хвалі, якія амываюць яго набярэжныя, ёсць не што іншае, як хвалі Атлантычнага акіяна.

Такім чынам, дарога пад простай назвай Е-30 на самай справе звязвала два краі зямлі: заходняе ўзбярэжжа Еўропы і таямнічыя землі за «жалезнай заслонай» на ўсходзе, адразу за Брэстам. Дзе для колішніх еўрапейцаў (а ў немалой ступені таксама і для сучасных) сапраўды заканчваўся свет.

Уласна маё мысленне ў сярэдзіне 90-х, напэўна, няшмат чым адрознівалася ад мыслення іншых грамадзянаў былой краіны Саветаў. Таму ўявіць падарожжа на ўзбярэжжа Атлантычнага акіяна — гэта значыць «на другі край свету» — было вельмі цяжка, і нават не з-за фінансавых магчымасцяў, а з-за пэўных клішэ савецкага мыслення. А вось вандраванне з суседняй Масквы ў братнюю Варшаву ўяўлялася нейак больш рэальным. Не выключаецца, што гэта адбывалася па прычыне, з аднаго боку, ідэалагічных стэрэатыпаў, закладзеных савецкай сістэмай у галовы сваіх грамадзянаў. А з іншага боку, маглі адыграць ролю падсвядомыя матывы на генным узроўні. Хто ж тут дакладна можа ведаць?

Але ж надышоў час, і я, таксама як многія мае суайчыннікі, у пошуках заробку выправіўся ў тагачаснае амаль што неверагоднае замежжа — па аўтамагістралі, якая да Брэста мела два пазначэнні, а далей ёй цалкам хапала і аднаго.

Чаму ўзнік менавіта такі маршрут, трэба патлумачыць асобна. У любым сапраўдным бізнесе пачаткоўцу трэба шукаць «сваю нішу». З усіх музычных тавараў, якія я вазіў на продаж, канкурэнтаздольнымі на той час апынуліся кампакт-дыскі, а таксама рарытэты, здавалася б, якія ўжо адышлі ў мінулае, — старыя вінілавыя кружэлкі. Кампакт-дыскамі завалілі Маскву балгарскія і кітайскія піраты. А вось чыгуначныя саставы з вінілам са сваіх складоў у тую ж Маскву «скінулі» вядомыя сусветныя карпарацыі, у якіх гэты тавар стаў лічыцца «нехадавым» у выніку з'яўлення новых лічбавых тэхналогій у музычнай індустрыі.

Пра гэтыя расклады я даведаўся пазней, а пакуль што ў прыватным парадку наладзіў шлях да Масквы па свой адмысловы тавар, а адтуль — у Варшаву і іншыя польскія гарады, дзе тыя рэчы, што я прывозіў, набылі немалую каштоўнасць.

Першы час я досыць нязвыкла выглядаў на польскіх кірмашах, прапануючы свой інтэлектуальны асартымент пасярод прылаўкаў з рыдлёўкамі, сякерамі, гарадзенскім шклом, магілёўскімі тканінамі, жлобінскімі цацкамі — усім, што прадавалі вакол мае землякі. Да таго ж я стаяў з таўшчэзнай рок-энцыклапедыяй і кожнаму з пакупнікоў каментаваў той ці іншы альбом, якім ён цікавіўся. Гэта сапраўды дзіўна выглядала, але ў хуткім часе вакол мяне згуртавалася кола сталых замаўляльнікаў-меламанаў, і нагода стаяць на кірмашы знікла сама па сабе. Я прывозіў кампакты і кружэлкі «пад замову», а тое, што заставалася, здаваў на рэалізацыю ў прыватныя крамы.

Адзін з маіх новых знаёмых і пастаянных пакупнікоў, упэўніўшыся, што можна мець са мной справы ў нашым невялікім бізнесе, цягам паловы дня (sic!) аформіў ліцэнзію на гандаль музычным таварам. У дадатак тут жа падпісаў дамову на арэнду невялікага памяшкання пад краму. Не далей як назаўтра ён ужо стаяў за навюткім прылаўкам, пад шклом якога былі выкладзены прывезеныя мной кампакт-

дыскі, вінілавыя кружэлкі, а па сценах развешаны музычныя плакаты з выявамі рок-зорак.

Так, усё пазнаецца ў параўнанні! Я быў пэўна шакаваны хуткасцю вырашэння справаў, таксама як і лёгкасцю дзеяння ў дачыненнях майго польскага знаёмага з адміністрацыяй яго горада.

Але адкрыцці для мяне тады толькі пачыналіся. Я не паверыў сваім вачам, калі пры запаўненні гандлёва-закупачнай накладной у мяне спыталіся хатні адрас. Які без усякіх праблемаў указваў на тое, што я грамадзянін іншай краіны. Я паспрабаваў уявіць такое становішча ў сваёй краме. Вынік быў не надта вясёлы: любыя кантакты з замежнікамі (у тым ліку і ў думках) у нас традыцыйна разглядаліся як «падрыўная дзейнасць», «шпіянаж» і «ўмяшанне ў палітычныя справы суверэннай дзяржавы».

## ТРЭК № 3. МАРАЛЬНЫ АСПЕКТ

Пазней, паставіўшы мэту працаваць менавіта з музычнымі крамамі, у адным польскім горадзе я пазнаёміўся з уладальнікам цэнтральнай, самай аўтарытэтнай, крамы аўдыёпрадукцыі. Кошты на кампакты там былі самыя вялікія ў горадзе. Я прывозіў дыскі па самых нізкіх коштах, таму, выставіўшы тавар па сярэдніх, пан гандляр мог умомант распрадаць дыскі і за адносна хуткі час дапамагчы нядрэнна зарабіць і мне, і сабе.

Але, прыехаўшы праз два тыдні, я са здзіўленнем убачыў нераспрададзеныя каробкі сваіх кампактаў, якія стаялі па тых жа коштах, што і ўся астатняя прадукцыя ў краме. Гэта значыць, па коштах максімальных. Першай рэакцыяй на здарэнне сталі не дужа ветлівыя разважанні аб тым, што пан нічога не разумее ў бізнесе. Адразу ж за гэтым прыйшла думка, што гаспадар магазіна — вялікі скнара, які хоча ахапіць неахопнае і зарабіць усе грошы. Потым я крыху супакоіўся і падумаў, што ён проста мог не зразумець мяне пры нашай папярэдняй сустрэчы ці штосьці пераблытаць. І пачаў яму павольна раскладаць «па палічках» усю тактыку і стратэгію хуткага і бяспройгрышнага гандлю, іншымі словамі, арганізаваў своеасаблівы курс «лікбезу» ў сферы звычайнага шоу-бізнесу.

Ён уважліва выслухаў мяне, доўга не адказваў, потым прамовіў прыкладна наступнае: «Зараз я паўтару тое, што спрабаваў казаць і мінулым разам, але Вы мяне, напэўна, не хацелі пачуць. Справа ў тым, што гэтая крама — найбуйнейшая ў горадзе. Адпаведна, самая аўтарытэтная. Тое, што я паставіў Вашыя кампакты на рэалізацыю, я зрабіў выключна для Вас, зыходзячы з асабістай павагі. Для мяне ж той факт, што я збіраю пірацкія кампакты па базарных коштах у выпадковых пастаўшчыкоў, — толькі негатыў. Разумееце? Для мяне на працягу многіх гадоў была і застаецца вельмі важнай адна рэч — прэстыж маёй установы. Да таго ж любая праверка, якая без цяжкасці можа выкрыць тое, што я прыняў ад Вас "левыя" кампакты, выпіша мне такі штраф, які будзе разоў у дзесяць болей той сотні-дзвюх даляраў, што мы тут з Вамі заробім. Таму ўласна мне — **БОЛЬШ ВЫГАДНА ПРАЦАВАЦЬ СУМЛЕННА**...» Ён сказаў гэтыя словы спакойна, нягучна — звычайна. «Тлустым шрыфтам» яны аддрукаваліся ўжо ў мяне ў галаве.

## ТРЭК № 4. HAPPY END

Дэталі ўжо сцерліся: не памятаю дакладна, як я тады развітаўся з тым добрым чалавекам, калі і ў якой колькасці забіраў свой тавар. Але добра памятаю, што пасля нашай размовы я прыехаў дадому і рашуча, у першы працоўны дзень, закрыў сваю краму. Зрабіць гэта, зразумела, аказалася вельмі няпроста. І не толькі таму, што, каб здаць ліцэнзію, зноў давялося абысці неверагодную колькасць установаў, напісаць і заверыць, падпісаць і пацвердзіць стосы дакументаў, — а ў нейкай ступені яшчэ і таму, што я вырашыў канчаткова развітацца з айчынным бізнесам: не плаціць больш непрадказальныя паборы; не накрываць «паляны» чыноўнікам («перад тым» працаваць было нельга, а «пасля таго» працаваць адразу можна — адпаведна са звычайнай

савецкай логікай). А яшчэ я хацеў «спаць спакойна» і не чакаць чарговых пастановаў, якія ўводзіліся «заднім чыслом» і абвяшчалі такія падаткі «за прамінулы перыяд», што, каб ведаў пра іх своечасова, не пачынаў бы ніякую дзейнасць увогуле. Таксама я вырашыў не выкарыстоўваць больш фіктыўных накладных і не весці «двайную бухгалтэрыю». Я вырашыў паспрабаваць дачакацца часу, калі мне **БОЛЬШ ВЫГАДНА БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ СУМЛЕННА**. Добра сабе ўяўляю, што гэтага можа і не здарыцца ўвогуле, таму сам для сябе пакінуў запасны варыянт — проста працаваць сумленна, нават тады, калі гэта зусім нявыгадна.

**БОНУС-ТРЭК**

Польшча ў хуткім часе ўвайшла ў сусветную арганізацыю па ахове аўтарскіх правоў. Была вызначаная дата, перад якой гандляваць неліцэнзійнымі інфармацыйнымі носьбітамі па ўсёй краіне яшчэ можна было, а пасля якой на прылаўках застаўся толькі ліцэнзійны тавар (што вельмі цяжка ўявіць у нашых умовах). Зроблена гэта было вельмі дакладна, строга і без выключэнняў.

З гэтай нагоды я і сядзеў у Брэсце трое сутак, перавозячы тавар з камер захоўвання багажу з аднаго боку мяжы ў камеры захоўвання на іншым баку, ды ўладкоўваў свае справы з апошнім легальным таварам. Але ж якія дзяўчаты дапамагалі мне разабрацца ў сумленнасці той працы! Так выйшла, што з гэтымі дзвюма прыгажунямі я вяртаўся да Брэста менавіта па трасе Е-30. Хаця ці мае той вояж дачыненне да сапраўднага шоў-бізнесу? Напэўна, гэта ўжо гісторыя крыху на іншую тэму...



# ВЫПАДАК З МАЙЛЗАМ ДЭВІСАМ

У менскім метрапалітэне яшчэ не было вялікіх відэаманітораў, што ўвесь час паказваюць кліпы папулярных выканаўцаў. Не было таксама вялізных рэкламных шчытоў, на якіх прысутнічаюць толькі «брэнды», «акцыі» ды «прамакампаніі» (дэзадаранты, пракладкі ды новыя альбомы мясцовых поп-зорак). Аднак рэкламы ў той час, у сярэдзіне 90-х, таксама хапала: на апорных слупах станцый метро то тут, то там трапляліся прыклееныя «Феніксам» старонкі з нататнікаў ці сшыткаў — аб'явы кшталту «Прымаю каляровы метал», «Прадам бульбу», «Куплю гадзіннікі, манеты, іконы», «Здам пакой дзвюм студэнткам»...

Ніякай музыкі тады ў метро не было, таму нішто не замінала чакаць электрычку і пракручваць у галаве нейкія музычныя фрагменты. Апошнія хвілінаў пяць у маіх вушах гучала кампазіцыя Сціва Паркаро «Human Nature» ў выкананні Майлза Дэвіса. Яна пранізліва нагадвала пра тое, што паслухаць у нармальнай якасці на CD ці паглядзець на відэа вядомы парыжскі канцэрт зараз няма ніякай магчымасці. З дзяўчынай, якая любіла, каб я называў яе Нора, і з якой мы ўсю зіму праглядалі відэазапісы джазавых і рокканцэртаў на яе ўтульнай канапе, стварыліся даволі складаныя адносіны. Працу я страціў, калі забралі вадзіцельскія правы. Машына, занесеная снегам, каторы тыдзень стаяла насупраць пад'езда, напэўна, былой ужо сяброўкі. У багажніку ляжаў увесь мой «скарб»: пара скрыняў з відэакасетамі і кампакт-дыскамі, два ці тры пакункі з адзеннем і абуткам. Абяцаць для Норы нешта канкрэтнае ў сэнсе нашых будучых адносінаў я не тое каб не хацеў, я проста не мог яе падманваць — ніякіх перспектыў у чужым горадзе я не меў.

Дарэчы, на аўтастаянку перад домам Норы прыязджаў і чагосьці лазіў у машыне муж папярэдняй сяброўкі, Веранікі. У яго былі другія ключы — калісьці раней я даваў яму машыну вучыцца кіраваць. А Веранікі, якая ў хуткім часе стала

жонкай гэтага нябеднага чалавека, нейкім чынам удавалася сумяшчаць карыснае з прыемным.

У той момант, калі ў галаве загучала труба Майлза Дэвіса, я і апынуўся ў метро. З раніцы ездзіў шукаць працу. А цяпер не ведаў, што рабіць, проста кудысьці ішоў. Раптам нехта гучна назваў маё імя. Я павярнуўся і ўбачыў Санька, здараваннага волата з сумкай цераз плячо, які ўсміхаўся ва ўвесь рот: «Прывітанне, землячок!» Санёк быў крыху «паддаты», і ад яго несла ўстойлівым перагарам. Ён занадта эмацыйна пачаў распавядаць, што зараз жыве ў Мінску, што яму тут вельмі няўтульна, што ён ужо стаміўся «выць ваўком у чатырох сценах». Ён спытаўся, у якім раёне горада я жыву, ці даўно быў на радзіме, чым займаюся. Я адказаў, што раней жыў і працаваў у раёне аэрапорта, цяпер часова не працую, дадому не ездзіў ужо некалькі месяцаў, з жыллём на дадзены момант незразумела. Санёк узрадаваўся неверагодна: «Дык што за праблема! У мяне службовая кватэра — фірма аплочвае! Давай, перабірайся да мяне!..»

Так я апынуўся на кватэры ў раёне колішняга праспекта Машэрава. Санёк сапраўды меў неблагое жыллё і жыў адзін. Не дзіўна, што ён тут «выў ваўком». З раніцы да вечара глядзеў тэлевізар, асабліва ўсё, што тычылася спорту, — навіны, рэпартажы, тэматычныя перадачы. Раней ён сам займаўся спортам, выступаў за зборную адной з тэхнічных ВНУ, адпаведна, атрымаў дыплом гэтай установы.

Санёк распавёў, што на працу выязджае, «калі пазавуць». Маўляў, такая вось прафесійная спецыфіка. Першыя тыдні два яго «не звалі». Ён глядзеў тэлевізар, амаль нічога не еў, толькі піў піва. Час ад часу, можа, раз ці два на тыдзень, да яго заходзілі нейкія знаёмыя, і Санёк размаўляў з імі на тэмы, якія крыху мяне ўразілі і здзівілі. Напрыклад, адзін з Саньковых гасцей распавядаў пра агульных знаёмых, што завербаваліся ў французскі легіён. Другі дзяліўся ўражаннямі ад працы па кантракце ў ахоўных агенцтвах у Санкт-Пецярбургу і Маскве. Прычым у першым выпадку ён працаваў на дзяржаўнай службе, што мела дачыненне да вышэйшых колаў улады, а ў другім — у людзей, якія, можа, і маюць дачыненне да ўлады, але з дзяржавай лічаць за лепшае афіцыйных стасункаў не мець.

Аднойчы Санька ўсё ж «выклікалі». Пасля тэлефоннага званка ён некуды з’ехаў раніцай, а дадому вярнуўся толькі ўвечары. Выгляд у яго быў вельмі стомлены. Санёк патлумачыў, што «прыйшоў груз» і трэба было яго «разгрузіць». Я лішніх пытанняў не задаваў. У Санька з’явіліся грошы, і ён адразу ж пачаў «бухаць». Накупіўшы піва і гарэлкі, ён усе наступныя дні з ранку да вечара сядзеў перад тэлевізарам. Прапанаваў пачаставацца і мне, але я адмаўляўся. Мне сапраўды трэба было шмат чаго рабіць — я ўсё ж знаходзіў нейкія магчымасці хоць што-небудзь зарабляць музыкай. Санёк асабліва не настойваў на маім удзеле ў сур’ёзнай мужчынскай справе.

Кожны дзень, прыкладна паміж шостай і сёмай вечара, Санёк пачынаў абзваньваць сваіх старых знаёмых з хатняга тэлефона. Ён называў гэта «тэлефонным візітам ветлівасці». Вітаючы сяброў, Санёк смяяўся і весяліўся, як дзіцё. Пытаўся пра навіны, пра здароўе, віншаваў са святамі, хваляваўся за дзяцей, перажываў за старых. Размаўляў прыкладна хвілінаў трыццаць — сорак, доўга развітваўся, потым у вельмі добрым настроі ўладкоўваўся перад тэлевізарам і працягваў наліваць сабе гарэлку і запіваць півам. Недзе каля дзевяці гадзін вечара ён усхвалявана падскокваў з фатэля і, хістаючыся, падбягаў да тэлефона. Тлумачыў, што забыўся пазваніць. Калі яму адказвалі, ён моцна смяяўся ўголас і зноў некага радасна вітаў. Па пытаннях пра навіны, пра здароўе, па віншаваннях са святамі, па хваляванні за дзяцей і перажываннях за старых можна было падумаць, што ў наступных знаёмых Санька нейкае падобнае жыццёвае становішча, як і ў папярэдніх — тых, каму ён тэлефанаваў пару гадзінаў таму. Але адказы суразмоўцаў цяперашніх, якія Санёк паўтараў уголас, упэўнівалі, што ён зноў тэлефануе адным і тым жа людзям. Адпаведна, размова скарачалася да хвілінаў дзесяці — пятнаццаці.

Апошні раз на дзень Санёк званіў прыкладна гадзінаў у дванаццаць ночы. Ён ледзь варочаў языком, перапрашаўся

за позні званок, спрабаваў гучна смяяцца, вітаў сяброў і пачынаў пытацца пра навіны, пра здароўе, пра дзяцей, пра старых... Звычайна апошняя размова доўжылася не больш за хвіліну. Пасля чаго гэты сапраўдны волат ў адзенні і ў абутку забурваўся на ложак і пачынаў моцна храпці. Я ўставаў, выключаў тэлевізар, святло і зноў клаўся ў свой ложак. Калі-небудзь Санёк мог яшчэ і назаўтра з раніцы патэлефанаваць тым самым знаёмым. Але дзеці ўжо адказвалі, што ні таты, ні мамы няма дома.

Як высветлілася пазней, «праведваў» такім чынам Санёк у асноўным міліцыянераў ды іх блізкіх сваякоў. Справа ў тым, што ў свой час, па заканчэнні прэстыжнай ВНУ, «малады спецыяліст» праз дапамогу сваіх спартовых кіраўнікоў трапіў на працу ў пэўныя органы. Ды не куды-небудзь, а на пасаду намесніка кіраўніка «КВЭНЗ» (камітэт па выяўленні эканамічных і неэканамічных злачынстваў) мясцовага райвыканкама. Афіцэрскае званне дазваляла.

Камітэт займаўся сур'ёзнымі, а часам і вельмі сур'ёзнымі справамі. Але ж галоўным кірункам дзейнасці маладога намесніка і яго сталага шэфа (больш у штаце нікога не было) у хуткім часе сталі «рэйды па праверцы дзейнасці гандлёвых кропак». Трэба адзначыць, што вясковая крама ў тыя часы нагадвала сучасны гіпермаркет — у ёй можна было набыць усё неабходнае для жыцця (зразумела, не ноўтбук з вадкасна-крысталічным маніторам ці, напрыклад, хатні кінатэатр з акустычнай сістэмай «5+1» альбо камплект для дайвінгу ці скутар, але ежу, пітво, цёплае адзенне, гумовы і скураны абутак, інструменты, посуд і шмат чаго іншага).

У Санька ды яго кіраўніка была адпрацаваная схема: яны знянацку з'яўляліся ў якой-небудзь далёкай вёсцы, лаканічна прапаноўвалі загадчыцы крамы паказаць накладныя ды іншыя справаздачныя дакументы. Зразумела, што чалавек ад нечаканасці такога візіту ледзь не губляў прытомнасць, таму што неадпаведнасцяў хапала — хто браў гарэлку «напавер», хто абяцаў грошы за хлеб аддаць з пенсіі, за што-небудзь сама гандлярка не паспела закласці грошы — за муку ці за дрожджы... З важным выглядам вядучыя спецыялісты па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю выкрывалі гэтыя парушэнні. Потым прыкладна так супакойвалі жанчыну: «Мы ўсё разумеем, пратакол пачакае пакуль што — мы ж таксама жывыя людзі. Вось, дарэчы, увесь дзень на працы, а не перакусілі яшчэ...» Жанчына разумела гэтыя словы як загад. Крама зачынялася на «пераўлік». А за дзвярыма, што замыкаліся знутры, ужо стаяў накрыты стол. На ім апынулася ўсё, што было ў краме, — і каўбаса, і сыр, і гародніна, і напоі самыя розныя. А сярод іх і бутэлечка гарэлкі ці каньяку непрыкметна стаяла.

Спачатку Санёк з шэфам знікалі ў рэйдзе не больш чым на дзень. Бутэлькі тры-чатыры гарэлкі ім хапала. Можна было яшчэ столькі ўзяць з сабой. Потым задачы ў супрацьстаянні з ворагамі дзяржаўнай эканомікі ўскладніліся. Калегі сталі з'язджаць у камандзіроўкі на суткі ці нават на двое. Кіраваць службовай машынай пасля першага камандзіровачнага дня было ўжо немагчыма, таму давялося знайсці адмысловае выйсце. У якасці кіроўцы да «рэйдаў» быў прыцягнуты інструктар аўташколы са сваім службовым «масквічом». Ён насіў дзіўнае імя Норкія Аманавіч. Зразумела, што за спінай усе звалі яго Наркаманавічам. Як сапраўдны прафесіянал Наркаманавіч мог ехаць у любым стане, у адрозненне ад сваіх калег-барацьбітоў з эканамічнымі парушэннямі.

Калі экіпаж быў укамплектаваны, адважныя спецыялісты яшчэ актыўней пачалі паглыбляцца ў небяспечную эканамічную зону і як сапраўдныя сталкеры знікалі з поля зроку нават да трох сутак. Адчуванне пэўнага існавання ў паралельнай прасторы было яшчэ і ад таго, што, калі яны «вярталіся», ніхто з іх не мог дакладна сказаць, дзе ён знаходзіўся ўвесь час пасля таго, як наведаў першую кропку ў сваім рэйдзе.

Пасля кожнай наступнай вандроўкі па самай мяжы злавеснай і небяспечнай фінансава-гандлёвай «зоны» каманда некалькі дзён адыходзіла. Што гаварыць, гэта быў нялёгкі занятак сапраўдных мужчынаў. Але, здаецца, аднойчы ўсё перамянілася. Тым познім восеньскім вечарам Саньку вельмі

няпроста было вярнуцца «на базу», дакладней, пераступіць парог сваёй уласнай хаты. З раніцы жонка з вялікай цяжкасцю дабудзілася яго на канапе ў прыхожай. Калі наш герой расплюшчыў вочы, перад ім стаяў Наркаманавіч:

— Саня! «Масквіч» знік!

— Што?! — перапуджана прасіпеў Санёк, які, напэўна, больш спалохаўся не знікнення аўтамабіля, а таго, што замест жончынага твару перад ім апынуўся непаголены чорны і брудны твар Наркаманавіча.

Ну, нельга ж так адразу з раніцы! Санёк паспрабаваў прыўзняцца, але адразу паваліўся назад ад болю ў галаве. Не, дакладна — так нельга турбаваць чалавека з самага ранку!

— Вось так! Няма нідзе! — Наркаманавіч падумаў, што Санёк моцна ўразіўся таямнічым знікненнем службовага транспартнага сродку. — Ні на працы, ні ў маім гаражы, ні ў знаёмых, ні ў сваякоў... Няма! Я ўжо ўсё мястэчка абышоў!

— У-у-у... — паспрабаваў зрабіць зацікаўлены выгляд Санёк.

— Дапамагай! — зароў Наркаманавіч.

Санёк здрыгануўся:

— Ціха ты! Яшчэ не хапала, каб мая дазналася, і так пасля апошняга рэйду ў яе «гукавая лямпа згарэла».

У Санька машыны не было, і калі яны з Наркаманавічам пешшу па другім коле абыходзілі мястэчка, абодвум ужо, пэўна, здавалася, што з кожнага вакна за імі сочаць пільныя вочы эканамічных злачынцаў, якія ні за што не выдадуць, дзе схаваны «масквіч».

З раніцы Санёк пайшоў да вышэйшага кіраўніцтва і паспрабаваў растлумачыць, што ёсць неабходнасць «ціхенька» пашукаць машыну аўташколы, падключыўшы ўсе магчымыя міліцэйскія рэсурсы. На яго абрынуўся ўвесь гнеў кіраўніцтва: «Вы разумееце, што гэта сур'ёзная крымінальная справа? Вы разумееце, што калі даць ёй ход, то павыганяюць з працы і кіраўніка аўташколы, і інструктара, а можа быць, і вас? А можа, яшчэ і пасадзяць каго?..»

Справу ўсё ж давялося завесці. Куды падзенешся, калі ўсё ўсплыло? Заяву пра знікненне службовага аўтамабіля



афармілі на другі дзень. Тэма «рэйдаў» пакуль не ўздымалася, але цішыня вакол іх навісла злавесная. Мала таго, што Санёк не знаходзіў сабе месца на працы, дык дома таксама было немагчыма знаходзіцца. Жонка ўпарта не размаўляла.

На трэці дзень жанчына ўсё ж крыху адышла. Саньку стала значна лепей, калі жонка раптам спыталася, ці будзе ён вячэраць. Потым пайшла да склепа — так яна называла памяшканне, дзе ў іх захоўвалася бульба, капуста, морква, а ў папярэдніх уладальнікаў хаты гэтае памяшканне выконвала функцыі гаража. Калі жонка вярнулася, яна спакойна спыталася: «Саш, а што за машына там у нас стаіць?»

Санёк збялеў, потым пачырванеў. Ён ускочыў, ледзь не развярнуўшы стол, і рынуўся ў той гараж. «Масквіч» быццам здзекаваўся з яго і, як ні ў чым не бывала, спакойна пабліскваў бакамі. Магчыма, пасля рэйду ў паралельную прастору Наркаманавіч спытаўся ў Санька, ці можна пакінуць машыну менавіта ў яго. А гаспадар, відаць па ўсім, даў згоду. Але назаўтра калегі пра гэта ўзгадаць не здолелі.

Наступнай ноччу машыну адагналі кіламетраў за пятнаццаць і кінулі каля вёскі, у якой, дарэчы, месцілася адна з «падшэфных» крамаў. Потым аўтамабіль «выпадкова знайшла» загадчыца мясцовай крамы і патэлефанавала ў дзяжурную часць. «Хуліганаў, якія скралі службовы транспартны сродак, каб пакатацца», выкрыць не атрымалася. Справу закрылі. У хуткім часе Санькова жонка падала на развод. Потым Санька папярэдзіў добры знаёмы з вышэйшага кіраўніцтва, што за яго збіраюцца «сур'ёзна ўзяцца». Санёк напісаў рапарт і хутка знік з мястэчка. Куды? Ніхто не ведаў...

Я сядзеў позна ўвечары перад тэлевізарам і спрабаваў пры дапамозе Саньковага відэамагнітафона нейкім чынам глядзець канцэрт Майлза Дэвіса. Санёк хроп так, што па экране беглі палосы. У нейкі момант падалося, што нават Майлз раздражнёна глянуў у бок Санька, але тут жа ўзяў сябе ў рукі і на працягу ўсяго канцэрта больш не падаваў ніякіх прыкметаў раздражнення. Не так даўно Санёк закончыў апошні «сеанс сувязі» з адным з былых калегаў-міліцыянтаў. Заўтра з раніцы мне трэба было на некалькі дзён

з'ехаць. У Санька нарэшце скончыліся грошы, і тлела надзея, што пакуль я вярнуся, ён выйдзе з запою.

Калі пасля сваёй нядоўгай вандроўкі я вярнуўся ў Мінск і прыехаў на кватэру, то, мякка кажучы, не пазнаў яе. Уваходныя дзверы былі напаўадчыненыя. Валяліся паваленыя крэслы, стол стаяў бокам пасярод пакоя, посуд на падлозе, лыжкі пакамечаныя. Мае кампакт-дыскі раскіданыя па ўсёй хаце, відэакасеты вывернутыя з кардоннай скрыні. Здавалася, што іх было зараз значна меней, чым павінна было быць.

Санёк сядзеў пасярод пакоя на падлозе, абхапіўшы галаву рукамі. Я спытаўся, што здарылася. Ён замахаў рукамі, вырачыў вочы і зашыпеў:

— Ціха! Ціха! Не пытайся нічога! Гэта ён! Не пытайся! Ціха!..

Я нягучна спытаў:

— Хто ён?

Санёк пачаў мычэць нешта незразумелае і паказваць нейкія кругі вакол галавы.

— Мент, ці што? — агучыў я першае, што прыйшло ў галаву, дакладней, тое, з чым праасацыяваліся таемныя рухі Санька.

— Страшней! Яшчэ горш! Не пытайся, не трэба! — Санёк зноў абхапіў галаву рукамі. Я памаўчаў і ўсё ж спытаўся:

— Што значыць горш? Нейкі бандыт, ці што?

Санёк зноў замахаў рукамі, ад вялікай колькасці выпітага спіртнога губляючы каардынацыю:

— Горш! Не пытайся... Яшчэ страшней!..

У гэты момант зарыпелі ўваходныя дзверы, і ў пакой увайшлі двое высокіх хлопцаў у спартовых касцюмах. Яны працягнулі Саньку відэакасету. Парыжскі канцэрт Майлза Дэвіса, рарытэт, прывезены мной некалі з Польшчы, дзе сярод іншых кампазіцый была кампазіцыя «Human Nature» Сціва Паркаро.

— Слухай, памяняй гэту на іншую! Нейкая лухта тут запісаная!



Я спытаўся ў хлопцаў, колькі грошай яны заплацілі Саньку за відэакасеты. Яны назвалі кошт, які быў разы ў два меншы за «базарны».

Сабраць мае рэчы было справай нескладанай. Я не спяшаючыся ўскінуў на плячо вялікі заплечнік. Агледзеўся. Здаецца, нічога не забыўся. У пакоі нібы адбывалася нямая сцэна. Санёк па-ранейшаму сядзеў на падлозе і звар'яцела глядзеў некуды ў столь, абхапіўшы галаву рукамі. Хлопцы чамусьці моўчкі стаялі і нечага чакалі. Я пераступіў цераз паваленае крэсла і не развітаўшыся выйшаў з кватэры.

Набліжалася ноч, куды ісці, я яшчэ не ведаў, але адчувалася нейкая палёгка. Можа быць, з-за таго, што я не сутыкнуўся з нечым таемным, больш страшным за мянтоў і бандытаў? І што гэта ўвогуле магло быць? Я падумаў, што на самай справе да Санька мог завітаць прывід у выглядзе не так даўно памерлага Майлза Дэвіса. Можа, гэта ён так напалохаў былога супрацоўніка сур'ёзнай установы, калі нечакана з'явіўся ў кватэры на колішнім праспекце Машэрава ды найграў Саньку на трубе «Human Nature»?

# ТРУБАЧ ПЕРАД БРАМАЙ ЗАРЫ

Lime and limpid green the second scene
The fights between the blue you once knew
Floating down the sound resounds
Around theicy waters underground

Jupiter and Saturn, Oberon, Miranda and
Titanian, Neptune, Titan, stars can frighten*.

Спорт шмат у чым нагадвае шоу-бізнес. Больш за тое, гэтыя дзве сферы чалавечай дзейнасці часам перапляталоцца ў самых неверагодных спалучэннях. Так здарылася, што ветэраны легендарнай футбольнай каманды «Дынама-Мінск», якія сталі чэмпіёнамі СССР у 1982 годзе, сабраліся зноў праз дваццаць год і вырашылі арганізаваць адмысловы тур па Беларусі. У кожным горадзе, дзе было дамоўлена аб правядзенні матчаў, сапернікамі «Дынама-82» павінны былі стаць зборныя з мясцовых футбольных ветэранаў.

Такая прапанова не абышла бокам і каманду нашага невялікага мястэчка. У вызначаны дзень мясцовыя аматары футболу віталі гасцей з Менску. Сустрэча пачалася без спазненняў. Разам са спартсменамі на мястэчковым стадыёне з'явілася здымачная група рэдакцыі спартовых праграм рэспубліканскага тэлебачання.

Матч праходзіў досыць роўна і нават меў адмысловае музычнае суправаджэнне. У самым канцы пасадачных месцаў

* У адценнях зяленіва другі акт
Бітваў у блакітным небе, якое ты бачыў калісьці.
Водгукі плывуць па цячэнні і напаўняюць гучаннем
Ільдзістыя падземныя воды.

Юпіцер і Сатурн, Аберон, Міранда і Тытаніды,
Нептун, Тытан, зоркі небяскрыўдныя.

*(Сід Барэт, урывак тэксту да кампазіцыі Astronomy Domine (Боская Астраномія) з альбома «Пінк Флойд» The Piper Of The Gates Of Down (Дудар ля Брамы Світанку))*



стадыёна, на краі трыбуны, стаяў трубач і два таймы запар, ва ўсю моц сваіх лёгкіх, выдзьмуваў дзіўны рэпертуар з добра вядомых народу мелодый: ад папулярнага фальклору кшталту «Цячэ вада ў ярок» да інструментальнай версіі афіцыёзнай кампазіцыі «День Победы». У гэтым дыяпазоне апынуліся «Миллион алых роз» побач з застольным шлягерам «Ой, мароз, мароз», урыўкі тэм Ніна Рота ды Мішэля Леграна з вядомых кінафільмаў гучалі па чарзе з «музыкай, якая грала на цеплаходзе», і так далей. Мясцовыя фаны перыядычна налівалі піва і рабілі «замовы» трубачу.

Гэта быў час творчага трыумфу сталага музыкі, што гадоў дваццаць таму граў «на похоронах и танцах». Можна так сказаць, своеасаблівае прызнанне яго таленту з боку ўдзячнай, хай сабе і правінцыйнай, у дадатак футбольнай, але ж публікі.

Трэба сказаць некалькі слоў пра лёс гэтага чалавека. Калісьці ён быў вялікім энтузіястам духавой музыкі, нават працаваў кіраўніком дзіцячага аркестра. Перажыўшы розныя жыццёвыя выпрабаванні, у тым ліку турму і клініку для душэўнахворых, паводзіў сябе неадэкватна, але неагрэсіўна. І, вядома ж, заўсёды лічыў задачай жыцця несці мастацтва ў масы. Часта граў на мясцовым аўтавакзале, сустракаючы і праводзячы аўтобусы. Ці ў гарадскім скверыку далучаў да «высокага» мясцовых алкаголікаў. Меў сваю ідэю-фікс у выглядзе няіснай уласнай фірмы «Арыёза», супрацоўнічаць з якой запрашаў усіх, з кім атрымлівалася пагаварыць. Назва фірмы ўтваралася ад маркі інструмента, што застаўся музыканту з былых часоў, — трубы «Арыёза» вытворчасці чэхаславацкай фабрыкі музычных інструментаў «Амаці».

Які быў лік таго матчу, зараз узгадаюць хіба толькі футбольныя заўзятары, але ж дакладна можна сказаць, што ў такіх сустрэчах заўсёды «перамагае дружба». Тэлевізійны рэпартаж, які вёў вядомы каментатар Уладзімір Н., быў зроблены менавіта ў гэтым ключы. Маўляў, цікавая была сустрэча, абедзве каманды прадэманстравалі спартыўнае майстэрства высокага ўзроўню. А яшчэ каментатар застаўся вельмі ўражаным музычным афармленнем матчу. Аб чым

меў неасцярожнасць у спартыўнай рубрыцы падзяліцца з гледачамі, ды яшчэ пажартаваць, дэманструючы сваё някепскае пачуццё гумару.

Атрымалася так, што трубачу ў рэпартажы ўвагі ўдзялілі ледзь не больш, чым самой футбольнай сустрэчы: «Ёсць таленты на беларускай зямлі! — казаў спадар Н. — Хоць бяры ды адразу запрашай у прэзідэнцкі аркестр...»

Гэтыя словы Уладзімір сказаў цалкам шчыра, і з той іроніяй, якая заўсёды вылучала яго сярод іншых каментатараў. Ён не збіраўся нікога крыўдзіць — ні музыкантаў, ні дырыжораў якіх заўгодна аркестраў. Але інцыдэнт усё ж такі адбыўся. Справа ў тым, што рэпартаж пра сяброўскую сустрэчу з музычным суправаджэннем выпадкова ўбачыў сам трубач...

Памылкова трубач думаў, што прэзідэнт ажыццяўляе сваю дзейнасць па кіраўніцтву краінай з Дома Саветаў, што знаходзіўся ў той час у Менску на плошчы Незалежнасці. Нічога дзіўнага тут няма — чалавек з правінцыі мог і не ведаць, што існуе яшчэ і асобная рэзідэнцыя. Але як міма аховы ён патрапіў у непасрэдную блізкасць да важных кабінетаў Дома Саветаў у пошуках дзвярэй з простым надпісам «Прэзідэнт», ды яшчэ з вялізным букетам кветак — гэта ўжо іншае пытанне. Адказ на яго мог бы даць, калі б здолеў, толькі сам наведвальнік высокай установы ды яе ахоўнікі, якія на гэтага наведвальніка чамусьці не звярнулі ўвагі. У рэшце рэшт, калі ён пачаў звяртацца да ўсіх, хто трапляў яму насустрач, і тлумачыць, што мае да прэзідэнта тэрміновую справу, што тычыцца працы ў прэзідэнцкім аркестры, яго неўзабаве вывелі на вуліцу.

Атрымаўшы пэўную карэкціроўку ў дзеяннях, трубач у хуткім часе апынуўся ў фае Белдзяржфілармоніі, вырашыўшы самастойна ўзяць на сябе ўсе цяжкасці па стварэнні дзяржаўнага аркестра. І такім чынам сабраў вакол сябе вялікую колькасць найлепшых музыкантаў краіны, што пакідалі свае рэпетыцыі і спяшаліся да галоўнага ўваходу з усіх паверхаў будынка філармоніі. «Сарафаннае радыё» перадало па ўсіх кабінетах, што кіраўнік аўтарытэтнай фірмы «Арыёза» набірае кандыдатаў у аркестр, які павінен будзе прадстаўляць краіну на замежных гастролях (Францыя, Італія, Германія, Швецыя і іншыя буйныя еўрапейскія краіны знаходзіліся ў яго раскладзе) на ўмовах дваццаць — трыццаць даляраў за гадзіну працоўнага дня.

Праз хвілінаў пятнаццаць музыканты, з сумнымі ўсмешкамі, паціху пачалі разыходзіцца па сваіх працоўных месцах, пакінуўшы ў рэшце рэшт кіраўніка будучага аркестра сам-насам з вахцёрам. Вахцёр не дужа разумеў праблемы сучаснага шоу-бізнесу і вымусіў прадстаўніка канцэртнага агенцтва «Арыёза» зачыніць дзверы звонку.

У нашага героя рэзка ўзнікла неабходнасць наведаць магілёўскі абласны Дом Саветаў. Яно і зразумела: чаго скакаць «цераз галаву», калі можна ўладкаваць справы ў абласным цэнтры, а потым ужо прыкладаць намаганні ў спробах патрапіць на вышэйшы ўзровень. Што можа быць прасцей? Тут усяго нічога — дзвесце кіламетраў да Магілёва, а знайсці таксіста для камандзіроўкі па выкананні асобнага даручэння на дзяржаўным узроўні, здаецца, ніякай праблемы няма.

Таксіст зразумеў усю адказнасць ускладзенай на яго місіі толькі пад Магілёвам. Разумеючы і тое, што аплаты за чатырохсоткіламетровы рэйс не атрымае, доўга біў трубача ў кювеце, потым забраў трубу «Амаці» з мэтай, калі не будзе грошай, дык хоць кампенсаваць затраты продажам трубы. Неўзабаве высветлілася, што можна заехаць у бліжэйшае мястэчка да маці трубача. Маці выслухала таксіста без вялікага энтузіязму і замест грошай дала менскі адрас і тэлефон сваёй пляменніцы, адпаведна стрыечнай сястры трубача, дэкана факультэта адной са сталічных ВНУ.

Каля гадзіны ночы таксіст за каўнер прывалок трубача па дадзеным адрасе і з парога сказаў: «Вы мне толькі за паліва грошы вярніце, больш мне нічога не трэба!» Стрыечная сястра аказалася добрай жанчынай і, нягледзячы на пэўныя фінансавыя цяжкасці, «выкупіла» брата ў сквапнага таксіста, які так і не здолеў ахапіць сваім розумам глабальную задуму справаў дзяржаўнай важнасці.

Спадара трубача са сталіцы ў хуткім часе зноў даставілі ў родны абласны цэнтр. На гэты раз ужо ў пэўную медыцынскую ўстанову, дзе ён упарта працягваў падрыхтоўку да працы за мяжой з уласным аркестрам, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды з боку недасведчанага ў пытаннях шоу-бізнесу медперсаналу. Да таго ж актыўна займаўся арганізацыяй верагодных гастроляў замежных зорак у сябе на радзіме, а таксама стварыў курс лекцыяў, кшталту музычнага лікбезу, і чытаў іх у вузкіх колах нешматлікіх маўклівых слухачоў.

А калі даводзілася глядзець тэлевізар, заўсёды пільна сачыў за спартовымі навінамі на беларускім канале, каб не прапусціць інфармацыю ад Уладзіміра Н. Які, у рэшце рэшт, мусіў бы аказаць павагу сваім тэлегледачам і нарэшце абвясціць дату прыезду хоць якой-небудзь каманды якіх заўгодна ветэранаў у медыцынскую ўстанову, дзе гэтай сустрэчы даўно і з нецярпеннем чакаюць.



## СВЯТА ПАД МУЗЫКУ RAGE

Першае, з чым атаясамліваецца юбілей горада Санкт-Пецярбурга, — гэта выдатны, якасна запісаны канцэрт расейскай групы «Кіпелаў», які адбыўся ў горадзе на Няве ў гонар яго трохсотгоддзя. Я добра памятаю той момант, калі ўважліва перачытваў анатацыю, — вельмі спадзяваўся, што разам з музыкамі групы будзе пералічаны сусветна вядомы гітарыст, выхадзец з Беларусі Віктар Смольскі. Ён па магчымасці браў удзел у некаторых турнэ Кіпелава, калі не быў заняты тэрміновай працай у сваёй студыі ў Германіі ці не з’язджаў на гастролі па замежжы з групай «Rage» альбо з сольнымі праграмамі. Але, на жаль, у тым піцерскім канцэрце Смольскі не ўдзельнічаў.

Усё гэта толькі ўскосна тычыцца нашай гісторыі, калі зыходзіць з меркавання, што ўсё ў гэтым свеце існуе ў цеснай узаемасувязі. Сам я на святкаванні юбілею не прысутнічаў, як не трапілі туды і яшчэ шмат людзей, якія першапачаткова ўпэўнена накіроўваліся ў паўночную сталіцу суседняй дзяржавы. Пра некаторых з іх, дарэчы, і пойдзе гаворка.

Пачатак гісторыі можа падацца крыху заблытаным. Аднак, калі ведаць спецыфіку местачковага жыцця, іншае цяжка сабе і ўявіць. Тут усе падзеі пачынаюцца знянацку, а працяг маюць самы нечаканы. Таму не трэба здзіўляцца, што мой добры сябра, музыкант, з якім калісьці гралі ў мясцовым рок-гурце, вырашыў адсвяткаваць свой чарговы дзень нараджэння менавіта ў мяне дома.

Па-першае, у мяне ёсць лазня — для мужчынскай кампаніі гэта важкі аргумент. Па-другое, можна ўтульна размясціцца ў вялікім садзе, падалей ад чужых вачэй, у цяню густых яблыневых шатаў. А калі сапсуецца надвор’е, ніколі не позна перабрацца ў тую ж лазню. Увогуле я быў рады, што будзе нагода пасядзець са старымі знаёмымі. Візіт гэтай кампаніі ні да чаго мяне не абавязваў. У любы момант я мог пакінуць іх і працягваць займацца сваімі справамі.

Так і выйшла — прыгубіўшы з сябрамі за здароўе імянінніка, я патлумачыў, што мне тэрмінова трэба вырашыць нейкія пытанні. Удзельнікі свята асабліва не расстроіліся і працягвалі без мяне здзіўляць адзін аднаго красамоўствам. Вярнуўшыся праз нейкі час, я ўпэўніўся, што ў маім садзе сабраліся сапраўдныя мужчыны. Таму што, калі красамоўствам здзівіць каго-небудзь здавалася ўжо цяжка, яны пачалі высвятляць суадносіны ўласных моцы, спрыту ды хуткасці — барукацца ў траве тут жа, каля стала.

Наконт моцы ды нейкага дзіўнага спрыту яшчэ можна было размаўляць. А вось наконт хуткасці ўзнікалі пэўныя пытанні — праціўнікі неяк павольна тузалі адзін аднаго за адзенне, і турнір іхні больш нагадваў запаволеныя здымкі. Але і самім барацьбітам, і ўмоўным гледачам здавалася, што дзеянні разгортваюцца вельмі хутка. Настолькі, што неўзабаве на траве апынулася і другая пара сапернікаў.

Я ў чарговы раз пакінуў гэты спартовы калектыў: здаецца, мне трэба было тэрмінова патэлефанаваць. Калі я зноў убачыў удзельнікаў свята, то іх саміх яшчэ можна было пазнаць, але іхняе адзенне ўяўляла сабой відовішча, вартае жалю. У аднаго была разбітая губа, у другога падбітае вока, у трэцяга разарваная кашуля, чацвёрты ніяк не мог знайсці ні свой гадзіннік, ні мабільны тэлефон. Відаць, высвятленне мужчынскіх адносінаў у нейкі момант набыло сур'ёзную актыўнасць. Сябры ўжо не звярталі ўвагі нават на мяне, а дзейнічалі паводле плана, зразумелага толькі ім. Пра лазню ўжо не магло быць і размовы. У хуткім часе яны ўвогуле зніклі з месца святкавання, забыўшыся развітацца, і пакінулі за сабой перакошаны стол, паваленыя крэслы ды раскіданы посуд.

Я заканчваў наводзіць парадак і мармытаў сабе пад нос радкі з Высоцкага: «...И разойтись я сразу согласился. И разошёлся... То есть расходился...», як раптам за лазняй гучна затрашчалі кусты. Я адразу падумаў: можа, нехта з гасцей выпадкова там застаўся? Ну, можа быць, чалавеку трэба было адпачыць? Ці пабыць аднаму?

Але хутка высветлілася, што гэта яшчэ адзін сябра імянінніка, аграмадны вадзіцель-дальнабойшчык Ваня. Ён вельмі спяшаўся з рэйсу, каб не спазніцца на дзень нараджэння. З гэтай нагоды запознены госць пераблытаў асаблівасці мясцовага ландшафту і вырашыў скараціць шлях, пралажыўшы ў кустах сапраўдную прасеку: «Трапіў у чужы двор — ды вяртацца, думаю, дрэнная прыкмета. Таму, прабач, я да цябе — праз агароджу. А дзе народ?..» За кустамі разрываўся сабака ды квакталі перапалоханыя суседскія куры.

Кампанія на чале з імяніннікам, пэўна, забылася пра Ваню. Можа, тое было і добра. Я заварыў гарбату, і мы ўдваіх селі за стол. У руках у Вані апынуўся кампакт-дыск: «Вось, купіў “Rage”, калі вяртаўся з апошняга рэйсу. Калі маеш стасункі з сябрамі-музыкантамі, нахапаешся ад іх бог ведае чаго. Вельмі мне падабаецца гэтая каманда. Тым больш — зямляк-гітарыст. Дарэчы, што тычыцца Віці Смольскага, дык я назбіраў амаль усё — пачынаючы ад “Інспектара”, яго групы, з якой ён трапіў калісьці ў Германію, потым яго сольнік, выпушчаны ўжо ў Еўропе, потым “Mind Odyssey”, альбом нямецкай групы, дзе ён быў гітарыстам, а потым ужо “Rage”!..»

Я не чакаў ад Вані такой дасведчанасці ў гісторыі еўрапейскай рок-музыкі. Мы сустракаліся хоць і даволі часта, але ніколі не мелі магчымасці доўга размаўляць. Прыемна было даведацца, што ён такі меламан.

Зараз, дзякуй богу, часу хапала, і за няспешнай размовай Ваня расказаў, што збіраецца ў Санкт-Пецярбург на святкаванне трохсотгоддзя. У яго там жыве родны брат, і прычына наведаць яго намячаецца проста выдатная. Можна сумясціць, як кажуць, карыснае з прыемным. Так, за цікавай размовай, я бліжэй пазнаёміўся са сваім земляком, у якога, да ўсяго, аказаўся нядрэнны музычны густ.

Што тычыцца паездкі ў Санкт-Пецярбург, то пазней высветлілася, што падзеі разгортваліся не зусім так, як планаваў Ваня. Дакладней кажучы, з вандроўкай усё адбылося зусім не так.

Калі да вызначанай урачыстай даты заставалася прыкладна з тыдзень, на працы Ваня напісаў заяву на адпачынак за

свой кошт, дзе ўдакладніў тэрмін, які супадаў са святамі ў Санкт-Пецярбургу. Заяву гэтую адразу ж парваў начальнік аўтапарка. Не тое каб ён быў вялікім русафобам ці прынцыповым праціўнікам святкавання 300-годдзя знакамітага горада. Хутчэй за ўсё, пра свята ён увогуле не ведаў. Проста ён страшным голасам спытаўся ў Вані: «Ты добра падумаў перад тым, як гэта мне прынесці? Ты ведаеш, што працаваць зараз няма каму? Ты ведаеш пра графік, у якім ты стаіш на дальнія рэйсы на тры месяцы наперад?!»

Ваня пра ўсё гэта ведаў. Але ж і трохсотгоддзе бывае толькі раз у жыцці. Размова не атрымлівалася, і не было асаблівай надзеі, што яна атрымаецца ўвогуле. Таму Ваня вырашыў усё зрабіць па-свойму.

Напярэдадні ад'езду Ваня звярнуўся да знаёмай медсястры з просьбай дапамагчы зрабіць нешта кшталту даведкі ці «бальнічнага» на час яго адсутнасці на працоўным месцы. Медсястра пачала тлумачыць, што зрабіць гэта вельмі складана — цяпер вельмі жорсткая палітыка наконт вызваленняў ад працы па хваробе. Ваня паставіў пытанне прынцыпова, маючы на ўвазе іхнія былыя асабістыя стасункі, і сястра здалася. Яна накіравалася да загадчыка аддзялення рэабілітацыі і папрасіла абгрунтаваць бальнічны заключэннем. Доктар, як мясцовы інтэлігент, да таго ж хоць і правінцыйны, але ж джэнтльмен, пайшоў насустрач супрацоўніцы, склаўшы сур'ёзны дыягназ аб'ёмам у дзве старонкі рукапіснага тэксту: лячэнне проста неабходнае! І пачынацца яно павінна з раніцы таго дня, калі Ваня сабраўся ад'язджаць начным цягніком на Піцер, гэта значыць неадкладна назаўтра.

Наступным ранкам начальнік Ваневага аўтапарка да пачатку працоўнага дня тэрмінова сабраў усіх работнікаў і пачаў ставіць перад кожным няпростыя вытворчыя пытанні. У нейкі момант ён запытаўся ў прысутных: «А дзе Ваня?» Яму растлумачылі, што Ваня з цяжкай формай атручэння страўніка знаходзіцца на бальнічным.

«Што-о-о?! — зароў начальнік. — Я ім усім зараз пакажу бальнічны! І атручэнне таксама пакажу!» Ён тут жа набраў тэлефон галоўнага ўрача раённай бальніцы і ў жорсткіх выразах растлумачыў, што непрымальна, калі яго падначаленыя робяць фіктыўныя бальнічныя, а яшчэ прапанаваў высветліць, хто гэтай справай займаўся ў адносінах да супрацоўніка аўтапарка.

Галоўурач зразумеў, што гісторыя намалёўваецца непрыгожая, і неўзабаве вылічыў віноўніка інцыдэнту. Загадчык аддзялення рэабілітацыі вылецеў з кабінета кіраўніка чырвоны і мокры і, як раз'юшаны бык, кінуўся шукаць медсястру. Відаць, ён вельмі здзівіў супрацоўніцу інтэлігентнасцю і джэнтльменскім падыходам, бо маладая жанчына вылецела ўжо з яго кабінета ўся ў слязах. Перад ёй стаяла задача адшукаць «хворага» і тэрмінова атрымаць ад яго «дрэнныя» аналізы.

Ваня, які, зразумела, нічога не ведаў пра падзеі ў бальніцы, займаўся сваімі справамі, і, як на ліха, не ў двары. Медсястры, якая патэлефанавала на яго хатні тэлефон, нічога не засталося, як перадаць жонцы, што Ваню неабходна тэрмінова з'явіцца ў бальніцу. Праз пэўны час Ваня (які, трэба сказаць, ужо крыху выпіў з сябрамі на развітанне перад дальняй дарогай) са скандалам сышоў з дому ў кірунку да медыцынскай установы.

Медсястра дрыжачымі рукамі дала Ваню скляначку таблетак і адправіла да прыбіральні: «Дзве-тры таблеткі ўнутр, і праз дваццаць хвілінаў павінен быць вадкі стул...» Ваня праседзеў на крэсле каля дзвярэй прыбіральні хвілінаў сорак. Нічога не адбывалася, як ён ні прыслухоўваўся да сябе. Ён праглынуў яшчэ некалькі таблетак і пачакаў з паўгадзіны. Медсястра ў каторы раз прыбегла да яго, але ён толькі паціснуў плячыма. «Ты такі здаровы, што цябе нічога не бярэ. Глытай усе астатнія...» — рызыкнула сястра. І Ваня пракуліў усю скляначку.

Праз паўгадзіны Ваня адчуў, што трэба заходзіць у патрэбныя дзверы. На здзіўленне, стул быў самы звычайны. Магутнае Ванева здароўе не паддалося таблеткам. Ваня ў роспачы абвёў позіркам вакол. На вочы трапіў імбрычак з

прыклеенай палоскай пластыра, на якой было напісана нешта незразумелае, кшталту «Хлрн. р-р.» ды яшчэ нешта. Каб зрабіць стул больш падобны на вадкі, Ваня лінуў з імбрыка вадзічкі ды размяшаў галінкай ад веніка.

Калі па просьбе той жа медсястры лабаранты пачалі тэрмінова рабіць аналіз Ваневай скляначкі, у іх валасы дуба сталі, і яны абвясцілі нешта кшталту ўсеагульнай трывогі. Яго тэрмінова шпіталізавалі, таму што аналізы паказвалі нешта жудаснае. Што менавіта, ніхто нічога не казаў. Ваню ўладкавалі ў ізалятар, пад страхам смяротнага пакарання забараніўшы што-небудзь есці. Аналізы на службовай машыне тэрмінова завезлі ў абласны цэнтр. Там, калі зрабілі падрабязнае і больш кваліфікаванае даследаванне, адразу ж спыталіся: «Пацыент яшчэ жывы?»

Ваня быў жывы і здаровы, і сітуацыя з адсутнасцю ежы пачынала яго памалу хваляваць. Цалкам здаровы страўнік пачынаў пратэставаць, нібыта адчуваючы, што супраць яго абласныя спецыялісты збіраюцца прымаць нейкія «тэрміновыя меры». Праз некалькі гадзінаў незразумелага становішча Ваня праз акно ізалятара пачаў актыўна тлумачыць дзяжурнай медсястры, што ён добра сябе адчувае, што ў яго ёсць сур’ёзныя і тэрміновыя справы, і ён павінен быць зараз зусім у іншым месцы. Медсястра разводзіла рукамі, як бы паказваючы, што не ўпаўнаважана што-небудзь прадпрымаць з уласнай ініцыятывы. Так цягнулася да вечара, і Ваня з вялікім скандалам ледзь дамогся, каб з паста патэлефанавалі яму дахаты і паведамілі жонцы, дзе ён знаходзіцца.

Праз пэўны час пад акном Ваневай палаты, што знаходзілася на першым паверсе, з’явіўся заплаканы і пакрыўджаны твар: «Алкаголік праклятый! Дапіўся? Колькі можна казаць пра гэтую гарэлку?..» Для Вані ж на той момант гэты твар падаўся самым прыгожым у свеце, а слых яго чуў толькі пяшчоту інтанацыяў і ўпарта не хацеў расшыфроўваць адмоўны сэнс сказаных слоў. Ён хацеў зусім іншага і з натхненнем шаптаў: «Родненькая мая! Нясі мне паесці, і як мага больш!..» Дзяўчына толькі плакала ў адказ, але сумку з ежай, ужо калі зусім сцямнела, прынесла.



Ваня ледзь не разламаў краты на вокнах ды папсаваў фортку, зацягваючы ў палату пакункі з ежай. Яшчэ б! Ад гарачай бульбачкі з падлівай ды ад курыных крылцаў ішоў такі водар, што можна было падавіцца слінай. А салат з капусты з маянэзам! А марынаваныя грыбочкі! А шкляначка з яго любімым варэннем з чорнай парэчкі!.. Літаральна праз дзесяць хвілінаў Ваня здаў праз фортку пусты посуд назад жонцы і з набітым ротам прамармытаў нешта кшталту: «Я табе ўсё растлумачу потым, не трэба плакаць! Гэта нейкае непаразуменне...»

Так цягнулася некалькі дзён. У Санкт-Пецярбургу ўжо поўным ходам ішлі канцэрты, грымелі салюты, уражваў грандыёзнасцю маркі парад. А Ваня ляжаў пад кропельніцай замест снядання, рабіў выгляд, што глытае пілюлі, замест абеду, вячэраў мінеральнай вадзічкай, да ўсяго атрымліваў неверагодную колькасць уколаў, праз кожныя тры-чатыры гадзіны здаваў аналізы ўсяго, чаго толькі магчыма, і кожны вечар ледзь дажываў да змяркання, калі ў акне з’яўляўся доўгачаканы, такі родны і любімы твар. Яшчэ адной радасцю было тое, што Ванева каханая прынесла яму плэер, а ўнутры апынуўся адзін з яго любімых альбомаў гурта «Rage».

Ваневы пакуты скончыліся прыкладна адначасова са святамі ў паўночнай сталіцы суседняй дзяржавы. Калі Ваня выйшаў на працу, начальнік аўтапарка папрасіў прабачэння: «...Я ж не ведаў, што ў цябе так усё сур’ёзна... Можа, я цябе здыму з гэтых рэйсаў?»

Але Ваня не пагадзіўся губляць працу і аднойчы выпадкова падабраў мяне па дарозе і падвёз да патрэбнага мне пункту прызначэння, калі ехаў у адзін са сваіх дальніх рэйсаў. Я радасна павітаўся, ехаць разам нам было хвілінаў сорак, і мы з задавальненнем пагаварылі на розныя тэмы. На панэлі каля музычнага цэнтра ляжала некалькі CD-кружэлак, а на самым бачным, ганаровым месцы — альбом групы «Кіпелаў», у якім браў удзел сусветна вядомы беларускі гітарыст Віктар Смольскі.

Я чамусьці адразу прыгадаў 300-годдзе вядомага расейскага горада, але дзяліцца думкамі з Ванем не стаў. Так, сядзеў і ўспамінаў, як нейкі час таму да мяне завіталі сябры, каб адсвяткаваць дзень нараджэння, і разважаў над тым, як дзіўна ўсё пераплятаецца ў гэтым свеце ў самых неверагодных узаемасувязях...



## РОК-КАРАНАЦЫЯ ПАД ЗНАКАМ 223L

Мы дамовіліся сустрэцца каля музычнай крамы, дзе я працаваў. У прызначаны час я ўбачыў доўгага, худога чалавека з ускудлачанымі валасамі. Здавалася, яго вопратка выглядала крыху пакамечанай. Рухаўся ён неяк нервова, гаварыў гучна, рэзкімі фразамі, нечакана пачынаў смяяцца, пераскокваючы ў сваёй размове з тэмы на тэму. Але я не надта здзіўляўся. Зразумела, што ў асяроддзі творчых людзей хапае экстравагантных асобаў. А перада мной быў не хто іншы, як Вітаўт Мартыненка, адзін з аўтараў легендарных у гісторыі айчыннай альтэрнатыўнай музыкі кніжак «Праз прызму рок-музыкі» і «222 альбомы беларускага року». Першая выйшла ў Амерыцы ў канцы 80-х. Кажуць, што польскія студэнты да сённяшняга часу пішуць дыпломныя працы па культуралогіі Усходняй Еўропы на падставе гэтага выдання, карыстаючыся як першакрыніцай. Другая кніга выйшла амаль праз дваццаць год і ўяўляе сабой сапраўдную энцыклапедыю беларускамоўных груп і выканаўцаў.

Я перадаў Вітаўту свой альбом на рэцэнзію. Ён сказаў, што чуў некаторыя песні, і ўражанні ў яго станоўчыя. А потым нечакана дадаў: «А файна атрымалася, калі вы выйшлі на сцэну “Рок-каранацыі” ў цішотках з надпісам “223”...»

Я адразу не зразумеў, пра што гаворка, у тым сэнсе, што мой суразмоўца звяртаў увагу на нейкія лічбы на вопратцы. Мы сапраўды ўдзельнічалі ў штогадовым мерапрыемстве пад такой назвай. Гэта было адмысловае падвядзенне вынікаў за мінулы год, у якім вылучаліся лепшыя творчыя асобы ў розных намінацыях. Дарэчы, Вітаўт быў там адзначаны як лепшы рок-журналіст за кнігу «222 альбомы беларускага року». Але я ўсё ж быў упэўнены, што нашая група ў такіх цішотках не выступала.

Праз пэўны час да мяне дайшло, якая выдатная ідэя хавалася за наступнай лічбай, што ідзе за 222. Я па-добраму пазайздросціў нейкім, як я сабе ўявіў, маладым музыкам,

якія, напяліўшы цішоткі з надпісам «223», прапанавалі такім чынам сваю творчасць на першае месца сярод будучых лепшых беларускіх рок-альбомаў у новым томе гісторыі айчыннай рок-музыкі. І з якімі Вітаўт нас, пэўна, пераблытаў. Але я не паспеў яго перапыніць і адмовіцца ад ганаровай місіі, што ўскладаў на нас тытулаваны журналіст, — размова насіла даволі неўпарадкаваны характар, і тэмы вельмі хутка змяніліся.

Мы абмеркавалі шмат цікавых пытанняў, і раптам мой суразмоўца з захапленнем зноў выдаў: «Але ж вы малайцы! Гэта ж трэба так прыдумаць! Прыемна, прыемна...» Я ўжо дакладна вырашыў расставіць усе кропкі над «і», набраў паветра ў лёгкія, але менавіта ў гэты момант у Вітаўта зазваніў тэлефон. Ён пачаў нешта вельмі эмацыйна пацвярджаць, потым адсунуў тэлефон ад вуха і прашаптаў: «Плясанаў звоніць!», пасля, прытрымліваючы слухаўку плячом, працягнуў мне руку на развітанне і накіраваўся ў бок метро. Я застаўся стаяць адзін — у разгубленасці падсумоўваць вынікі сустрэчы.

Мне ўсё ж было вельмі цікава, з кім мог пераблытаць нас спадар Вітаўт. Але павінен быў прайсці пэўны час, пакуль не высветліліся падрабязнасці.

Мінула шмат месяцаў пасля нашай сустрэчы, і аднойчы, шукаючы нейкі відэазапіс з уласных выступленняў, я натыкнуўся на некалькі дыскаў з надпісамі «Грыфаманія», «Рок-каранацыя», «Канцэрт у “Катакомбах”» ды нешта яшчэ. На ўсе гэтыя мерапрыемствы мы разам з маімі калегамі-музыкантамі ездзілі з маленькага мястэчка, дзе я жыў у той час. Калі я ўключыў першы дыск, здзіўленню майму не было межаў — наш басіст Сяргей з каменным выразам твару «калбасіў» з усёй моцы па струнах, а над яго пяціструнным інструментам, на ўзроўні грудзей горда значыліся лічбы 223. Я пераглядзеў астатнія дыскі — вынік быў той жа, на ўсіх канцэртах лічба 223 дамінавала.

Потым на вочы трапіў кадр, дзе Сяргей здымае гітару, і тут я натуральна не ўтрымаўся ад смеху. У мяне нават пацяклі слёзы ад дзіўнай метамарфозы, якую я толькі зараз заўважыў. На самай справе наш басіст вельмі часта апранаў тэніску, з тых, на якіх адпаведна модзе свайго часу актуальна было размяшчаць розныя індустрыяльныя надпісы. У яго на грудзях вялікімі трафарэтнымі літарамі, якімі звычайна пазначаюць кантэйнеры ў якім-небудзь порце, было напісана: 223L. Калі ён вешаў сабе на шыю бас, то тоўсты скураны рэмень цалкам закрываў лацінскую літару. На сцэне Сяргей стаяў крыху ззаду, і, зразумела, я не мог гэтага бачыць. А калі мы знаходзіліся побач недзе ў грымёрцы ці толькі выходзілі граць, трымаючы гітары ў руках, надпіс успрымаўся ўсяго толькі як модны дызайнерскі элемент.

Дзякуй табе, Сярожа, што недзе на рэчавым рынку, ці на сваёй працы, у эксперыментальным мэблевым цэху, ці яшчэ ў якім неверагодным месцы ты знайшоў гэту выдатную тэніску! Гэта ж менавіта яна зрабіла цудоўнае пераўтварэнне ў свядомасці знакамітага журналіста ды пасунула яго да ідэі другога тома сваёй грунтоўнай працы!

Чыё імя будзе адкрываць гэты том і, адпаведна, займаць ганаровае месца — яшчэ невядома. Але цалкам зразумела, што надпіс 223L, які зараз ужо мае правы быць культавым, мусіць увогуле стаць сімвалам нашага часу — часу новых імёнаў «Рок-каранацыі» ды эпохі сэканд-хэнду.

# ПРЫВІТАННЕ З ЛАС-ВЕГАСА

Валодзя шукаў мяне так, як не шукаў ніхто іншы.

— Што здарылася? — пытаўся я ў знаёмых, якім ён перадаваў патрабаванні кшталту: «Тэр-мі-нова трэба сустрэцца!.. Абавязкова павінны знайсціся!..». Ніхто не ведаў, што здарылася.

Можа, інжынеру-аўтатранспартніку адной з найбуйнейшых арганізацый раёна спатрэбілася музычнае суправаджэнне? Шмат гадоў таму мы апантана збіралі калекцыі вінілавых кружэлак, і трэба адзначыць, што Валодзя меў нядрэнны густ.

Але — не да музыкі зараз вядучаму спецыялісту па магутных цягачах, пагрузчыках ды трактарах.

Паездка на канцэрт? Былі калісьці такія справы — ездзілі ў Маскву на «Блэк Сабат» ды «Назарэт», на «Asia» ды «Пінк Флойд», каб паглядзець і паслухаць легендарныя гурты ў арыгінальных складах ды класічным гучанні. Але ці здольны ён вырвацца зараз з жалезных лап сваёй тэхнікі? Ды і які такі канцэрт на сённяшні дзень яго можа зацікавіць так моцна?

Нарэшце мы сустрэліся ўвечары. Валодзька крыху агаломшыў: «Ты можаш для мяне тэрмінова знайсці фільм “Страх і нянавісць у Лас-Вегасе”?» Я паспяшаўся запэўніць (мой сябра выглядаў вельмі ўсхваляваным), што няма ніякіх праблем — фільм абавязкова знойдзем, хоць ён толькі нядаўна з’явіўся. А Валодзька распавёў, як ён аб’ездзіў увесь абласны цэнтр, абшукаўся па музычных супермаркетах і альтэрнатыўных падвальчыках, па студыях пракату і шапіках прыватных прадпрымальнікаў. Відэакасет з фільмам ці то ўжо не было, ці то яшчэ не паступалі ў продаж...

DVD-прадукцыя тады толькі-толькі з’явілася на музычным рынку, і Валодзя з сумнай іроніяй распавёў: «Я нават DVD-прайгравальнік набыў. У адной-адзінай краме мне паведамілі, што фільм ёсць у наяўнасці, але не на відэакасеце, а на дыску. Я знайшоў найбліжэйшую краму па продажы музычнай апаратуры і купіў прайгравальнік. Пакуль вярнуўся назад — дыск з фільмам “Страх і нянавісць у Лас-Вегасе” ўжо прадалі ...»

Я спытаўся, чаму так тэрмінова спатрэбіўся менавіта гэты фільм. Мой таварыш вытрымаў паўзу і, самотна гледзячы мне ў вочы, сказаў: «Зараз пастаўлю машыну на паркоўку, вазьму бутэльку чырвонага віна, сядзем, пагаворым...»

Калі высветлілася, што ад мяне патрабуецца знайсці фільм для Валодзевай дзяўчыны — усё стала на свае месцы. З такой энергіяй што-небудзь шукаць можна толькі дзеля каханага чалавека. Экстранная неабходнасць у набыцці фільма ўзнікла па прыездзе з Аўстрыі, куды яны ўдваіх ездзілі да роднай сястры Валодзевай нявесты.

Разам са сваім шаснаццацігадовым сынам сястра жыла ў цэнтры Вены. Колькі дзён Валодзя знаходзіўся ў іх у гасцях, столькі — бывала, што і з раніцы, і ўвечары, — эмігранцкая сям’я пераглядала той самы фільм, у назве якога перапляліся і страх, і нянавісць, і Лас-Вегас.

Проста назваць той працэс «пераглядам» было б недакладна. Сапраўдны культ, магічны рытуал, эйфарыя, транс — усе гэтыя словы нават блізка не адлюстроўваюць таго стану, у які ўпадалі наваяўленыя сын-венец і мама-венка беларускага паходжання. Яны забываліся пра ўсё на свеце, як толькі пачыналіся першыя кадры, і, як дзеці, глядзелі ў экран не адрываючыся. Яны каментавалі ўсе падзеі, наперад вымаўлялі фразы герояў, рагаталі і поўзалі па падлозе, скурчаныя напалам.

Валодзя рабіў выгляд, што ў які раз уражаны відэашэдэўрам. Ягоная сяброўка са штучнай усмешкай на вуснах трымалася з усёй моцы і, калі гаспадары не маглі адарвацца ад падлогі, трывожна паглядала на свайго мужчыну. Сястра з пляменнікам, у залежнасці ад іхнага настрою, спрабавалі перакладаць некаторыя моманты. Каментуючы той ці іншы фрагмент, дужа не абцяжарвалі сябе тлумачэннем нюансаў. Калі скептычна, калі неяк занадта загадкава яны тлумачылі, што, маўляў, «тут разумець трэба...» ці, напрыклад, «да прагляду няблага было б падрыхтавацца...» . Гэтыя фанаты

Лас-Вегаса і яго нянавісці, сапраўдныя гаспадары страху, выглядалі на той момант крыху неадэкватнымі.

Яшчэ яны, і мама і сын, былі фанатамі індастрыэлу. Валодзя атрымаў у падарунак дыск, своеасаблівую складанку, якая іх моцна «ўстаўляла». Дыск гэты ён зараз дастаў з кішэні і ўручыў мне: «Паслухай пры выпадку. Можа, гэта і цікава, але, напэўна, крыху не маё...»

Калі вандроўнікі вярнуліся назад у Беларусь, пачаліся тыя самыя, якія ўжо сталіся легендай, пошукі фільма. Валодзева «палова» настойвала на тым, каб фільм быў дастаўлены ёй неадкладна. Пад уражаннем ад эфекту, які ўзнікаў у яе сваякоў, яна хацела пераглядзець яго з перакладам і разабрацца ва ўсіх «фішках». Карацей, яна таксама хацела смяяцца і падаць на падлогу. Яна таксама хацела ведаць усе цытаты і прамаўляць іх наперад.

Даволі хутка я знайшоў фільм для свайго сябра. Пасля першага хатняга сеансу Валодзя выглядаў яшчэ змрачней, чым да прагляду, — яго каханая нават ні разу не ўсміхнулася за дзве гадзіны. Назаўтра яны паспрабавалі пераглядзець фільм яшчэ раз. Пасля гэтага Валодзька патэлефанаваў мне і спытаўся, наколькі можна давяраць гэтаму перакладу.

Пазней, пераглядзеўшы некалькі варыянтаў незабыўнай экранізацыі твора Хантэра С. Томпсана, я ўпэўніўся, што закадравы пераклад, які патрапіў да Валодзі на той першай відэакасеце, быў самым шыкоўным. Але што я мог адказаць на момант нашай размовы? Што фільм я запісаў у сваіх сяброў, калекцыя элітнага некамерцыйнага кіно ў якіх налічвала тысяч з пяць карцін? І што сумнявацца тут недарэчы? Я чамусьці ўзгадаў тады, што Валодзя з моцных напояў ужывае толькі чырвонае віно, і тое ў выключных выпадках.

Так сталася, што мы не бачыліся з Валодзем некалькі гадоў. Пры сустрэчы, між іншым, я спытаўся, ці не ездзіў ён у Аўстрыю яшчэ калі-небудзь. На што Валодзя мне ў роспачы адказаў: «Няма ўжо да каго туды ехаць... Сын сышоў на рэйкі метро перад цягніком. А маці праз некалькі месяцаў знайшлі на хвалях паміж караблямі мясцовага рачнога порта...»



«Хай жа будзе вечная памяць нашым землякам, якія шукалі па свеце і не знайшлі свой Лас-Вегас...» — з сумам думаў я па дарозе дадому. Пераступіўшы парог, я адразу накіраваўся да паліцы з кампакт-дыскамі і хутка знайшоў складанку, якую калісьці прывёз з Вены Валодзя. Жудасны, раздзіраючы вушы гук тут жа паляцеў з калонак. «Жах...» — падумаў я. Грымнулі поўныя неўтаймаванай агрэсіі барабаны і панеслі вар'яцкі рытм. «А вось і нянавісць... Шкада. Але, можа быць, у іншым свеце яны знойдуць замест страху спакой і замест нянавісці любоў...»

Замест металічнага скрыгату і магутных удараў па свядомасці гучаў цудоўны саўндтрэк: The Yardbirds, Jefferson airplane, John Mayall, Jeff Beck, Big brother and The Holding Company, Rolling Stones. Нібыта гэтая плынь цудоўнай музыкі, не звяртаючы ўвагі на адлегласці і час, плыла з Вены ў Магілёў, потым з Магілёва, магчыма праз Каліфорнію, зноў у Вену...

Відаць, спадар Хантэр Томпсан, знаходзячыся ў «гонзастане», нейкім таемным чынам запланаваў столькі адмысловых маршрутаў, што людзі яшчэ доўга будуць спрабаваць разабрацца з усёй гэтай спадчынай.

А мы з Валодзем зноў пілі чырвонае віно, мала размаўлялі і слухалі рок-класіку пачатку 70-х...

# АДНО ПЫТАННЕ

Той тэлефон я яшчэ доўга не мог адрамантаваць. Падклейваў яго, замотваў ізаляцыйнай стужкай. У ім нешта ўвесь час адыходзіла, ён то званіў, то не званіў. Вядома, што ў гэтых маіх пакутах лягчэй за ўсё абвінаваціць амерыканцаў, але ці правільна тое было б з майго боку?

Неяк у суботу вечарам патэлефанавала сястра. Сказала, што прыходзіў Мікола Малусевіч з нейкім лістом з Амерыкі. Быццам у Каліфорніі адшукаліся ягоныя сваякі, якія ў бліжэйшыя дні будуць тэлефанаваць, і што, маўляў, спатрэбіцца мая дапамога. Назаўтра з раніцы Мікола павінен сам зайсці і падрабязна ўсё расказаць. Я не стаў удакладняць дэталяў, паклаў трубку і выйшаў у двор, разважаючы пра непрадказальнасць вясковага жыцця і часам пра незвычайную ролю ў ім мясцовага настаўніка.

Мікола аб'явіўся назаўтра толькі ў другой палове дня (пазней я выпадкова даведаўся, што ён ужо два дні хадзіў па знаёмых і частаваўся гарэлкай, карыстаючыся ўсеагульнай цікавасцю да таямнічага ліста). Я сустрэў яго ў калідоры, калі збіраўся выйсці ў двор. Крыва ўсміхаючыся, абдаючы перагарам, ён палез быў абдымацца, але, зірнуўшы мне ў вочы, перадумаў і мітусліва пачаў корпацца ў кішэнях. «Зараз, Кастусь, зараз...» — мармытаў ён сам сабе, пляскаючы далонямі па ватоўцы і штанах. Ён выглядаў гадоў на дзесяць старэйшым, хоць мы былі амаль што равеснікі. Некалі Мікола скончыў сярэдняе ваеннае тэхнічнае вучылішча, але сяброўства са спіртным дужа паўплывала на ягоную кар'еру і асабістае жыццё. Ён прыехаў на радзіму з апошняга месца службы без сям'і, без звання, без грамадзянскай спецыяльнасці.

Нарэшце Мікола дастаў зацёрты, пакамечаны ліст паперы з кішэні штаноў, а аднекуль з запазухі — канверт, разарваны па ўсіх швах.



«Глядзі, Кастусь, — усхвалявана пачаў тыкаць Мікола ў надпісы «Malusevich» і «California» і, паступова павышаючы голас, амаль што крычаць. — Гэта маё, разумееш? Маё прозвішча! Бяры, чытай ліст!»

Ліст быў напісаны на дрэннай расейскай мове. Там-сям праскоквалі беларускія словы. Пісаў родны брат Міколавага дзеда. Ён радаваўся, што адшукаў сваякоў, коратка распавядаў пра сваіх сыноў: старэйшы быў доктар, малодшы — рок-музыкант. На момант напісання ліста малодшы сын-музыка быў на гастролях — выступаў у Японіі.

На апошні факт Мікола асабліва націснуў, ведаючы пра маё захапленне рок-музыкай, — ён выхапіў ліст з рук і дрыготкім голасам пракаментаваў: «У Японіі! Ты разумееш? Са сваім уласным гуртом!» Ён ляпаў мяне па плячы, піхаў у грудзі, махаў перад вачыма паперай і шчыра не разумеў, чаму ж і я не падзяляю ягонага захаплення. Яго ўласны выгляд запэўніваў у тым, што я павінен скакаць, прысядаць і таксама ляпаць яго па плячах.

«Ты не зразумеў, Кастусь! Глядзі — "Malusevich", "California"! А ён, мой дзядзька, на гастролях! У Японіі!» Я далікатна перачытаў пісьмо яшчэ раз і, адчуваючы сябе крыху вінаватым, ветліва спытаўся, што ж патрабуецца ад мяне.

Мікола адхіснуўся ад мяне, як ад пякучага полымя, і, акругліўшы вочы, ціха прасіпеў: «Кастусь...» Ён зрабіў вялікую паўзу, павольна споўз спінай па вушаку дзвярэй, прысеў, апусціў нечакана пацяжэлую галаву. Потым страпянуўся, паглядзеў на мяне тужлівымі вачыма бяздомнага сабакі і запытаў: «Кастусь, што мне ім сказаць?»

Я без ценю сумнення адказаў, упэўнены ў логіцы сваіх слоў, што размаўляць з імі можна пра ўсё. Хвалявацца тут няма чаго — пра што запытаюць, пра тое і кажы. Час ужо, дзякуй богу, даўно змяніўся. Зразумела, трэба падтрымаць хнюю цікавасць да нашага жыцця — прапанаваць часцей тэлефанаваць, прыехаць у госці.

Мікола глядзеў на мяне не міргаючы. Мне здалося, што ягоныя вочы напоўніліся мудрым разуменнем таго, што ад-

бывалася. Як быццам нейкі першабытны імпульс адкрыў яму сутнасць гэтай таямніцы — глабальнага аб'яднання славянскіх душ у сусветным маштабе. Ён аблізаў вусны і, зачаравана гледзячы мне ў вочы, прашаптаў: «Кастусь, ты ж зразумей, яны ж там... А я тут... Разумееш? Што ж я ім скажу?»

Толькі пазней, узгадваючы сустрэчу з Міколам, я падумаў, што ў своеасаблівы кульмінацыйны момант Міколавага маналогу наступаў час, калі я павінен быў наліць яму чарку. Але, як і ўласціва ўзнёсламу ідыёту-інтэлектуалу, няўважліваму да мясцовых умоўнасцяў, я нават і не падумаў пра нешта такое, у думках заняты варыянтамі адказу на ліст і тэмай магчымай размовы з амерыканцамі па тэлефоне. Свае разважанні я сістэматызаваў і добрасумленна прадставіў Міколавай увазе.

Той, быццам я нічога толькі што не казаў яму, падняўся з парога і запытаў: «Кастусь, а як жа я буду з імі... Яны ж у Амерыцы... ШТО мне ім сказаць?»

Магчыма, нейкі псіхалагічны бар'ер — калі межы яго ўласнага сусвету рэзка пашырыліся да маштабаў планеты — не даваў яму спакою. Можа, і так — думаў я ў той момант... Але тое, што Мікола нават не звярнуў увагі на маю прамову, вядома ж, закранула. Паўтараць я не стаў. Я ўвогуле нічога не адказаў, калі ўбачыў, што размова не атрымліваецца. З канчаткова сапсаваным настроем я падумаў, што Мікола нарэшце развітаецца са мной. Але той думаў трошкі інакш. Паварушыў перасохлымі вуснамі, трагічна гледзячы некуды паўзверх маіх вачэй, і зноў узяўся за сваё: «Кастусь, а што я ім скажу?..»

Напэўна, ужо нават я здагадаўся расцаніць гэтае пытанне як вытанчаны здзек хітрага п'яніцы, таму што пасля майго адказу ў калідор выглянула жонка і запыталася: «У вас усё добра?». Я, можа нават крыху рэзкавата, прапанаваў ёй зачыніць дзверы і, павярнуўшыся да Міколы, паспрабаваў падвесці вынік нашае размовы, апошні раз растлумачыўшы, што калі яму спатрэбіцца мая дапамога — я заўсёды гатовы! Толькі мне патрэбна ведаць, што трэба рабіць ДАКЛАДНА.

Мікола доўга глядзеў мне ў твар, потым нізка апусціў галаву і стаў пляскаць па кішэнях. Ён выцягнуў абрыўкі



канверта ды напалову разарваны ліст і пачаў паказваць зразумелыя яму фразы на ангельскай мове і зачытваць асобныя фразы на расейскай. Я сціснуў зубы і, спрабуючы захаваць стрыманасць, перапыніў яго і пераказаў увесь ліст ад пачатку да канца. Ён вытрымаў паўзу і шэптам спытаўся: «Кастусь, пра што я буду з імі размаўляць?»

Памятаю вельмі цьмяна, як у парыве шаленства я выштурхаў гэтага чалавека на вуліцу, як ён агаломшана глядзеў на мяне і мармытаў нешта кшталту: «Добра, добра... У чацвер... Размова... Ты будзеш побач... Толькі пра што...» Са страшэнным грукатам перад ягоным носам зачыніліся дзверы.

Назаўтра з раніцы Мікола патэлефанаваў: «Кастусь, прабач алкашу! Бязглуздзіцу нёс — п'яны быў! Гаварыў сам не разумеў што. Ты ж ведаеш — гарэлка сваю справу робіць...» Я адказаў, што ўсё нармальна, што я і сам пагарачыўся, і што не трэба было мне так груба размаўляць з чалавекам, які выпіў, хай сабе і крыху лішняга. Нашая дамова застаецца ў сіле — чым змагу, заўсёды дапамагу. «Кастусь, яны ж у чацвер будуць тэлефанаваць?» — нечакана запытаўся Мікола. Я чамусьці разгубіўся, адказаў сцвярджальна і не прадугледзеў наступнага пытання. Можна сказаць, зусім не падрыхтаваўся да яго. А Мікола памаўчаў крыху і спытаўся: «...Кастусь, пра што я з імі буду гаварыць?»

Каб вы не падумалі, што я нейкі вар'ят і разбіў той тэлефон, павінен растлумачыць, што ён проста зваліўся з паліцы. Можа быць, я няўдала ці неяк рэзка павярнуўся ці адышоў, хто яго ведае? А пра Міколавых амерыканцаў я так больш нічога і не чуў, бо ў хуткім часе змяніў месца працы і жыхарства.

Я пару разоў бачыў Міколу пасля таго памятнага выпадку, аднак быў ён у такім стане, што заставалася толькі рабіць выснову — у амерыканскіх сваякоў з цягам часу павінна назбірацца ўсё больш і больш пытанняў да майго земляка. Але якое пытанне было найважнейшым для самога Міколы, ведаў толькі ён адзін.

## АДПАВЕДНЫ РАЙ

Па ўсім было відаць, што ў Смілавічах добра ставіліся да грамадзянаў без пэўнага месца жыхарства. Дакладней, сацыяльная дапамога для гэтых людзей была наладжаная смілавіцкай адміністрацыяй на дастаткова высокім узроўні. Бамжы ніколі не хадзілі тут у бруднай вопратцы. Для іх былі арганізаваныя спецыяльныя кропкі, куды яны здавалі свае рэчы, а ўзамен атрымлівалі чыстыя. Гэта быў «second hand», але адзенне заўсёды было якаснае і нават моднае. Да бамжоў ставіліся ветліва і ўважліва. Для іх было арганізавана нешта падобнае да лазні. Зразумела, басейна і саўны там не было, але душ з гарачай і халоднай вадой, бясплатныя мыла і шампунь, аднаразовыя ручнікі — гэта ўсё было.

Усіх без выключэння кармілі ў спецыяльнай бясплатнай сталовай. Медыцынская дапамога была наладжаная па лініі аднаго з «крыжоў» (ці то чырвонага, ці то зялёнага) і працавала вельмі актыўна. Усяму кантынгенту, які стаяў на ўліку, прапаноўвалася праца. Хто хацеў, мог працаваць цэлы дзень, хто такога жадання не меў, мог працаваць палову дня. Грошы выплочваліся па заканчэнні працы. Невялікія, але на цыгарэты ды цукеркі хапала.

Начаваць можна было ў спецыяльным інтэрнаце, у цёплых і ўтульных пакоях, дзе засцілалі свежую бялізну, выдавалі падушкі, коўдры, і можна было нават паглядзець тэлевізар...

Так я думаў, калі кіроўца аўтобуса «Магілёў — Мінск» усё ж такі выштурхнуў бамжа-небараку з салона і праветрыў смурод, што той пакінуў за сабой. Бомж ехаў з Беразіно, хаваючыся на самых апошніх сядзеннях. Грошай хапіла толькі на квіток да Смілавічаў. Ён вельмі прасіўся праехаць хоць крыху бліжэй да Мінска. Якія ў яго там былі справы — невядома. Чалавек гэты быў не надта падобны на звычайных бамжоў. Вопратка ў яго была больш-менш акуратная. Позірк уважлівы, дапытлівы, і, гледзячы на яго твар, можна было



падумаць, што ў гэтай дзіўнай асобы маглі нават мецца нейкія творчыя здольнасці. Яшчэ ў час прыпынку на аўтастанцыі ў Беразіно бомж паспрабаваў загаварыць са мной, калі я выйшаў з аўтобуса падыхаць свежым паветрам. З-за яго дэфекту маўлення я зразумеў толькі некалькі словаў, у тым ліку пытанне: «На Мінск?» Мужчына паспрабаваў учапіцца за мой рукаў і нешта сказаць яшчэ, аднак я выхапіў руку і пайшоў да газетнага шапіка, думаючы, што гэта звычайны жабрак збірае грошы на піва...

Кіроўца яшчэ доўга лаяўся, ні да каго не звяртаючыся, — аўтобус заглух і не хацеў заводзіцца. А бомж застыў на адкрытым участку шашы, спінай да аўтобуса, уціснуўшы галаву ў плечы. Да Мінска заставалася яшчэ кіламетраў трыццаць. Побач на краі асфальту ляжаў пакунак, што кіроўца выкінуў услед за яго гаспадаром. Шалёны вецер шкуматаў вопратку, мокры снег залепліваў твар. Можа быць, ён плакаў, можа, яму было сорамна, магчыма, ён пасылаў праклёны ці, наадварот, дараваў камусьці альбо дзякаваў за яшчэ адзін нялёгкі іспыт у сваім лёсе...

Мая сяброўка, калі прачытала вышэй напісаныя радкі, спыталася: «Ты што, не знайшоў іншай тэмы? Адчуваеш віну, што не даў бедаку пару тысячаў, каб ён даехаў да Соснаў ці да Шабаноў? Можаш суцешыцца тым, што ніхто з пасажыраў таксама не падтрымаў жабрака...» Рэдактар часопіса «М?Д!» выдаў рэзюмэ: «Спадзяешся, што нейкі інтэлектуал, прачытаўшы гэтыя радкі, скажа: “Бач ты, які шляхетны, разважае нават пра лёс бамжа...”?» А святы айцец Мікалай з царквы «Новае неба» сказаў, што не толькі людзі, але яшчэ і нехта звыш абавязкова даведаецца ці ўбачыць, што аўтар пры жыцці пашкадаваў небараку, ды прагучыць з нябёсаў прыкладна наступнае: «Не зусім, значыць, страчаны. Залічым яму гэты выпадак у спіс добрых справаў...»

А я падумаў — не выключаецца, што аповед трапіць да самога галоўнага героя, таго самага бамжа, што здолеў даехаць толькі да Смілавіч. А ён раптам выпадкова апынецца самым пісьменным, дасведчаным і выбітным з усіх беларускіх бамжоў, сапраўдным інтэлектуалам і крыэйтарам,

і прачытае гэтыя радкі з вялікай удзячнасцю да аўтара. Зразумела, гэта можа здарыцца пры пэўных умовах, калі, напрыклад, наш герой здагадаецца завітаць у інтэрнэт-кафэ, якое працуе пры спецыялізаваным цэнтры сацыяльнай дапамогі мястэчка Смілавічы. Цалкам верагодна, што наведвальнік знойдзе гэта апавяданне ў Сеціве, на спецыяльным сайце, які зарэгістраваны смілавіцкай сацыяльнай службай для грамадзянаў без акрэсленага месца жыхарства...

Той самай службай, якая хоць на некалькі імгненняў дазваляе патрапіць у рай.



# ЧАТЫРЫ ПОГЛЯДЫ НА ПРАБЛЕМУ АБУТКУ

## 1. ПУНКТ ПОГЛЯДУ

Думаю, што знаёміцца мы не будзем, спадзяюся, што ўсе ведаюць мяне і ведаюць, якую пасаду я займаю ва ўпраўленні культуры аблвыканкама. Хацелася б сказаць некалькі словаў адносна справаздачнага канцэрта вашай дзіцячай школы мастацтваў. У першую чаргу пра недахопы ў рэжысуры і ў сцэнарыі мерапрыемства. Канцэртныя нумары павінны быць больш яркімі, больш дынамічнымі і выразнымі. Расстаўляць іх трэба такім чынам, каб глядач дакладна адчуў развіццё, кульмінацыю і фінал. Гэта важна. Вялікае значэнне маюць афармленне сцэны, тэхнічнае забеспячэнне, праца вядучых, касцюмы ўдзельнікаў. На апошнім засяроджваю ўвагу. Вельмі несур'ёзна выглядалі сёння гітарысты, выконваючы класічную музыку ў красоўках. Трэба ж мець пачуццё стылю! Я мяркую, за два месяцы, як мы разаслалі загады па раёнах, магчыма было падрыхтавацца крыху лепей...

Што такое?.. Так, я разумею Вашае крытычнае стаўленне да асобных выкладчыкаў, уласна да Вас, і да ўсяго вашага калектыву... Згаджаюся, што і падрыхтаваць канцэртныя нумары, і ўвогуле арганізаваць мерапрыемства можна было лепей — я, здаецца, толькі што пра гэта гаварыла... Але вялікая да Вас просьба: перапыняць мяне не трэба. Я не магу размаўляць паасобку з усімі, хто прысутнічае ў зале. Будзе час, Вы таксама выкажаце свае думкі. Прабачце, хто Вы? Так, выкладчыца па класу віяланчэлі...

## 2. МЕРКАВАННЕ

Як дырэктар павінен сказаць: усё, на што ўказала нам камісія, — канкрэтныя і правільныя заўвагі. Правяраючыя выканалі сваю працу прыгожа і прафесійна: прыехалі, адгледзелі, пакрытыкавалі, пажадалі і развіталіся з дзяжурнымі ўсмешкамі на тварах. Але таксама хачу сказаць і пра тое, што ва ўмовах нашай мястэчковай школы, без сваёй залы і без, уласна, сцэны, мы зрабілі нават больш, чым маглі! І яшчэ невялікі нюанс — камісія не ўзгадала, што загады пра справаздачныя канцэрты яны разаслалі за два месяцы, а дату тых канцэртаў вызначылі за два тыдні. Прычым адзін тыдзень выпаў на дзіцячыя канікулы. Маўляў, круціцеся як хочаце. Наконт канцэртных касцюмаў правільная заўвага з іхняга боку. Гітарыстам трэба сачыць за абуткам... А ўвогуле ўсё прайшло нядрэнна, і я падтрымліваю Ваш аптымізм, веру ў калектыў, радасныя пачуцці і добрае стаўленне да іншых настаўнікаў, паважаная выкладчыца па класу віяланчэлі... Дзякуй, дзякуй за віншаванні...

## 3. ЗАЎВАГІ

За такую няўвагу да настаўніка вам усім вушы трэба панакручваць! Я ж прасіў, як толькі скончацца канікулы, адразу з'явіцца на заняткі. Да канцэрта заставалася цэлых пяць дзён. Не, яны ўсё роўна два дні прагулялі! Потым — хто ўвесь канцэрт бегаў за заслонай і ў рэшце рэшт папсаваў яе? Акрамя гітарыстаў, больш не было каму гэта зрабіць! Добра, што з кіраўніцтва ніхто не заўважыў...

Усе гаварылі пра вашую форму адзення. Хай сабе Міця прыйшоў у красоўках, яго кранаць не будзем — адна маці, працуе на дзвюх работах, на ўсіх дзяцей абутку не набрацца. Але ж астатнія двое маглі б і туфлі пашукаць. Аднак праграму падрыхтаваць Міця мог, і павінен быў — удвая лепей! Усе ведаюць, як ён можа іграць, калі захоча... Хто там ломіцца ў дзверы? Ды адчапіцеся вы ад мяне, у рэшце рэшт! Гэты клас замацаваны за мной, у мяне зараз ідуць заняткі, і нікому я яго саступаць не збіраюся! Вы можаце скардзіцца, куды пажадаеце...

## 4. РАЗВАЖАННІ

Міця — тое! Міця — гэтае! Што ім ад мяне патрэбна? Усё ім не так! Сыграў, як здолеў... Паспрабавалі б яны падрыхтавацца за некалькі гадзінаў да пачатку канцэрта. У панядзелак трэ было налавіць рыбы, таму што тыдзень сядзім без грошай. Добра, што маці яшчэ цыгарэты ў інтэрнаце прадала... У аўторак яна пайшла з раніцы на працу, а тут дзяжурства падвярнулася, і яна засталася да ночы. Ёй нельга ад працы адмаўляцца. А каму тады, акрамя мяне, з малой Алёнкай сядзець? Вось і атрымалася, што толькі сёння, перад канцэртам, пачаў рыхтавацца. Давялося школу прапусціць. Але гэта дробязі. Ці ў першы раз? За дзвярыма я чуў, як настаўнік абараняў мяне. Што ім усім гэтыя красоўкі даліся? Класныя «красы»! Трэба ў кустах зняць іх. У інтэрнат пайду ў сваіх старых «танках». А то ж скажуць, што ўкраў! Гэта як заўсёды. Знойдзецца які-небудзь дурань! А я ж пазычыў. На пятым паверсе, каля Віцькавых дзвярэй стаялі. Вельмі мне спадабаліся. Але ж гэта — на канцэрт, а не куды-небудзь! Віцька зразумее, а вось яго бацькі — невядома...

А віяланчэлістка дае джазу! У інтэрнаце жыве насупраць і ніколі не вітаецца. За апошні месяц ужо другі пасяліўся ў яе. А яшчэ бегае да нашага настаўніка сварыцца за клас. І не сорамна ёй! Маўчала б ціхенька... Трэба ёй, як прывядзе наступнага, клею «Фенікс» наліць пад дзверы, на гумовы дыванок, і падпаліць. Страху няма, звычайны жарт. Але ж пэўнае адчуванне пажару...

# АДНАКЛАСНІКІ. GOV

## I.

Перад ёй на краі стала ляжала вялікая кніга. Маладая жанчына выразна чытала ўголас, прыемны тэмбр зачароўваў, прапануючы адзінаму слухачу загадкавыя тэксты:

«...Ягуар поўні, ягуар цемры і ягуар усмешкі прыйшлі па маю душу ў час, калі сава апусціла крылы, і, ашчэрыўшы іклы, выпусціўшы кіпцюры, кінуліся на вобраз Божы — а я быў тады вобразам Божым, — але поўнач скруцілася ля маіх ног, а лісце, па якім прапаўзлі дарогі, выгнулася рознакаляровымі змеямі, пахаладзіўшы маю скуру сваёй луской...»

Прамень праектара акрэсліваў на белай сцяне крыху выцягнуты ў адзін бок чатырохкутнік, у межах якога змянялі адно аднаго вялізныя пірамiды, напаўразбураныя храмы, рэшткі неверагодных горных дарог, планы шматузроўневых гарадоў з вышыні палёту птушкі, статычныя здымкі залатых і срэбраных упрыгожанняў, узоры старажытных пісьмёнаў, няпростыя шыфры старадаўніх календароў...

Амаль усю прастору кабінета, падобнага на невялікую актавую залу, займаў аграмадны авальны стол. З правага боку ад экрана пільна ўглядаўся ў змены каляровых выяваў чалавек, па-дзелавому апрануты ў чорны касцюм ды белую кашулю. Толькі гальштук выглядаў крыху незвычайна — ён быў расфарбаваны складанымі ўзорамі, якія нагадвалі тыя ж індзейскія роспісы на экране. З другога боку элегантна прысела на крэсла перад экранам стыльна апранутая жанчына, вельмі падобная на знакамітую тэлевядучую галоўнага канала краіны.

«...Чорныя цёрліся аб мае валасы, пакуль не заснулі, як жанчына каля мужчыны. Белыя ўвянчалі мой лоб. Зялёныя ахуталі ногі пер'ем прарочай птушкі. Чырвоныя прыкрылі тое, што свяшчэнней за ўсё.



Цяпер ты правадыр! Цяпер ты правадыр!..»

У твары мужчыны нешта змянілася. Ён па-ранейшаму глядзеў на экран, але моцна сціснуў зубы, цяжка дыхаў праз нос.

«...Кольцы змеяў сціскалі мяне, я быў адзін, растрывожаны, няспрытны, і вось, у прыступе моцных пачуццяў, я адчуў, што пускаю карані. Было так цёмна, што рэкі біліся аб камяні гор, а за гарамі бог, падобны на звар'яцелага зубадзёра, вырываў дрэвы рукой ветру...»

— Хопіць!!! — раптам крыкнуў мужчына.

Ад нечаканасці жанчына ўсхапілася са свайго месца.

— Усё! Можаш ісці! — прагучаў рэзкі загад.

Жанчына хутка пакінула кабінет. На экране працягвалі змяняцца слайды. Чалавек, які застаўся адзін у памяшканні, абхапіў галаву рукамі і ўголас прамовіў: «Як гэта ўсё знаёма! Ягуары, змеі, дарогі, Божы вобраз!.. Кожны дзень, кожную гадзіну адно і тое... Мазгі закіпаюць...»

Ён падышоў да стала, туды, дзе ляжала кніга. Перагарнуў некалькі старонак. «І вось, я ўспамінаю». Мігель Анхель Астурыяс. Тысяча дзевяцьсот семдзесят другі год... Пачакай, гэта ж год, калі мы скончылі школу... Ці ведаў той Мігель, што праз трыццаць пяць гадоў я праз яго буду знаёміцца з вельмі дзіўнымі рэчамі... І хто ўвогуле ведаў, чым давядзецца ў будучым нам займацца! Нам! У нашых дзяржавах, што займаюць цэнтральнае месца на кантынентах, якія аддзяляе толькі акіян. Усяго толькі акіян... Хто б мог падумаць, што мы будзем вывучаць фальклор рэгіёна, дзе мае вялікі ўплыў наш добры сябра. Разбірацца ў тонкасцях культуры народа, якім кіруе сам Сонечны Ягуар. У нюансах гісторыі і культуры яго суседзяў па кантыненце... Дарэчы, ці ёсць у іх звычай сустракацца з аднакласнікамі ў першую суботу лютага? Цікава, цікава! Трэба спытацца ў Сонечнага!.. А што тычыцца нашых, ведаю, што сустракаюцца, але ж ні разу не запрасілі... Надыходзіць час вырашыць гэта пытанне. Якраз набліжаецца дата, відаць, з'явіцца неабходнасць навесці пэўныя даведкі...»

## II.

Старыя сябры сустрэліся за шлагбаумам вялікага будынка аўтамайстэрні і хутка пакрочылі да службовай аўтастаянкі. Бычок адчыніў дзверку свайго старэнькага «форда». Яго таварыш уладкаваўся на пасажырскім сядзенні.

— За тваёй будзем заязджаць? — спытаўся ён у кіроўцы.

— Не. Баіцца, што я магу перабраць спіртнога. Сказала, што сама прыйдзе.

У хуткім часе яны заехалі ў невялічкі ўтульны дворык перад двухпавярховым будынкам з чырвонай цэглы. Запаркаваліся побач з новенькай BMW і накіраваліся да галоўнага ўваходу.

— Родная школа... Знешне амаль што нічога не змянілася за столькі гадоў, — сказаў Бычок.

— Гэта толькі знешне, — не пагадзіўся сябра.

Мужчыны зайшлі ў фае, павіталіся з чалавекам у форме ахоўніка, які сустракаў усіх на ўваходзе і спрабаваў завязаць размову з кожным. Відаць, яму было ўжо амаль невыносна сядзець на сваім абрыдлым службовым месцы. Сябры пажартавалі з гаваркім вартаўніком і накіраваліся да актавай залы. Людзей назбіралася няшмат. Намеснік дырэктара ды дзве маладзенькія настаўніцы завіхаліся перад трыбунай на сцэне з апошнімі падрыхтаваннямі да ўрачыстай часткі.

Невялікімі групамі па зале размеркаваліся выпускнікі розных гадоў. У кожнай з кампаніяў знаходзіліся прыгожа апранутыя дзяўчаты ці жанчыны, якіх была большасць. Мужчынаў было значна менш. Акрамя выпускнікоў у цывільным прысутнічалі іхнія аднагодкі ў ваеннай форме, ці ў марскіх кіцелях, ці ў форме праваахоўных органаў, а таксама прадстаўнікі іншых «мужных» прафесіяў (службы выратавання, пажарнай службы) — у самых розных рангах і званнях.

На сцэну павольна паднялася жанчына сталага ўзросту. Былы класны кіраўнік таго класа, у якім вучыліся Бычок і яго сябра. Яшчэ ў вельмі далёкія часы за ёй замацавалася мянушка «Пані Ванда», і яна сама ўсё жыццё падтрымлівала гэткі свой псеўданім. Кажуць, што бацька ў яе быў аднекуль з Усходняй Еўропы, ці то чэх, ці то паляк. Яна нават размаўляла з ледзь заўважным замежным акцэнтам.

Пані Ванда сказала, што ёй вельмі прыемна бачыць усіх зноў разам. Што з большасцю вучняў свайго выпуску яна сутыкаецца амаль кожны дзень. Што выраслі яны сапраўднымі людзьмі. «Але аб адным з вас я хачу сказаць асобна, — прамовіла Пані Ванда, — Яго сёння тут няма, ды і быць не можа — справы аграмаднай важнасці займаюць яго. Вы ўсе зразумелі, пра каго я гавару. Мне вельмі прыемна, я ганаруся, што з майго класа выйшаў такі чалавек. Упэўнена, што ў яго выхаванне і я зрабіла немалы ўнёсак...» Пані Ванда была сумленным правінцыйным педагогам. Па вечарах глядзела навіны і сумавала па часах сваёй былой працы.

## III.

Чалавек у генеральскіх пагонах спытаўся: «Можна ўвайсці?» Вайсковец паклаў чорную скураную тэчку на стол, за якім у багата ўбраным фатэлі сядзеў гаспадар кабінета. Выява была добрая, але гук месцамі знікаў. Аднак магчыма было разабраць амаль усё, што гаварылася:

— Дадзеныя па сустрэчы аднакласнікаў выпуску тысяча дзевяцьсот семдзесят другога года, — пачаў даклад генерал. — Школа нумар адзін. Населены пункт 34-Альфа з квадрата К. Дванаццаць чалавек, прозвішчы дадаюцца. Ёсць дамова пасля афіцыйнай часткі ў школьнай актавай зале працягнуць сустрэчу ў прыватным доме па адрасе: Астурыяса, 6...

— Астурыяса?! — здзівіўся чалавек у фатэлі.

— Так, Астурыяса, новая вуліца, будынак нумар шэсць, — пацвердзіў генерал.

— Зноў Астурыяс. Адкуль зваліўся на маю галаву гэты Астурыяс?.. — прамармытаў сабе пад нос чалавек за сталом.

— Прабачце? — выцягнуўся ваенны, спрабуючы разабраць словы суразмоўцы.

— Які план транспарціроўкі? — раптам спытаўся той, праігнараваўшы пытанне генерала.

— Тры верталёты. Група падтрымкі на двух першых высаджваецца з паветра для праверкі і зачысткі тэрыторыі. Потым пасадка галоўнай машыны. Мясцовасць дазваляе. Участак дзве тысячы квадратных метраў, без дрэваў. Суседнія будынкі далёка. Некаторыя з іх пустуюць, вуліца яшчэ толькі забудоўваецца. Дакладна адсочана пры дапамозе спадарожнікавай сувязі. Новыя тэхналогіі дазваляюць нават якасць грунту дэталёва даследаваць. Таму абсалютна ўсё пад кантролем. Пасля высадкі верталёты адлятаюць на запасны аэрадром і чакаюць сігналу па рацыі...

Пайшлі гукавыя перашкоды, выява на маніторы то знікала, то зноў з'яўлялася, але праз некалькі секундаў усё наладзілася.

— Як нашы госці сябе адчуваюць? — спытаўся ў наступны момант гаспадар кабінета.

— Вы маеце на ўвазе замежнае спецпадраздзяленне — Anheles Nocturnos, якое тры дні таму прыбыло ў вашае распараджэнне?

Генерал не ведаў чаму, але зразумеў, што выклікаў непадробную цікавасць свайго суразмоўцы.

— Як ты назваў падраздзяленне? — пасля паўзы перапытаў той.

— Anheles Nocturnos. Начныя Анёлы.

— Добра, можаш ісці...

Калі за генералам зачыніліся дзверы, якасць выявы зноў сапсавалася, але гук быў добры, і можна было дакладна пачуць наступныя словы: «Нікому давяраць нельга! Астурыяс, "анхелес"... Ці не шмат супадзенняў?»

## IV.

«Вось жа Сябра-Арэх! Сапраўдны Арэх З Чырвонай Галавою! Ацэола, правадыр семінолаў, ёшкін кот! Вінету, сын Інчу-чуна, каб табе добра было! — нягучна разважаў сам з сабой Бычок, трымаючыся адной рукой за сцяну гаража. — Вось жа Чынгачгук мясцовы. Не проста Вялікі — Аграмадны Змей... Кецалькаатль, каб ты здароў быў... Я буду за кіроўцу (у сэнсе — ён)... А ты, Бычок, можаш крышку выпіць! Змей, сапраўдны Змей! Добра ж ведае, што я не магу выпіць "крышку"...»

Бычок паспрабаваў адарвацца ад сцяны і зрабіць крок убок. Не надта атрымалася. Ён моцна пахіснуўся і зноў абаперся рукамі аб сцяну. Пад нагамі пахрумстваў снег, але рукі не мерзлі... Дзіўна — здаецца, у галаве шуміць не дужа моцна, а вось ногі не слухаюцца зусім!

«Добра, пастаю яшчэ трохі. Свежае паветра зробіць сваю справу. Хутка працверазею. А з іншага боку, што — не маю права? Ну выпіў лішняга, хапануў гэтай тэкілы мясцовай, дык я ж тут гаспадар! Мой дом, мая машына, мой гараж... Дарэчы, чаму ў маім гаражы дзверы не зачыненыя з боку двара...»

Бычок паспрабаваў дацягнуцца да прыадчыненых металічных дзвярэй. Даўжыні рукі не хапіла, а зрабіць крок ён не наважыўся. Махнуў рукой: маўляў, потым зачыню... Недзе далёка ў небе пачуўся гук авіяцыйнага рухавіка. Ці падалося, ці на самай справе ён набліжаўся? Колькі яшчэ часу гаспадар прастаяў побач з уласным гаражом, невядома, ды толькі калі наступны раз падняў галаву, у адзін момант працверазеў.

Проста з цемры начнога неба на яго ўласны участак адзін за адным бязгучна прызямляліся парашутысты... Тут не тое што працверазець — пасівець можна!

Зразумела, што адразу Бычок падумаў пра якасць той самай «тэкілы». Галюцынагенны эфект ды ўсё такое. Але ў наступны момант штосьці зашапацела над гаражом, за сцяной пачуўся глухі ўдар, і кавалак парашутнага шоўку спачатку апусціўся на галаву гаспадара, а потым хуценька пацягнуўся дагары. Нехта сцягваў парашут з другога боку будынка.

Пад гэты шум Бычок нарэшце хуценька зрабіў крок да ўваходу ў гараж і спрытна зачыніў за сабой дзверы. Зразумела, што машыны там не было — на ёй зараз Сябра-Арэх паехаў з аднакласніцамі ў краму па прадукты і спіртное.

Але на месцы быў веласіпед. Бычок пахваліў сябе за тое, што вельмі ўчасна змазаў петлі брамы, і дрыжачымі рукамі бязгучна адчыніў адну створку...

Чалавек на другім баку гаража вельмі хутка сцягваў купал парашута. Белы маскіровачны халат, галава нічым не пакрытая. Доўгія чорныя валасы моцна сцягнутыя за патыліцай, а на ўзроўні лба галаву абхоплівала тасёмка з бісеру, на якой боўталася вялікае пяро. У адным вуху быў замацаваны невялікі навушнік, а на ўзроўні вуснаў знаходзілася дужка з амаль нябачным мікрафонам. На поясе ў парашутыста вісеў вялікі нож у скураных похвах, на грудзях — кароткі аўтамат. Дзейнічаў ён спрытна, але на некалькі секунд замарудзіўся, калі тканіна зачапілася за нейкую жалезіну, што тырчэла з-пад даху. Калі ўзброены чалавек заканчваў свае дзеянні з парашутам, яму падалося, што недзе ззаду зарыпеў снег. Ён рэзка азірнуўся. Павеў моцнага ветру скінуў з даху жменю снегу проста на яго чорныя валасы. Можа, і падалося...

## V.

У новым доме Бычка госці адчувалі сябе вельмі камфортна. Месца хапала свабодна размясціцца, усе выгоды ў наяўнасці: вялікая кухня, гасцёўня, шмат іншых пакояў. Арэх ужо прывёз прадукты і некалькі рознакалібравых бутэлек.

На прасторнай кухні прыгожая жанчына раскладала ежу па талерках. Відаць па ўсім, настрой у яе быў не дужа добры. Гэта пра яе размаўлялі сябры па дарозе ў школу. Арэх хутка з'явіўся, каб паставіць на стол бутэлькі. Потым падышоў бліжэй да жанчыны: «Не хвалюйся, Вікторыя, ён праз пяць хвілінаў будзе ў парадку!» Яна выцягнула доўгімі прыгожымі пальцамі цыгарэту з пачка «Мальбара», прыкурыла ад запальнічкі «Zippo», працягнутай да яе. Сумна ўсміхнулася і сказала: «Добра. Чакаем пяць хвілінаў...»

У гэты самы момант уваходныя дзверы расчыніліся, і раптам, як у нейкім дурным сне, увесь дом запоўніўся ўзброенымі людзьмі ў белых маскхалатах. Яны хуценька праверылі пакоі і далі зразумець, каб усе сабраліся ў зале.



Музыка сціхла, госці ў шокавым стане стаялі нерухомыя. Было толькі чуваць шорханне вайсковага абутку па падлозе ды кароткія каманды на замежнай мове. Ува ўсіх вайскоўцаў чорныя густыя валасы былі прыхопленыя тасёмкамі, з якіх тырчэла па адным ці па два пяры, у вушах кожнага з іх былі навушнікі радыёперадатчыкаў ды дужкі мікрафонаў каля вуснаў. У цэнтр пакоя выйшаў той самы парашутыст, які прызямліўся побач з гаражом, і з вельмі моцным акцэнтам патлумачыў, што зараз у памяшканні адбудзецца сустрэча з адказнай асобай дзяржаўнага ўзроўню.

Чалавека, які з'явіўся на парозе, усе добра ведалі па тэлерэпартажах з замежных самітаў, прэс-канферэнцыяў міжнароднага ўзроўню, кожнадзённых тэленавінаў ды адказных і важных нарадаў кіраўніцтва дзяржавы на розных каналах тэлебачання. Апрануты ён быў ва ўсё чорнае. Здавалася, што паліто, касцюм, туфлі ільсніліся ад зграбнай якасці. Толькі палоска ідэальна белай кашулі знаходзілася ў кантрасце з астатнім адзеннем, выглядаючы з-за каўняра паліто, ды кавалачак гальштука, размаляванага незвычайнымі складанымі ўзорамі, тырчэў пад кадыком. Успрымаць гэтага чалавека ў рэальнасці было вельмі дзіўна і нязвыкла.

— Добры вечар, аднакласнікі, — уразіла землякоў першая фраза. Дакладней, не сама фраза, а тэмбр голасу, які ўсе даўно ўжо прызвычаіліся кожную раніцу чуць па радыё. Але ж не так вось проста, не побач з сабой!

— Афіцэр, — звярнулася важная персона да тога вайскоўца, што мог размаўляць без перакладчыка, — загадайце сваім людзям пачакаць на вуліцы, у памяшканні пакіньце аднаго ці двух чалавек, як палічыце патрэбным. Самі заставайцеся са мной...

Прагучаў загад на замежнай мове. За некалькі секунд вайскоўцы арганізавана, амаль бясшумна пакінулі пакой. Двое засталіся стаяць спінай да дзвярэй. Насупраць нерухома стаялі аднакласнікі, якія ад нечаканасці падзеяў, што разгортваліся на іх вачах, не маглі вымавіць ні слова.

— Ну, цяпер ужо дакладна — добры вечар! — паспрабаваў фальшыва-вясёлым голасам зняць занадта напружаную сітуацыю важны госць.

— До-обры ве-ечар... — хорам, як у малодшых класах, няўпэўнена прагулі ў адказ аднакласнікі, не зводзячы вачэй з важнага субяседніка. Яму падалося, што ён ужо цалкам авалодаў сітуацыяй. Пацёр далонню аб далонь і сабраўся быў нешта сказаць, але раптам чамусьці азірнуўся на двух сваіх ахоўнікаў — старэйшага афіцэра, на нагах якога былі вайсковыя чаравікі з вялізным пратэктарам, і яго падначаленага, абутага ў сапраўдныя індзейскія макасіны. Вайскоўцы таксама пераглядзелі адзін на аднаго. Усім падалося, што звонку даляцеў нейкі шум, і чыйсьці далёкі голас абарваўся, нібыта яго рэзка перапынілі.

У наступны момант дзверы рэзка расчыніліся, і ў пакой уварвалася група людзей у адзенні самых розных пакрояў і колераў. Двое ахоўнікаў не паспелі зрэагаваць належным чынам, і ў наступны момант яны ўжо ляжалі на падлозе побач з асобай у чорным адзенні. Апошняму ўвогуле не пашанцавала — яго прыціснулі тварам да падлогі. Рознакаляровы гальштук з дзіўнымі ўзорамі выбіўся з-пад адзення, і на ім апынуўся індзейскі макасін, што зваліўся з нагі ахоўніка падчас кароткай бойкі.

Аднакласнікі зноў нерухома стаялі, як скамянелыя. З белымі тварамі, з шырока раскрытымі вачамі, у стане, блізкім да страты прытомнасці. Услед за людзьмі ў ваеннай, марской, праваахоўнай, пажарнай ды іншай форме ў пакой забег ахоўнік са школы. За ім у праёме дзвярэй паказаўся перапужаны твар Бычка. Ахоўнік, відаць, шкадуючы, што спазніўся і што яму не давялося нікога скруціць, падбег да распасцёртага чалавека ў чорным і рэзка рвануў яго за каўнер паліто.

Убачыўшы твар таго, каго ён так бесцырымонна падхапіў, ахоўнік збялеў ад жаху, але сваю ахвяру так і не здагадаўся выпусціць з рук. Бычок, які апынуўся побач і ўбачыў знакаміты профіль пад рукамі ахоўніка, міжволі выкрыкнуў: «Дык гэта ж..!» Раптам змоўк і азірнуўся па баках, нібыта шукаючы падтрымкі ў аднакласнікаў. Як у пацвярджэнне яго здагадкі, адна з аднакласніц не вытрымала і з ціхім стогнам паваліласа на падлогу. Над ёй з гучным шэптам нахіліліся жанчыны, а Бычок пабег на кухню па ваду.



Калі адзін з землякоў у пагонах падпалкоўніка зразумеў, што адбываецца, ён адштурхнуў школьнага ахоўніка, скінуў макасін з гальштука і хуценька дапамог падняцца чалавеку ў чорным. Абтрос пыл з яго шыкоўнага паліто, са штаноў і нават з туфляў, выцягнуўся ва ўвесь рост, прыклаў руку да галавы без галаўнога ўбора і адрапартаваў: «Падпалкоўнік Міхуль. Аперацыя па Вашым вызваленні завершана!» Той, каму дакладалі, рукой пацёр шчаку, на якой адбіўся вугал паркетнай дошкі, паглядзеў нібыта скрозь палкоўніка і задумліва прамовіў: «Міхуль, кажаш? Вось табе і поўны камплект. Міхуль... Анхелес... Астурыяс...»

## VI.

Бычок стаяў на ўласнай кухні і чакаў, калі закіпіць вада ў імбрычку. Галава гула, нібыта пасля пахмелля, хоць апошнія некалькі дзён Бычок не тое што выпіваць — нават думаць не мог пра алкаголь. Ён толькі што вярнуўся з пракуратуры, дзе некалькі гадзінаў запар у асобным пакоі даваў паказанні незнаёмаму чалавеку ў цывільным пра тое, што адбылося ў суботу папярэдняга тыдня. Чалавек вельмі дзіўна сябе паводзіў. Ён не крычаў, не злаваўся, не напускаў на сябе строгі выгляд. Наадварот, размаўляў спакойна, інтэлігентна, жартаваў. Яго цікавіла ўсё — і як Бычок «перабраў», і як ён стаяў каля гаража, а потым заўважыў парашутыстаў. Па пяць разоў перапытваў пра акалічнасці кшталту тых, як спадар Бычок ціха і незаўважна здолеў на веласіпедзе выехаць з гаража на вуліцу. Потым пытаўся, як так хутка можна было па зімовай небяспечнай дарозе даехаць да школы. Як яму ўдалося сабраць па класах цэлы баявы атрад? Хто гэтыя людзі? Хто з землякоў Бычка прымаў удзел у баявых дзеяннях і дзе? Хто служыць ці служыў за мяжой, у каго якія званні і пасады, узнагароды? Хто кіраваў аперацыяй па абяззбройванні замежнага спецпадраздзялення, якое парушыла інструкцыі і ў поўным складзе грэлася вакол вогнішча на гаспадарскім агародзе? Усе адказы запісваліся на дыктафон. Ад гэтых пытанняў і адказаў моцна забалела галава, і чалавек у цывільным адпусціў Бычка дадому.

Нарэшце імбрычак засвістаў. У пакой зайшла Вікторыя з пачкам «Мальбара» ў руках. Моўчкі закурыла цыгарэту, узяла пульт ад тэлевізара, што паказваў нейкія навіны, але без гуку. Як толькі гук з'явіўся, дыктар, нібыта па замове, выклаў для сваіх гледачоў інфармацыю: «...з гэтай заакіянскай экзатычнай краінай зараз склаліся дастаткова напружаныя дыпламатычныя адносіны. Справа ў тым, што спецпадраздзяленне "Анхелес Накцюрнас" выконвала на тэрыторыі нашай краіны адказнае даручэнне дзяржаўнага ўзроўню. Але не справілася са сваімі абавязкамі і было тэрмінова, спецрэйсам выслана за межы краіны. Так здарылася, што двое вайскоўцаў з гэтага падраздзялення нелегальна засталіся на нашай тэрыторыі. Нашыя дыпламатычныя апаненты хвалююцца за жыццё сваіх грамадзянаў і патрабуюць тэрмінова выдаць двух удзельнікаў "Анхелес Накцюрнас", месца знаходжання якіх пакуль што не ўстаноўленае. Усіх, хто можа даць дакладную інфармацыю па гэтай тэме, просім звяртацца да нас у рэдакцыю, да кіраўніцтва мясцовых адміністрацыяў, у органы аховы правапарадку. Вось фотаробат з выявамі гэтых людзей. Іхнія асобыя прыкметы — доўгія чорныя валасы, завязаныя ззаду ў хвост, у тасёмцы на галаве можа тырчэць пяро. Апранутыя ў белыя маскхалаты, на нагах індзейскія макасіны...» Вікторыя выключыла гук і спыталася:

— Слухай, скажы шчыра, што вы з імі зрабілі?

— Ты што... — папярхнуўся гарбатай Бычок. — Ты што кажаш?! Калі іх усіх скруцілі і абяззброілі нашыя хлопцы, гэтыя двое незаўважна перарэзалі вяроўкі і зніклі, як скрозь зямлю праваліліся! Ты не разумееш, гэта ж індзейцы! Ды яны ў цябе пад носам замаскіруюцца так, што ты на яго наступіш і не заўважыш!

— І на колькі часу ты нас цяпер пакінеш?

— У сэнсе? — не зразумеў Бычок.

— Ну, ты ж цяпер лічы што асуджаны?

— Што ты такое пляцеш? — раздражнёна пачаў гаварыць гаспадар. — Суду ніякага не было. Са мной нармальна размаўлялі, нічым не пагражалі... Ну, узялі падпіску аб нявыездзе. Дык гэта ж нічога не значыць!..



Вікторыя адвярнулася, і Бычок не заўважыў слёз, што выступілі на яе вачах. Яна накіравала пульт на тэлевізар і пераключыла на іншую праграму. Гэта аказаўся мясцовы тэлеканал, дзе малады журналіст з сур'ёзным выглядам распавядаў пра важныя справы: «...цяпер былая вуліца Астурыяса ў нашым мястэчку будзе называцца вуліцай Усходніх Пераможцаў. А ганаровае права перарэзаць чырвоную стужку прадастаўляецца нашаму земляку, генералу Міхулю, які не так даўно быў прызначаны на пасаду міністра абароны нашай краіны...»

Генерал у навюткай форме павярнуўся да камеры:

«Немалаважна ў любой справе выпрацаваць правільную тактыку і стратэгію! А галоўнае — падбор кадраў... — Генерал раптам хутка нахіліўся да камеры і загадкава прамовіў: — Вялікі шлях не мае брамы, тысячы дарог вядуць да яго. Той, хто пройдзе праз гэтую заставу, будзе жыць вольна — адзін у цэлым свеце...» Генерал шматзначна падміргнуў з экрана. Камера пераехала крыху ўбок. Па яго левай руцэ ў роўным баявым парадку выстраіліся вершнікі. Іхнія доўгія дзіды глядзелі ў неба. Невялікія круглыя шчыты закрывалі корпус кожнага з іх. З-за спіны ва ўсіх выглядалі калчаны з лукамі і камплектамі баявых стрэлаў. Вастраверхія шлемы былі ўпрыгожаны пухкімі хвастамі драпежных жывёлаў. На скуластых вузкавокіх тварах не было ніякіх эмоцыяў. Да вуха кожнага з вяяроў з-пад скуранай адзежы цягнуўся правадочак навушніка, а на ўзроўні вуснаў трымалася маленькая дужка мікрафона. Быццам падкрэсліваючы рэальнасць таго, што адбывалася, пачуўся трэск радыёперадатчыка, потым прагучала незразумелая кароткая фраза. Старэйшы з вершнікаў нягучна адказаў. Чамусьці падалося, што на старажытнай мангольскай мове.

На фоне гэтай уражвальнай карціны голас генерала дадаў: «Той, хто зразумее ісціну першага радка, зразумее ісціну апошняга радка. Першы радок, апошні радок. Ці не адно гэта і тое ж?..»

# БЯЛУН І НАСЦЯ

Бачу ў вашых вачах раздражненне: дакуль можна трываць гэтыя бясконцыя пераўвасабленні? Адзін ператварае чалавека ў дэмана, другі ў вавёрку, трэці ў сіямскага ката ці ў зялёнага чыюка. Няўжо бракуе мужнасці пакінуць сваіх герояў у гэтым недасканалым свеце такімі, якімі іх стварыла сама прырода?

*У. Арлоў. «Палёты самотнага птаха»*

З самага маленства ён пераводзіў на свае малюнкі паперу — усю, што трапляла пад руку. Ён маляваў бесперапынна, дзе б ні знаходзіўся, і, здавалася, займаўся гэтым заўсёды. Калі ягоныя малюнкі пачалі ажываць, спачатку Бялун (ці проста Бял — такая за ім замацавалася мянушка) намаляваў сабе звычайную электрагітару «Fender». Потым намаляваў бас-гітару, і атрымалася яна амаль што адразу. А вось з клавішнымі справа была не такая простая. Ён пераспрабаваў самыя розныя варыянты ў рэшце рэшт атрымаўся навюткі чорны раяль. Праз нейкі час пачала з'яўляцца і музыка. Спярша бляклая і невыразная, але паступова яна набывала неабходную глыбіню і закончанасць. Бял быў у выдатным настроі, ён працаваў, не спыняючыся ні на хвіліну. Яму хацелася, каб гэта быў сапраўдны рок-н-рол.

Аднойчы Бял, збіраючыся намаляваць нейкі новы інструмент — ці то гітару, ці то скрыпку, — размашыста правёў лінію, якая плаўнасцю сваіх пераходаў уразіла яго настолькі, што... Страшэнна баючыся, каб міг гэтага дзівоснага азарэння не быў страчаны, ён дакрануўся алоўкам да паперы, прадоўжыў выгін, і той прыняў форму пляча, потым грудзей, вытанчанай рукі, доўгіх пальцаў... Бял вельмі хваляваўся, адчуваючы, што губляе свой ранейшы спакой і размеранасць жыцця. Так у яго з'явілася Насця. Усё, што стваралася дагэтуль, было забытае, і «Fender» валяўся ў пярэднім пакоі на пыльнай падлозе, а на ім выразна былі відаць сляды нечага абутку, і па ўсёй верагоднасці не Бяла, бо той апошнім часам зрэдку апускаўся на дол, а больш лунаў у прасторы, якая была запоўнена гукамі шыкоўнага раяля (намаляванага то заваленым нотамі ў пустым пакоі, то строгім і недаступным далёка на сцэне, альбо ў іншых рамантычных ракурсах). Часамі, асабліва з раніцы, ціха гучала акустычная гітара. Насця датыкалася прыгожымі пальцамі да празрыстых струнаў, і яе не прыхаванае адзеннем цела нібыта струменілася нейкімі сапраўды незямнымі чароўнымі мелодыямі. Але з кожным новым днём яе музыка рабілася ўсё больш сумнай — час ад часу мелодыя нечакана перапынялася і праз нейкі момант ціха пачыналася зноў. Аднойчы Насця папрасіла Бяла намаляваць ёй адзенне. Яна ўвогуле рэдка што-небудзь прасіла... Бял працаваў увесь дзень, зрабіў велізарную колькасць эскізаў. Моцна стаміўшыся да ночы, ён так і заснуў у фатэлі з алоўкам у руцэ. Усю ноч яму чулася нейкая трывожная мелодыя, якая выклікала цяжкія карціны сноў, і нават прачнуўшыся, Бял яшчэ чуў яе. Музыка абарвалася, калі ён убачыў палатно. Колькі часу ён прастаяў перад ім — невядома, але калі зноў пачаў усведамляць, дзе ён знаходзіцца, адчуў, што так цяжка яму не было яшчэ ніколі...

Зразумела, ён пачаў прыдумваць розныя прабачальныя прычыны, ён упэўніваў сябе, што гэта недарэчнасць вырашыцца не сёння, дык заўтра. А пра Насціна раптоўнае і загадкавае знікненне яны ўдваіх пазней будуць згадваць са смехам і жартамі. Але недзе глыбока ў самім сабе ён адчуваў усё меней надзеі і падсвядома ўжо прадчуваў, што на самай справе ўсё адбудзецца зусім па-іншаму. Яго музыка стала суцэльным Халодным Блюзам, а ў малюнках пералівалася Пустэча. Аднойчы, бадзяючыся па доме, у стане, блізкім да прастрацыі, ён натыкнуўся на свой «Fender». Блюз, які ён зайграў, павінен быў гучаць цягучымі доўгімі нотамі, «пера-

язджаючымі» адна ў адну, і выконваць яго трэ было «слайдарам», металічнай трубкай, уздзетай на палец левай рукі. З той прычыны, што слайдара ў яго не было, ён пачаў іграць горлачкам бутэлькі, як гэта рабілі калісьці ў даўнія-даўнія часы ў дэльце Місісіпі. Бутэлька яго не задаволіла, і ён узяў іншую. У нейкім сэнсе гэты занятак стаў выйсцем для Бяла, і назваць тое, што адбывалася з ім, можна было «пошукам сваёй бутэлькі». Ён пераспрабаваў вялізную колькасць тых бутэлечных рыльцаў, і паглыбленне ў вывучэнне іх уласцівасцяў толькі адчыняла новыя далягляды. Блюз ператварыўся ў адну навязлівую мелодыю, якая асабліва рэзала ў вушах з раніцы, удзень крыху заціхала, а пад вечар зноў збівала з розуму і забірала памяць, з якой назаўтра, як з віру, выплывалі на паверхню свядомасці перакуленыя рэстаранныя столікі, разбітыя фужэры на стойках бараў, міліцэйскія пагоны, незнаёмы інтэр'ер чужых кватэраў, калготкі і прэзерватывы ва ўласных кішэнях... Блюз жадаў сваёй гарачыні, шукаў выйсця, энергетыка яго ўзрастала, моцны неўтаймаваны рытм ужо існаваў сам па сабе, і ўсё гэта разам нагадвала шалёны выхад на коду ў «жывым» выкананні Элвіна Лі ў залатыя часы «Ten Years After». Апошняя нота надоўга завісла ў прасторы і цягнулася, цягнулася, цягнулася... Пакуль Бял не расплюшчыў вочы. Да яго нахіліўся прыгожы жаночы твар. Усё навокал — і адзенне гэтай жанчыны, і сцены, і столь — было такім белым, што ён зноў заплюшчыў вочы. Калі ён іх адкрыў яшчэ раз, то зноў убачыў жанчыну, але іншую, у руцэ ў яе быў шпрыц, а побач стаялі два мужчыны. Яны таксама былі ў белым.

Бял не ведаў, колькі прайшло часу, і адчуваў цяжар ад таго, што не мог маляваць, што не гучала і музыка. Ён дужа хацеў убачыць Насцю. Ён прыходзіў у прытомнасць яшчэ некалькі разоў, і ў хуткім часе яго вочы заплюшчыліся назаўсёды. Бял памёр.

Напэўна, ягонае жыццё прыняла нейкія іншыя формы, бо невядома адкуль ён даведаўся пра свае карціны, якімі вельмі зацікавіліся незнаёмыя яму людзі, што выглядалі маленькімі і смешнымі зверху, але там, унізе, яны лічылі сябе вялікімі і сур'ёзнымі. Узнік грандыёзны ажыятаж: выставы, салоны, лекцыі, фільмы, сваякі і сябры, якіх ён, як ні намагаўся, ніяк не мог узгадаць. Але самае галоўнае, што вярнулася Насця. Яна, аднак, спазнілася на адзін дзень. Яе палатно цяпер вісела побач з «Fender'ам», пад якім вялікімі літарамі было напісана: «Мастак Бялун. Гітара».

«Ідыятызм! — думаў, гледзячы на ўсё гэта са сваёй вышыні, Бялун. — На ёй жа трэба іграць, а яны яе да сцяны прыбілі...» Насцю чамусьці назвалі проста «Дзяўчынай». Па вечарах, дачакаўшыся, калі нарэшце зачынялі залу, яна шмат курыла, а недакуркі тушыла і, каб не кідаць на падлогу, клала на раму ад палатна. Прыбіральшчыца кожную раніцу ўздымала неверагодны крык. Насця бязгучна пасміхалася.

А аднойчы яна дужа развесяліла Бяла, калі, не змогшы больш знаходзіцца на адным месцы, збегла з залы на некалькі дзён. А каб палатно не матлялася проста так, яна забрала яго з сабой. З раніцы адміністрацыя ўчыніла страшэнны пярэпалах: міліцыя, прэса — «міжнародны скандал», «крадзёж веку»... Калі Насця вярталася ў музей, да яе прычапіўся малады хлопец у міліцэйскай форме, можа быць, курсант — яна не надта разбіралася ва ўмоўнасцях іхніх знакаў адрознення. Ці ён быў крыху п'яны, ці проста дурэў ад адзіноты і ад думкі, што яго звальненне ў горад заканчваецца, а магчыма, на яго ўплывала і тое, і другое — будучы афіцэр бесперапынна прапаноўваў ёй накінуць на плечы кіцель (яна сапраўды была апранутая не па надвор'і) і кідаўся паднесці цяжкую раму. Зразумела, яна дазволіла яму дапамагчы, дзякуй Богу, да музея заставалася сотня метраў. Каля вялізных дзвярэй элегантна вярнула кіцель і папрасіла націснуць на званочак... Дзверы адчыніла тая самая вахцёрка, на дзяжурстве якой прапала карціна. Пакуль старая жанчына скрозь слёзы казала: «...родненькі ты мой... зараз... пачакай жа хвіліначку...», а потым, перастаўшы яго абдымаць, абзваньвала навуковых супрацоўнікаў і спецыялістаў па мастацтве, будучы спецыяліст па крымінальных справах, не зусім разумеючы, што адбываецца, круціў галавой і ўсё шукаў кагосьці вачыма. І праз хвіліну, калі прыбеглі барадатыя і валасатыя, лысыя

і ў акулярах дзядзькі, ціснулі яму рукі і дзякавалі невядома за што, ён усё намагаўся спытаць у іх: «А дзе ж дзяўчына?» Яны рагаталі, падміргвалі адзін аднаму і выгуквалі на розныя галасы: «Жартаўні-і-ік!!!»

З таго часу, калі ў маладога чалавека выдавалася вольная хвіліна, ён абавязкова ехаў да музея, таемна спадзеючыся сустрэць там зноў сваю выпадковую знаёмую. Тыя ж самыя барадатыя дзядзькі сустракалі яго ўжо як свайго і, думаючы, што малады чалавек вельмі цікавіцца мастацтвам, заводзілі ў свае службовыя памяшканні і распавядалі шмат цікавых рэчаў. Калі атрымлівалася, ён збягаў ад іх і падоўгу стаяў насупраць адной карціны. Бял ведаў, што пазней гэты хлопец сапраўды стане неблагім крымінальным экспертам па мастацкіх творах...

У хуткім часе Бял зноў засумаваў. Магчыма, ад таго, што на вочы яму ўвесь час траплялі фразы накшталт «геніяльны мастак», «найдасканалейшы майстар», «непаўторнай прыгажосці палотны»...

«Няўжо ніхто не чуе музыкі? Я ж ніякі не мастак. Я музыкант! А гэта ніякія не палотны...» І толькі Насця, як быццам у адказ яму, ціхенька перабірала струны, прыгожае гучанне якіх узмацняла начная пустэча музейнае залы. А з іншага боку зачыненых дзвярэй, прыклаўшы вуха да замочнай шчыліны, стаяла вахцёрка і бурчэла: «Зноў у зале радыё забыліся выключыць. Трэба напісаць дырэктару дакладную. Так больш немагчыма, гэтак ж да раніцы не заснеш...»



# ТОЙ, ХТО Ў КУРСЕ, — НЕ ПАВЕРЫЦЬ

«...Так, уляпаліся ў гісторыю. Сусветную, можна сказаць... Хоць я ўжо звыкся і іншага жыцця не ўяўляю. Ведаю, што я сапраўдны салдат і гатовы да ўсяго. Гатовы да любога задання. Да самага жорсткага і бязлітаснага. Дванаццаць гадоў цягнецца гэтая разня, а я ўсё яшчэ жывы. Тых з беларусаў, хто быў са мной на самым пачатку, ужо даўно няма на белым свеце. Яны б моцна здзівіліся, калі б даведаліся, як усё перавярнулася... Пачыналася з вайны амерыканцаў супраць Югаславіі, а цяпер Прагрэсіўны Блок Амерыканскага Кантыненту ўзначальвае не хто іншы, як югаслаў... Ці чуеш ты мяне, дружа мой Олаф? Апошнія пяць гадоў мы былі заўсёды побач. Ці ведаеш, што тут творыцца? Усё пераблыталася. Хоць я тады быў ад цябе ў пяці сотнях метраў, смерці тваёй я не бачыў. Толькі ўвечары Фін сказаў мне, што ты загінуў. Недалёка ад цябе лягла адна з тых новых штук, што выпрабоўвала “Чорная армія”... О-о-о! Пачынаецца... Лепей здохнуць, чым усё гэта цярпець! У-у-у! Не-маг-чыма трываць...»

— Сястра, укаліце яму што-небудзь.

— Што менавіта, доктар?

— Што вы калолі ў мінулы раз? Калі не дапаможа — павялічце дозу...

«Калісьці я меў, што называецца, “мірную спецыяльнасць”. З маіх саслужыўцаў аб гэтым ніхто не ведае (з той нагоды, што гэта нікога не цікавіць). Толькі Олаф ведаў, што даўным-даўно я быў музычным журналістам. Гэта ж трэба! Калісьці тое было актуальна! Мала таго, на думку кампаніі, якая рыхтавала наклад майго першага альбома, я пісаў нядрэнныя песні. Тады я захапляўся рок-музыкай, чытаў нейкія лекцыі, друкаваў апавяданні на музычную тэму... Карацей кажучы, цалкам быў захоплены творчасцю... Ой...О-ой... Няма сілаў... Ды што ж гэта?!»

— Як яго стан?

— Без бачных паляпшэнняў, доктар.

— Пакажыце мне ўсю інфармацыю за апошнія дванаццаць гадзінаў...

— Вось здымак. Кроў. Кардыяграма.

— Добра, паглядзім, як ён справіцца з гэтай ноччу...

«Самае паршывае, што гэта я забіў Рычы Блэкмара. Так, я ведаю, большасці да гэтага няма аніякай справы, але той, хто ў курсе, — не паверыць... Усё адбылося выпадкова. Мы праводзілі спецаперацыю на тэрыторыі, якая раней мела назву Аб’яднанае Каралеўства. Аперацыя планавалася як імгненная высадка з мора і магутны ўдар па праціўніку — толькі ў гэтым выпадку мы маглі разлічваць на поспех. Для штурму былі адабраныя лепшыя спецпадраздзяленні. Быў адзін пункт у інструкцыях ды загадах па гэтай справе — дзеля ўдалага заканчэння трэ было знішчаць усё жывое без разбору. Зразумела, гэты загад быў адданы не адкрытым тэкстам, але ў раздрукаваным варыянце ішоў з пазнакай “сігма”, а ўжо малодшыя камандзіры павінны былі расшыфраваць асабістаму саставу: “Калі вы пакінеце ворага жывым, то ён не ўпусціць магчымасці знішчыць вас...”

Калі мы ўварваліся ў той старажытны замак на ўзбярэжжы, адразу пачалі “прачэсваць” пакоі: куды кідалі гранату, куды ўсаджвалі свінец ледзь не кілаграмамі... У замку, напэўна, нікога не было. Толькі ў тым пакоі, у які я выбіў дзверы нагой, быў ён. Якім чынам ён пазбег эвакуацыі, аб гэтым ужо ніхто ніколі не даведаецца. У мяне сэрца ледзь не выскачыла, калі я яго ўбачыў. З дзяцінства мне быў знаёмы ягоны твар — па фотаздымках з газетаў і часопісаў, па вокладках пласцінак, відэафільмах... Ён амаль не змяніўся, толькі валасы пасівелі ды як быццам згарбацеў болей... Ці, можа, падалося? Усё гэта доўжылася імгненні... Ён упаў нежывы тут жа, каля раяля. На сцяне вісела шыкоўная калекцыя гітараў... Але ў наступны момант я ўжо выломваў іншыя дзверы, паліваючы паўцёмны пакой цяжкім свінцом... А-а-а! Спыніце гэта ўсё! Немагчыма...»

— Што ў нас тут, сястра?



— У прытомнасць не прыходзіць. Трызніць. Стан крытычны.

— Што рабіць, давядзецца ампутаваць другую руку. Рыхтуйцеся да аперацыі...

«У мяне нарадзіўся сюжэт новай песні. За столькі гадоў неяк раптам само сабой атрымалася... Прарвала. Шчыра кажучы, гэта ненармальна. Адцягвацца на такія штукі ў нашай справе — смерці падобна. Але, з іншага боку, аб гэтым, зразумела, ніхто не даведаецца. За гэта я спакойны... І ўсё ж цепліцца надзея — не вечна ж будзе працягвацца гэтая вайна... Калі-небудзь, дасць Бог, знайду, хай сабе і лядашчую, гітарку, выйду на сцэну, напрыклад у... Ды якая розніца, дзе! “Дзяўчынка, аб’яві як след!” І прыгожы голас вядучай: “Увага ўсіх прысутных! Выконваецца ўпершыню”».

## ПАДАРУНАК ЗДАЛЁК

*Экалагічная рок-навела*

Цяжкі пакунак з прадуктамі замінаў руху, і Арнольд Ліс спыніўся, каб адпачыць. Так, пенсіянерам, на жаль, персанальны транспарт з асабістым кіроўцам не выдзяляецца. Нават калі нехта з гэтых самых ветэранаў працы шмат гадоў адбыў кіраўніком аднаго з прадпрыемстваў горада. У справе назапашвання харчавання нават жонка ўжо не дапаможа. Яе дзевяць год як няма на гэтым свеце. Адзіная дачка даўно з’ехала на сталае месца жыхарства за мяжу, калі выйшла замуж за нябеднага замежніка.

Па чутках, яе адносіны з бацькам і раней былі не дужа добрыя. А пасля таго, як яна «звязалася з гэтым фрыцам» (магчыма, самы бяскрыўдны эпітэт, якім тата адзначыў з’яўленне зяця ва ўласным жыцці), кажуць, што і ўвогуле адбыўся скандал. Ускосна гэта маглі пацвердзіць работнікі мясцовага аддзялення сувязі, якія дакладна ведалі аб наяўнасці не частых, але рэгулярных паштовак «з таго боку» і жорсткім іх ігнараванні з боку «гэтага».

Нягледзячы на такое доўгае адступленне, а можа быць нават дзякуючы яму, вось-вось павінен быў паказацца паварот у маленькі завулачак, амаль што непрыкметны ў гэтай частцы прыватнага сектара. У самай глыбіні яго, пасярод шыкоўнага саду, асабліва прыгожага ў другой палове лета, месціўся досыць вялікі і прасторны дом. І вось, пару крокаў не дайшоўшы да свайго павароту, Арнольд Ліс са здзіўленнем спыніўся, калі пачуў гук моцнага рухавіка ў тым баку, дзе акрамя яго ўладанняў і быць нічога не можа. А завярнуўшы за рог, увогуле разгубіўся ад выгляду замежнага трэйлера, што стаяў каля яго брамы. Аграмадная машына быццам дачакалася з’яўлення гаспадара — узраўла рухавіком і рушыла яму насустрач.

Было чаму здзівіцца: калісьці службовая легкавушка не без цяжкасцяў траляла ў вузкую прастору паміж агароджамі. А вось аказваецца, што і такая вялізная машына здолела заехаць у завулачак, што пэўна пацвярджала высокі клас кіроўцы. Стары падаўся назад, таму што адлегласці паміж бартамі трэйлера і плотам як злева, так і справа амаль не было. Кіроўца сядзеў у высокай кабіне, нібыта недзе на другім паверсе, засяроджана ўглядаўся ў люстэркі задняга віду, заклапочаны якасцю выезду з вузкай прасторы, і не звяртаў увагі на старога, які недзе ўнізе махаў рукамі. Доўгае цела аўтафургона вельмі павольна выпаўзала з вулачкі спадара Ліса, нарэшце павярнулася да яго нязвыклымі нумарнымі знакамі і пачало няспешна аддаляцца. Зразумела, стары чалавек вельмі расхваляваўся. Ён хутка накіраваўся да хаты. Насустрач яму з веснічак выйшаў незнаёмы мужчына сярэдніх гадоў:

— О! Вы, напэўна, спадар Арнольд! — прыгожа і адкрыта ўсміхаючыся, сказаў ён з ледзь заўважным акцэнтам.

— Так! Я — спадар Арнольд! А што, дазвольце спытацца, тут без мяне адбываецца?! — нервова выкрыкнуў гаспадар.

— Вы не хвалюйцеся, калі ласка. Мы прывезлі Вам падарунак ад вельмі блізкіх Вам людзей, якіх Вы, здаецца, павінны былі чакаць! Я зараз патлумачу...

— Нічога я не чакаў! — рэзка перапыніў незнаёмца Ліс. — Я і чуць не хачу аб нейкіх падарунках! — ён з лютасцю наблізіўся да свайго суразмоўцы. Той здзіўлена адказаў:

— Як нічога не чакалі?.. А зрэшты, — тон яго голасу стаў ветліва-халодным, — мая справа — выканаць сваю працу. Вось тут канверт з лістом і падрабязнымі інструкцыямі...

— Якія інструкцыі?! — працягваў абурацца стары.

Бачачы, што размова не атрымліваецца, мужчына спакойна адказаў:

— Тут усё напісана. Усяго добрага, да пабачэння.

Ён накіраваўся да трэйлера. Бразнула дзверка, рухавік набраў абароты, і ў хуткім часе цішыня апанавала наваколле.

Спадар Арнольд павольна адчыніў веснічкі. Утульны дворык у цэнтры ўпрыгожвала нейкая брудная маса, падобная на вялікі праснак, кшталту цэментавага раствору, вывернутага з невялікіх насілак. Каб разгледзець загадкавую масу,

гаспадар асцярожна наблізіўся. «Гэта падарунак, ці што? — Арнольд Ліс пацiснуў плячыма і палез у кішэню па акуляры. Але праз імгненне, хутчэй па паху, ён зразумеў, у чым справа. — Гэта ж спараджненні!»

Любы збой ва ўласным распарадку сталаму чалавеку даецца нялёгка. А тут такое! Пацягнуўшыся да вуха, каб сябе ўшчыкнуць, толькі цяпер ён заўважыў у руцэ канверт, што перадаў яму незнаёмец. Дрыжачымі рукамі разарваў яго і выцягнуў ліст.

«Нарэшце маю магчымасць перадаць табе тое, што ты, можа быць, сам не ведаючы, шмат гадоў чакаеш. Яго завуць Хатхі...» Хрумстанне і гучнае шорганне пачулася за спінай Арнольда Ліса з боку агарода, што адцягнула яго ўвагу ад ліста. Ён павярнуўся і застыў, адкрыўшы рот. Проста насупраць узвышаўся сілуэт аграмаднага слана. Жывёліна знаходзілася каля невялікай расчыненай брамы, што аддзяляла дворык ад агарода.

Спадар Арнольд нейкі час прастаяў нерухома, потым асцярожна паварушыў рукой. Слон лянотна працягваў жаваць. Тады стары зрабіў невялікі крок убок. Слон па-ранейшаму не звяртаў на яго ўвагі. Крок назад — ніякай рэакцыі, вочы слана, здаецца, заставаліся па-ранейшаму прыкрытыя павекамі. Гэта зусім не азначала, што ён не бачыў манеўраў дзіўнага чалавека, які не спяшаючыся выконваў нейкі незвычайны, вельмі павольны танец — рабіў адмысловае па і надоўга заміраў на месцы, — але за свой немалы век мудрая жывёліна прызвычаілася нічому не здзіўляцца ў свеце людзей.

Спадар Ліс асцярожна рушыў да рога хаты. Слон толькі зрэдку ўстрэсваў неверагодных памераў вушамі. Пакінуўшы зону бачнасці нечаканага госця, стары прыхіліўся да сцяны і аддыхаўся. «Здаецца, я разумею, пра які падарунак ідзе гаворка... Толькі без панікі». Гаспадар асцярожна абышоў хату і зазірнуў у агарод з іншага боку...

Слон апынуўся досыць мірным, і ўжо праз кароткі час Ліс хадзіў у непасрэднай блізкасці ад шматтоннай тушы, трымаўся рукой за галаву і назіраў, як гіне яго агарод. Грунтоўна патаптаўшы бульбу, жывёліна аблюбавала доўгі ўчастак з капустай. Была пакаштавана і морква. Гаспадар намагаўся выратаваць хоць што-небудзь, напрыклад, наглуха задраіў цяпліцу, нарабіў дзірак у цэлафане, каб гуркі і памідоры не звялі ў душнай прасторы. Дзякуй богу, пакуль што новы прадстаўнік хатняй гаспадаркі яшчэ не разабраўся, якую функцыю ў агародзе выконвае гэтае збудаванне, вельмі падобнае на цыркавы шацёр, толькі ў мініяцюры, ды дзе замест брызенту нацягнута цэлафанавая плёнка.

Да канца дня гаспадар нават навучыўся пераганяць жывёліну з месца на месца. Выратавальная ідэя мільганула ў галаве ўтрымальніка незвычайнага падарунка, і ён паспрабаваў выгнаць свой гіганцкі набытак у вулачку. Але слон спыніўся каля яблыні, што расла на пачатку агарода, зацікавіўся яе пладамі і больш не зрушыў ні на метр, як ні намагаўся стары. За гэтым заняткам і засталі дзве несувымерныя фігуры прыцемкі, што хутка згусціліся вакол.

За кухонным сталом, пад нізкай лямпай, што свяціла жоўтым святлом, у невясёлым роздуме гаспадар узгадваў падзеі дня. Нечакана магутны глухі грукат скалануў сцены хаты. «Спаць заваліўся, напэўна, — Арнольд Ліс паспрабаваў вызначыць характар дзеяння. — Заўтра з раніцы паспрабую пайсці ў камунгас... Ці куды тут лепей звяртацца?.. Добра, пачнем з камунгаса...»

Ён узяў у рукі канверт, што ляжаў перад ім на стале, і выцягнуў ліст, які не дачытаў днём: «Памятаеш, табе гэта ідэя прыйшла першы раз, калі мне было восем год...» Восем год? Што яна можа памятаць пра той час?! Спадар Ліс быў упэўнены, што жыццё яго сям'і цалкам залежала ад яго магчымасцяў, ад яго моцы і аўтарытэту. Але раптам чамусьці ўзгадаліся стосы малюнкаў. Дачка сапраўды неяк дзіўна ставілася да свайго захаплення, якраз у тым самым узросце. Малюнкаў з кожным днём рабілася ўсё больш і больш. Потым слёзы, плач, дзіцячая крыўда і пагрозы. Аднак пазіцыя главы сямейства — адзіная правільная і непахісная: «Ні ў якую мастацкую школу ты не пойдзеш! Паперу можаш і так псаваць, няма чаго губляць час на пустое. У спецыялізаваны клас замежнай мовы яшчэ куды ні йшло, а глупства

сваё выкінь з галавы, найшла занятак — карцінкі маляваць...» Маці маленькай Алёнкі моўчкі стаяла ўбаку. Можа і хацела нешта сказаць, ды не адважылася пярэчыць. Дзяўчынка залівалася слязьмі:

— Вось вырасту, а ты будзеш стары і папросіш падарыць што-небудзь...

— Так, так! Папрашу, каб ты падаравала мне жырафу, а можа нават слана! — з'едліва здзекаваўся з яе непрабіўны тата. Яму раптам стала вельмі смешна ад уласнага жарту. Нават настрой палепшыўся, і дзіцячы плач ужо не раздражняў так, як спачатку. — Добра. Размова скончана. Ідзі ў свой пакой...

Ён кінуў ліст на стол. Чытаць далей раптам перахацелася. Настрой чамусьці зусім сапсаваўся. Павольна ўстаў, выключыў на кухні святло і накіраваўся да дзвярэй спальні.

Спадар Ліс прачнуўся недзе каля шасці. Адчуваў сябе не вельмі хораша — з ночы ніяк не мог заснуць, таму калі падняўся з ложка, рухаўся нібыта ў забыцці. Пра ўчарашнія падзеі адразу і не ўзгадаў. Адчыніў дзверы на кухню, позірк яго трапіў на вакно. «Што з Вамі, дзядуля?!» — падскочыў бы любы, каб падтрымаць старога, які неяк дзіўна тарганўся і моцна пахіснуўся. На жаль, ніхто не мог прамовіць гэтыя словы ў такі ранні час на кухні спадара Арнольда.

А той, прываліўшыся да дзвярнога вушака, адной рукой трымаўся за сэрца, а другую слаба прыўзняў, нібы хацеў адмахнуцца ад дрэннага прывіду. З другога боку вакна, якое выходзіла прама ў сад, вялізная галава зазірала ў пакой і пляскала гіганцкімі вушамі. «Згінь, нячысцік! — сіпла выляяўся ўладальнік на ўласны падарунак. — А я ўжо і забыўся на яго...»

Маладой дзяўчыне ў дыспетчарскай камунгаса спадар Ліс не стаў нічога тлумачыць. «Да дырэктара таксама зараз не варта ісці...» — падумаў стары і накіраваўся да дзвярэй з надпісам «Галоўны інжынер». Гаспадар кабінета размаўляў па тэлефоне і рукой паказаў свайму наведвальніку, куды прысесці. Скончыў размову, павітаўся, спытаўся пра мэту візіту.



— Разумееце, праблема такая, — Арнольд Ліс зрабіў паўзу, — па нейкай недарэчнасці да мяне ў гарод трапіў слон.

— У сэнсе?..– перапытаў галоўны інжынер.

— Вы толькі выслухайце мяне, я зараз паспрабую ўсё патлумачыць, — спешна пачаў гаварыць «дзіўны стары», як падумаў пра яго суразмоўца.

Ліс пераказаў гісторыю з «фурай».

— Пачакайце, пачакайце, — азадачаны кіраўнік імкнуўся адшукаць логіку ў словах старога, — і што, яны выгрузілі Вам гэтага слана на агарод і з'ехалі?

— Менавіта так! — узрадаваўся спадар Арнольд зацікаўленасці свайго суразмоўцы.

«Некалькі месяцаў таму прыходзіў спецыяліст па пад'ёму царквы з дна возера. Казаў, што сам бачыў купал з крыжом. Таго ўдалося закадзіраваць. Яшчэ аднаго з тыдзень таму забралі адразу адсюль у псіхіятрычную клініку. Патрабаваў дастаць дзядзьку, які патануў у танку пасярод балота ў вайну. Шалёны быў, будаўнічая брыгада ледзь скруціла. А па гэтаму, бачыш ты, і не сказаць — выглядае, здаецца, нармальна...»

— Ваша прозвішча, імя, імя па бацьку. Дакладны адрас...

Ліс выдаў інфармацыю не запнуўшыся і дадаў:

— Я былы кіраўнік мэблевай фабрыкі. Вы не падумайце, што я... «таго»... Разумею, сітуацыя і сапраўды ідыёцкая. Але ж да вас звяртаюся з той нагоды, што ваша служба займаецца бяздомнымі жывёламі — сабакамі, напрыклад, кошкамі рознымі... Вось і гэты беспрытульны цяпер...

Стары нарэшце падняў вочы. Той, хто сядзеў насупраць, здавалася, са спачуваннем глядзеў на незвычайнага візіцёра. Ці гэта была добра схаваная іронія?

У той дзень старому чалавеку давялося пабываць у розных установах — у ветлячэбніцы, санэпідэмстанцыі, у аддзеле экалогіі райвыканкама, у лясгасе. Ён вельмі стаміўся ад бясконцых аповедаў пра гэтага «праклятага слана», ад рэакцыі тых, хто яго слухаў, — заўсёды аднолькавай, калі спачатку яго прымалі за вар'ята, потым на словах шкадавалі, абяцалі дапамагчы, а за спінай усміхаліся ўслед...

Увечары спадар Ліс ехаў дадому і таемна спадзяваўся, што за час яго адсутнасці з ІМ магло што-небудзь здарыц-

ца, Пярун забяры гэтага Хатхі... Але, калі зайшоў у двор, зразумеў — усё засталося па-ранейшаму. Гаспадар здалёк кінуў тужлівы позірк туды, дзе яшчэ ўчора расла капуста, і няспешна пацягнуўся дадому.

На кухні наліў сабе кілішак каньяку. На вочы зноў трапіў ліст з канверта, які так і валяўся на стале. Дрыжачымі пальцамі стары разгарнуў пакамечаную паперу, начапіў акуляры і адразу ж напароўся на фразу: «...табе вельмі спадабаўся твой новы жарт, і ты стаў карыстацца ім увесь час. Больш за ўсё я ненавідзела цябе ў тыя хвіліны, калі ты пачынаў “дасціпнічаць”...»

Ён сам здзівіўся, наколькі добра ўзгадвае тое, што мелася на ўвазе: ёй было гадоў дванаццаць-трынаццаць, яна прасіла купіць гітару, звычайную танную акустычную гітару. Але ў святле ідэалагічных райкамаўскіх рэкамендацыяў аб «прарошчванні расткоў сапраўднай пралетарскай культуры ў сучаснай моладзі» ён не мог дапусціць, каб яго адзіная дачка «сышла ў падваротні». Нягледзячы на ўсе забароны, дачка сама знайшла недзе старэнькую шасціструнку і старанна вывучала на ёй акорды. Ён употай лаяў сябе за тое, што «прагледзеў» такі важны выхаваўчы момант, і ўвесь час наладжваў сцэны педагагічнага зместу, як яму падавалася, націскаючы на тое, каб дачка больш не вярталася да гэтага «агіднага брынькання»...

Аднойчы, калі бацька знаходзіўся ў добрым настроі, дачка паспрабавала распачаць размову пра электрагітару. Здаецца, перад сваім шаснаццацігоддзем... Пасля скандалу, які адбыўся падчас гэтай размовы, яна першы раз сышла з дому. Яна вярталася і сыходзіла яшчэ шмат разоў. А ён са здзіўленнем назіраў, што кожны раз дома з’яўляўся ўсё больш дарослы і самастойны чалавек. Ён не жадаў здаваць сваіх пазіцый сямейнага лідара. Кожны раз сутыкненне прынцыпова розных пунктаў погляду прыводзіла да новага скандалу.

Як паважаны работнік абласнога ўзроўню і сур’ёзны кіраўнік, бацька запатрабаваў працягу адукацыі ў тэхнічнай ВНУ пасля заканчэння школы. Ён чамусьці лічыў, што толькі тэхнічная адукацыя мае сур’ёзныя перспектывы для грунтоўнай кар’еры. Яна паступіла на адзін з гуманітарных факультэтаў сталічнага ўніверсітэта. Ён палічыў, што гэта ўчынак насуперак бацьку.

Ён ніяк не суаднёсіў паступленне ва ўніверсітэт з захапленнем дачкі стварэннем тэкстаў і напісаннем песень. Хаця і ведаў аб яе стасунках з «патлатымі» музыкантамі, а таксама пра тое, што яна, нібыта, спявае ў нейкай «камандзе» (і не ведаў аб шалёнай папулярнасці яе каманды ў сталіцы і пра тое, што ў іншых гарадах яе запісы перапісваліся з касеты на касету, як сапраўдныя рарытэты). Ён не мог дапусціць, што ў гэтыя «бірулькі» можна гуляць сур’ёзна. Хаця крыху пазней адзін тэлефонны званок парушыў яго меркаванні. У хуткім часе з ім «у неафіцыйных абставінах» сустрэўся чалавек з вядомага камітэта і давярона, па-свойску параіў прыняць захады ў адносінах да дачкі. Але тата занадта доўга думаў — дачку ўжо адлічылі з шэрагаў студэнцтва. Пасля чаго яна ўвогуле надоўга знікла (але ж да хворай маці рэгулярна тэлефанавала, прыязджала да яе ў бальніцу, а калі-небудзь і на хвілінаку дадому). На той час бацька выйшаў на пенсію. Але працягваў займаць пасаду. Дачка самастойна падала заяву на працяг навучання ва ўніверсітэце. Хутка памерла маці. На пахаванні побач з дачкой увесь час быў нейкі піжон, нібыта нямецкі прадзюсар. З бацькам размовы не атрымалася.

У хуткім часе дачка з’ехала ў Нямеччыну, дзе досыць паспяхова для эмігранткі працягвала займацца музыкай і запісвала альбомы на ангельскай і нямецкай мовах. Ды бацька пра гэта ўжо не ведаў.

Але зараз, за кухонным сталом, нават тое нямногае, што было вядома спадару Арнольду, моцна ўсхвалявала яго. Нялёгка даваліся гэтыя ўспаміны. Ён разнерваваўся, скамечыў канверт з лістом і шпурнуў кудысьці ў кут.

Наступныя два дні Арнольд Ліс, па яго ўласным выразе, правёў у «хаджэннях па пакутах» — так ён назваў свае спробы дабіцца хоць якой-небудзь увагі да сваёй праблемы. Нарэшце, скарыстаўшы старыя сувязі, ён трапіў на прыём да

старшыні гарвыканкама. Высокапастаўленай асобе далажылі, хто да яго зайшоў, і раптам старшыня першы пачаў размову:

— Пачакайце, пачакайце! Да мяне якраз учора ці пазаўчора прыйшла дзіўная папера ад нямецкага агенцтва «М'юзік-Сервіс»...

Ён знайшоў патрэбны ліст і зачытаў:

— Так.. Так... Перадае ў падарунак спадару Арнольду Лісу, жыхару горада... так, слана па мянушцы Хатхі... Гэта вашы імя і прозвішча напісаны тут? Таксама, як і адрас?

— Імя, прозвішча і адрас мае... — сумна адказаў наведвальнік высокай установы.

— А Элен Майсен, — вось такое імя і прозвішча вам не аб чым не нагадвае?

— Не, упершыню чую, — шчыра прызнаўся спадар Арнольд. — Але ж вельмі вас прашу, зрабіце што-небудзь. Ён жа есць!

— Хто? — здзіўлена падняў бровы старшыня.

— Ну, Хатхі гэты... Ён ужо з'еў амаль увесь гарод, і не ведаю, што будзе далей!

— Цікавая сітуацыя... Добра, абавязкова што-небудзь прыдумаем! — упэўнена заверыў свайго наведвальніка важны кіраўнік.

Тым часам чуткі пра слана, што жыве ў старога на агародзе, разнесліся па ўсім раёне. Быццам выпадкова ў двор да спадара Арнольда спрабавалі зазірнуць зусім незнаёмыя людзі. А што казаць пра дзяцей? Яны акупавалі ўсю бліжэйшую тэрыторыю і з самага ранку не давалі спакою гаспадару. Ён намагаўся іх ганяць, але дзейнічала гэта не надта эфектыўна. Нечакана на падмогу змучанаму старому прыйшла яго сталая суседка цёця Нора:

— Арнольд! І трэба табе ваяваць з гэтай ардой? Грошы з іх трэба браць, і ўсё будзе нармальна!

Стары толькі адмахнуўся:

— Пра што ты гаворыш, Нора! Яшчэ не хапала мне толькі цыркам заняцца!



Але цёця Нора сама наладзіла справу і стала браць з хлапцоў сімвалічную плату за ўваход. Да вялікага задавальнення дзяцей, слон умеў станавіцца на адно калена, і хлапчукі з лёгкасцю ўзбіраліся яму на спіну. Увечары цёця Нора зайшла на кухню, дзе сядзеў яе вельмі сумны сусед, і высыпала на стол ладную суму дробнымі купюрамі.

— Прыбрацца тут трэба было б... — гаспадарчым позіркам агледзелася жанчына.

— Ды гары яно ўсё гарам... — прабурчэў стары.

— Не сумуй, Арнольд, я табе дапамагу!

Развязка адбылася хутка і нечакана. Аднойчы раніцай слон раптам перастаў есці і праляжаў цэлы дзень у кутку саду. Цёця Нора не падпускала да яго нікога з дзяцей. Наступным днём слон таксама не падняўся. Ляжаў з заплюшчанымі вачамі і цяжка дыхаў. Ноччу ён памёр. Жанчына пабачыла гэта з самага ранку. Яна палічыла, што ён памёр ад старасці. Арнольд Ліс выказаў меркаванне, што жывёліна магла атруціцца чымсьці на агародзе. Ніхто, зразумела, і не падумаў пра тое, што нават жывёліну маглі дастаць разборкі адных людзей з другімі. Пазіраючы са сваёй прыжыццёвай вышыні на тое, што адбываецца, слон меў поўнае права падумаць: «З якой нагоды я прыношу пакуты гэтым людзям і пакутую сам? За што мяне так занадта актыўна спрабуюць збыць з рук адны і з усёй моцы адбіваюцца іншыя? Навошта я быў так патрэбен спачатку, каб аказацца нікому не патрэбным у канцы? Ці калі я жывёліна, дык я не зразумею, што адбываецца?..»

Так здарылася, што якраз на гэты момант службы, да якіх раней беспаспяхова звяртаўся Арнольд Ліс, праявілі дзіўную актыўнасць, і пры сумесных дзеяннях тушу гіганцкай жывёліны тэрмінова разабралі і вывезлі. Цёця Нора ўвесь час дапамагала гаспадару наводзіць парадак у двары і ў хаце. Дайшоўшы ўвечары да ўборкі на кухні, яна выпадкова вымела скамечаны канверт. Ад вялікай цікавасці начапіла не свае акуляры і прачытала: «...Для мяне арганізавалі гастролі ў Варшаве, Вільні, Кіеве і Менску. Я папрасіла менеджараў

дазволіць вылучыць час на паездку да бацькі. Яны пагадзіліся, але папрасілі пацвярджэння ад цябе. Я даслала тры лісты, але з твайго боку — поўнае маўчанне. Я вельмі разззлавалася! Ведаеш, я была проста раз’юшаная. У Менску, у заапарку, я выкупіла старога слана. Зрабіць гэта было вельмі проста — былыя гаспадары ледзь зводзілі канцы з канцамі і з задавальненнем пазбавіліся ад аднаго з сур’ёзных пунктаў сваіх расходаў. Я дасылаю яго табе ў гонар тваёй таўстаскурасці. Ты заўсёды казаў, што я па жыцці раблю бязглуздыя ўчынкі. Ведаеш, ёсць такі выраз — “накаркаць”. У дадзеным выпадку гэта адносіцца да цябе. Але ж як бы там ні было, ведай — я ніколі не забываюся пра цябе і напэўна вельмі цябе люблю. Твая дачка Алена».

На другім баку ліста знаходзілася нейкая інструкцыя. Цёця Нора паціснула плячыма, пакруціла паперу ў руках і кінула ў сметніцу. У той вечар яны са спадаром Арнольдам пачалі глядзець шматсерыйны ці то індыйскі, ці то афрыканскі серыял. Галоўным персанажам у ім, як ні дзіўна, апынуўся слон, які заўсёды рабіў правільныя і добрыя ўчынкі — шукаў дзяцей, што згубіліся ў джунглях, ратаваў дарослых ад бандытаў, тушыў пажары, перавозіў хворых, абараняў сваіх гаспадароў ад драпежнікаў. Праз кожныя пяць — дзесяць хвілінаў трансляцыя перарывалася бясконцымі рэкламнымі блокамі. У кожным з гэтых блокаў пракручвалі ролік, дзе на фоне запамінальнага гітарнага рыфа гучаў голас дыктара: «Гарачы рок з сэрца Еўропы! Элен Майсен з канцэртамі ў Варшаве, Вільні, Кіеве, Менску!» Але як ні заглядала Пятроўна паўзверх акуляраў у бок спадара Арнольда, выраз яго твару не мяняўся. Здаецца, ніякія алегорыі тут не праходзілі. У сэнсе — спадар Арнольд так і не зразумеў, пра што гаворка...



## ПЕРАМЕНЫ

Здаецца, і ноч была ціхая, не было ні моцнага ветру, ні дажджу. А праз расчыненыя вокны толькі даносілася закалыхвальнае шапаценне лісця ў летнім садзе. Лёгкі ветрык гуляўся з верхавінамі дрэваў. Трава, што слалася пад імі, поўнілася ледзь улоўнымі гукамі: ці то нейкія жывыя істоты стваралі іх, ці то сама трава жыла ўласным жыццём.

Але ж мне прысніўся жудасны сон. Там, здаецца, я апынуўся падсудным, і мяне судзілі. Быццам было зусім цёмна, і ў гэтай цемры з усіх бакоў чуліся галасы. У нейкі момант я зразумеў, што галасы належалі дрэвам. Гэта былі звычайныя дрэвы, толькі вельмі старыя — вялізныя, закарэлыя, вузлаватыя. Яны колам абступалі мяне, сашчапіўшыся веццем, і вялі свае грозныя размовы амаль без майго ўдзелу: «Ён таксама, як і многія іншыя, рэзаў лепшых з нас пад карані, падзяляў на кавалкі, а потым яшчэ і сек на часткі, каб жыццёвая вільгаць хутчэй пакідала нас, і нашыя пасечаныя целы канчаткова засыхалі...»

Чыйсьці строгі голас спрабаваў навесці парадак:

— Увага, паважаныя ўдзельнікі суда! Просьба да ўсіх — казаць толькі па сутнасці справы...

Але хто іх ужо мог утаймаваць! Яны разышліся так, што магутнае суччa ўздымалася і апускалася з неверагоднай хуткасцю! Толькі лісце ляцела! У хуткім часе пачало здавацца, што ў сваіх спрэчках дрэвы нават забыліся пра мяне. Калі сучча ў каторы раз узнялося дагары, паміж магутных ствалоў я ўбачыў нейкі прасвет. Я саслізнуў з пня, на якім сядзеў, і кінуўся ў гэты кавалачак вольнай прасторы.

У звычайных абставінах з такой хуткасцю, напэўна, бегчы было б немагчыма. У цемры начнога лесу вецце сцябала па твары, па руках і нагах, ірвала вопратку, нібыта спрабуючы затрымаць. Магутныя карані выпаўзалі з зямлі і перашкаджалі майму руху. Але мне прыдаваў моцы страх, што зноў

патраплю на суд, з якога пашанцавала неяк збегчы! І, не звяртаючы ні на што ўвагі, я працягваў уцёкі.

Мне здалося, што наперадзе стала больш святла, і гэта падмацавала маю слабую надзею на выратаванне. Раптам сцяна лесу абарвалася, і я выбег на вялізную паляну. Тут жа кола дрэваў шчыльна самкнулася за маёй спінай. У цішыні, якая надышла, адразу ўзнікла адчуванне, што гэта далёка не папярэдні гуманны суд. Тут, здавалася, было нешта больш сур'ёзнае. Поўня слаба асвятляла наваколле. Цішыню перарвала толькі начная птушка шолахам сваіх крылаў. У цэнтры паляны вылучалася вялізная, магутная постаць гіганцкага дрэва. Нейкая здагадка мільганула ў мяне ў галаве.

«Дык гэта ж наш дуб! — прашаптаў я. — Той самы, які спілавалі ў самым цэнтры нашага мястэчка. Па-здрадніцку, ранкам аднаго з чарговых першамаяў, што калісьці зваліся днямі салідарнасці ўсіх працоўных. Адмысловае свята, што, як рудымент працоўнага руху папярэдніх дзесяцігоддзяў, напэўна, захавалася толькі ў нашай краіне. А вось акрамя святкавання яшчэ і "памецілі" гэтую дату знішчэннем помніка прыроды...»

«Аднак думкі твае маюць сэнс, — нечакана загрымеў недзе над галавой голас, — толькі дзе ж ты быў раней?! Куды глядзеў? Чаму не ратаваў дрэвы, з якіх здзекаваліся? Чаму не заступіўся за мяне? Не пайшоў да таго, хто аддаў загад на знішчэнне і не ўпэўніў яго, што гэтага рабіць не трэба?!»

Ад моцы гэтага голасу мяне прыціснула да зямлі. І ў той жа момант вакол стала значна святлей. Як быццам поўня выйшла з-за хмараў. Я прыўзняў галаву і літаральна анямеў ад нечаканасці: на адным з магутных дубовых сукоў бязгучна торгаўся маленькі лысаваты чалавек. Прыгледзеўшыся, я з жахам пазнаў нашага «мэра». Магчыма, ён і меўся на ўвазе як той, хто аддаў загад на знішчэнне дуба і да якога я быў павінен своечасова звярнуцца.

«Ну і што ты цяпер думаеш рабіць?» — зноў прагрымела над усім лесам. Шчыра прызнаюся, я і прыблізна не ведаў, што мне рабіць. Тым больш калі бачыў, як пакутуе на суку чалавек. Незразумела было, за што менавіта ён быў падвешаны, але адразу кідалася ў вочы, як яму там цяжка. У звычайным жыцці ён заўсёды быў «начальствам» — далёкім, абстрактным, з якім ніколі не было нагоды сутыкацца. Пра яго даходзілі нейкія незразумелыя чуткі, распавядаліся нейкія байкі. Але ўсё гэта было амаль што на ўзроўні показак. А тут вось ён, жывы, пакутуе... Як быццам у пацвярджэнне гэтага, чалавек на суку затузаўся мацней і захрыпеў. Па маёй спіне прабеглі дрыжыкі.

«Калі не ведаеш, што трэба рабіць, — зноў прыгнуў да зямлі магутны голас, — я табе падкажу. Твой дзед і твой бацька ўсё сваё жыццё аддалі лесу. Яны садзілі дрэвы, ахоўвалі і дапамагалі ім. А ты вырашыў стаць музыкам. Што ж, таксама патрэбная справа. Але цяпер, калі ты хочаш уратаваць гэтага чалавека, а я ўбачыў гэта ў тваіх вачах, — ты мусіш працягваць справу свайго дзеда і бацькі! Як ты будзеш гэта рабіць? Ты даведаешся, калі прыйдзе час...»

Я прачнуўся ўвесь мокры. Было такое ўражанне, што мяне ўсяго трэсла. А мо нават я і крычаў у сне? Толькі я з палёгкай уздыхнуў, што ўсё скончылася, як раптам зазвінеў тэлефон. Я без страху ўзяў трубку, падумаўшы, што падзялюся зараз з кімсьці з сяброў уражаннямі ад неверагоднага сну. Але толькі паднёс трубку да вуха, на другім канцы дрота нехта так закрычаў, што я пачаў хваляваціца за нармальны стан свайго слыху: «Ты што, яшчэ не на дзялянцы?! За табой ужо даўно паехалі! Пілу ў зубы — і наперад!..» Я глянуў у вакно і не паверыў вачам — там стаяў «уазік» з зялёнай паласой на баку, на якой было напісана «Лясная ахова». Мне шалёна сігналілі і махалі рукамі. Я выскачыў у калідор — на сцяне вісела вопратка: «камуфляжныя» штаны і куртка, зялёная фуражка. На падлозе стаялі вялікія гумавыя боты, а побач з імі — уся ў апілках, залітая бензінам і маслам, бензапіла «Husquarna».

Калі я ўваліўся ўнутр «уазіка», чалавек восем, што сядзелі ледзь не адзін на адным, зараўлі ў адзін голас: «Ну, дзе ты боўтаешся?! З-за цябе спознімся! Лесавоз ужо, напэўна, раней за нас прыехаў!..»

Карацей кажучы, я з гэтага моманту «ўліп»: рэзаў дровы, тушыў лясныя пажары, рыхтаваў кармы для лясных звяроў,

змагаўся з караедамі, ахоўваў маладыя лесапасадкі, утвараў мурашнікі, выконваў планы па здачы мётлаў, па зборы грыбоў і ягад, нарыхтоўцы смалы, соку, хвоі, рэдкіх раслінаў і займаўся шмат яшчэ якімі неверагоднымі справамі.

Аднойчы я трапіў на прыём да «мэра». Прычынай таму сталі вялікія лясныя пажары, што вельмі пашкодзілі нашыя лясы ў сярэдзіне лета. Я паведаміў пра лясныя справы (карэктна прытрымліваючыся ўмоўнасці абыходжання адной тэмы, аб якой маглі ведаць толькі я ды «мэр», — нашай начной сустрэчы пад дубам, дзякуючы якой адбылося «мэрава» выратаванне, за якое я плаціў дзіўнымі метамарфозамі ва ўласным жыцці).

Ён выслухаў мяне і нечакана пачаў лаяцца, ды неяк занадта злосна: «Вось! Хоць нейкай справай цяпер займаешся, гультай! А то — музыка, вытанчаная творчасць! Усіх бы вас у гэты лес... А наконт наступстваў ад пажараў — згодзен, трэба рабіць справаздачу. Трэба? Трэба! Толькі па-іншаму. Добра будзе, калі ты зразумееш. Але ж нарэшце мазгі твае крыху сталі варушыцца. Дык вось, справы такія — пажар быў? Быў. Мусіць быць нехта, хто ў гэтым пажары вінаваты. Так? Так. Твая задача — знайсці гэтага чалавека. І не вылуплівай вочы! Ідзеш да свата, брата, суседа ці да каго хочаш і выкрываеш яго як парушальніка закону. Бярэш дадзеныя яго пашпарта і афармляеш пратакол. Як ты з ім дамовішся, гэта твае праблемы. Страх невялікі — разы тры-чатыры выклічуць яго ў пракуратуру і дадуць штраф. Штраф заплоціш сам. Хочаш — са сваёй кішэні, хочаш — падзялі на ўсіх сваіх падначаленых, леснікоў, рабочых ды іншых. Адным словам, гэта цалкам твая справа. Ты ж узяўся ахоўваць лес?» Тут «мэр» раптоўна хітра мне падміргнуў, неяк нядобра ашчэрыўся і засмяяўся.

«Дык вось, гэта твая першачарговая задача! Але да цябе ёсць яшчэ пытанні. Заўтра мой кабінет наведае адна важная асоба. Яму трэба прыгатаваць мёду, літраў сорак. Дзічыны таксама падрыхтаваць — лася, дзіка ці казулю. Няважна, што сезон палявання закрыты! Думай лепей, як вырашыць пастаўленую задачу. Але і гэта яшчэ не ўсё. Гэтаму паважанаму чалавеку трэба завезці на дачу пару лесавозаў дроваў. Потым, зразумела, іх парэзаць і пакалоць. І ў гэты ж дзень адправіць для яго на мэблевую фабрыку машыну брусу і машыну дошак. Толькі адборных. Разумееш мяне? Найвышэйшай якасці!.. Усё, свабодны! Выконвай сваю нялёгкую справу сумленна!..»

Ён зарагатаў за маёй спінай, падпіхваючы ў плечы ў накірунку да дзвярэй. Я выйшаў з высокай установы, а ў вушах у мяне стаяў той здзеклівы смех.

«Не можа быць! — я разгублена спыніўся, не заўважаючы, што пачынаецца дождж. — Ён што, нічога не разумее? Такое немагчыма сабе ўявіць! Можа, ён нічога не памятае? Гэтым яшчэ можна было б патлумачыць тое, што адбывалася. Але ж гэтыя падміргванні і намёкі? Ці проста падалося? Нічога не разумею. Не можа нармальны чалавек так ставіцца да таго, хто яго ўратаваў і дзякуючы каму ён працягвае жыць, як і жыў раней...»

Неабходна было неяк выходзіць са становішча. Па логіцы трэба было выконваць загад. Калі «ўпрогся», цягні лямку і далей. Гэта значыць, узяўшыся ратаваць ахвяру начнога лесу, рабі сваю нялёгкую справу, чаго б гэта ні каштавала. Здаецца, так ён сказаў? Але ж кошт за кожны крок у гэтым напрамку становіцца ўсё даражэйшым. Я ў роспачы пайшоў у кірунку да дома свайго кума, па дарозе зайшоў у краму і купіў вялікую бутэльку піва.

Калі мы, услед за маёй, «прыгаварылі» і кумаву бутэльку (што ён незаўважна ад жонкі дастаў з халадзільніка), кум нарэшце згадзіўся быць «парушальнікам закону». «Добра, — сказаў ён, — калі ты заплоціш за мяне той штраф, так і быць, будзем ратаваць...»

З раніцы гула галава, але ж давялося ехаць да пчалаводаў, каб пасля іх паспець да егераў, а потым яшчэ і на тартак. У той дзень з усіх бакоў я чуў толькі лаянку.

«Колькі будзе працягвацца гэтая “абдзіралаўка”?» — крычалі пчалаводы. Я бялеў і чырванеў, кажучы: «Вы ж зразумейце, гэта ж на выратаванне...»

«Вы што, зусім там звар’яцелі? Можа, хопіць ужо жывіцца на халяву? Яна ж не вечная!» — грозна грымелі егеры. «Дапамажыце, хлопцы, — маліў я, — выратуем чалавека!..»

«Дзе ж вам узяць столькі няўлічанага лесу, каб зрабіць такі “невялічкі падаруначак”?» — ваўком глядзеў начальнік піларамы. «Прабачце, — апускаў я да долу вочы, — але ж на нашым сумленні застанецца смерць чалавека...»

Як у рэшце рэшт скончыліся гэтыя сумныя прыгоды, я не даведаўся. З прычыны крыху нечаканай, як і ўсё, што тычыцца гэтай дзіўнай гісторыі. Мне падалося, што тэлефон той раніцай зазваніў занадта рана. Яшчэ не прачнуўшыся, я падхапіўся ў пошуках свайго камуфляжнага адзення. Схапіў трубку і, як заўсёды ў апошні час, закрычаў: «Алё!»

На тым канцы провада знаёмы голас здзіўлена спытаўся: «Слухай, ты чаго крычыш? Спужаўся, ці што? Спадзяюся, ты не забыўся пра вячэрні канцэрт сумесна з “Крамай”?..» Не паверыўшы таму, што пачуў, я апрануў джынсы і касуху замест камуфляжа, якога нідзе не было відаць. Выйшаў у калідор — ніякай бензапілы не было, як і слядоў яе колішняй прысутнасці. Валяўся толькі стары футарал ад гітары. Я выбег на вуліцу і паспяшаўся да цэнтральнай плошчы.

Усё было як заўсёды. Гэтаксама, як і ўчора, калі я ішоў пасля працы дадому. Толькі пасля якой працы? Здаецца, гэта ўсё ж такі быў наш канцэрт. Ух! Прыліў неўтаймаванай радасці ахапіў мяне! Значыць, нічога са мной не здарылася?! Ніякіх дзіўных пераўвасабленняў? Проста я моцна стаміўся, і мне сапраўды прысніўся жудасны сон! Але ўсё становіцца на свае месцы! Як добра адчуваць сябе адпачылым чалавекам!

Раптам я ўбачыў кума. Ён ішоў крыху ззаду сваёй жонкі, якая ўпэўнена крочыла праз пешаходны пераход. «Як і заўсёды!» — з радасцю ўсміхнуўся я і толькі хацеў накіравацца да іх, каб павітацца, як кум, заўважыўшы мяне раней за жонку, з-за яе спіны стаў рабіць нейкія знакі, якія нагадвалі вайсковыя «Лажыся!», «Маскіруйся!», а мо нават і больш выразныя і нечаканыя — «Знікні!», «Растварыся!»

Жонка, адчуўшы за спінай рухі, павярнула галаву і ўбачыла мяне. Мне падалося, што вочы яе нядобра прымружыліся. Кум толькі ўціскаў галаву ў плечы і разводзіў рукамі. Нічога не зразумеўшы, я паглядзеў ім услед, і ўнутры пахаладзела, калі ўбачыў, што яны накіраваліся да будынка пракуратуры.



Першым жаданнем было пайсці за імі, але маю ўвагу прыцягнуў дзіўна знаёмы «уазік» з зялёнай паласой на баку і надпісам «Лясная ахова», што стаяў адразу за скрыжаваннем. Павольна праходзячы міма, я раптам убачыў за заднім колам невялікую лужыну цёмна-чырвонага колеру. З днішча машыны ў яе падалі кропелькі крыві. Я ўзняў галаву, і мне здалося, што за шклом маленькага задняга ваконца тырчалі дзве рулі паляўнічай стрэльбы.

Паскорыўшы рух, я выпадкова паглядзеў у бок дворыка перад гаражамі за будынкам адміністрацыі. Знаёмыя пчалаводы перагружалі вядзерцы з мёдам са свайго дапатопнага «масквіча» ў бліскучы аграмадны «мэрс».

Я не заўважыў, як у хуткім часе апынуўся на пешаходным пераходзе. Мяне вярнуў да рэальнасці такі моцны аўтамабільны сігнал, што я вымушаны быў адскочыць назад на тратуар. Два лесавозы правезлі міма тоўстыя чатырохметровыя бярвёны нераспілаваных бярозавых дроваў.

Толькі я памкнуўся зноў сысці на пешаходную дарожку, як зноў давялося спыніцца — услед за лесавозамі праляцелі два грузавікі, загружаныя дошкамі і брусам. «Сёння ж субота, здаецца, непрацоўны дзень... Адкуль іх прынесла?»

Я нарэшце перайшоў вуліцу. Адчуваў сябе вельмі разгубленым і стомленым. Паспрабаваў сабрацца і падумаў: «А раптам?!» Намагаючыся адразу не глядзець, як быццам спрабуючы матэрыялізаваць зніклую рэч, нарэшце павярнуў галаву.

Вялізнага і магутнага дуба, што калісьці ўпрыгожваў цэнтральную вуліцу, не было на звыклым месцы. Не было ценю ад некалі прыгожай кроны, і цяпер сонца пякло ў пліты тратуара. На месцы спілаванага на першамай дрэва стаяла сметніца.

Стала неяк не па сабе. Сапраўднага сімвала моцы тутэйшых людзей так не хапала. Можа, невыпадкова апынулася тут і гэтая сметніца, якая з'яўляецца адмысловай прыкметай? Толькі чаго? Сённяшняга часу? Чыхсьці сённяшніх дзеянняў? Адносінаў да нашай гісторыі, да месца, дзе мы жывём? Нарэшце, гэтая ганебная сметніца можа сімваліза-

ваць стаўленне да нас саміх, да тых, хто жыве на сваёй зямлі? Выходзіла, што ў тую ноч, калі знішчылі дуб, не здарылася нічога незвычайнага і неверагоднага. Проста адбылася падмена сімвалаў.

...Я нарэшце зразумеў, што тэлефон звоніць ужо даволі даўно. Асцярожна зняў трубку і моўчкі паднёс да вуха. На другім канцы пачаў «алёкаць» добра знаёмы голас. Калі я нарэшце адказаў, падалося, што мой таварыш чакаў прыкладна з год, каб падзяліцца сваімі неверагодна моцнымі эмоцыямі:

— Алё! Ты ведаеш апошнія навіны? Алё! Ты дзе?!

— Тут я, тут...

— Дык вось! Апрытомнеў! Адкачалі яго ўсё ж такі!

— Каго адкачалі?.. — нічога не разумеючы, спытаўся я.

Голас на другім канцы провада абурана замаўчаў, а праз некалькі секундаў на мяне абрынулася проста эмацыйная лавіна:

— Як каго?! Ты што, увогуле нічога не ведаеш?! Ды гэта ж навіна нумар адзін! Ну ты артыст! Такое прапусціць! Усё мястэчка як вулей гудзе, а ён нічога не ведае!..

— Ды скажы ты нармальна, што здарылася? — нарэшце не вытрымаў я.

— Учора ўвечары ў бальніцу прывезлі мэра нашага! Яны нешта адзначалі «на прыродзе». Выпілі шмат. Ніхто і не заўважыў, што мэр знік з кампаніі. Выпадкова ў той жа момант нейкі важны госць пайшоў «па-маленькаму». На дубе, пад які гэты госць накіраваўся, ужо гойдаўся на вяроўцы мэр. Ці ён перапіў, ці нешта іншае з ім здарылася — не ведаю! Накінуў сабе пятлю на шыю — і на дуб! Але, можа быць, дрэнна завязаў вяроўку, альбо за тонкую галіну зачапіў, толькі больш чым з двухметровай вышыні і зваліўся на шаноўнага госця! Той зароў на ўвесь лес так, што кампанія ўмомант працверазела і прыбегла на ягоны крык. Госць стаяў пад вялікім дубам у мокрых штанах, а побач на каранях ляжаў непрытомны мэр. Дык вось, адкачалі яго! Кажуць, што будуць замяняць! Алё, ты чуеш?!



— Так, так, — разгублена адказаў я, — але, ведаеш, я, напэўна, моцна стаміўся ад гэтых усіх заменаў, падменаў...

— Ты пра што? Да цябе гэтыя замены якое дачыненне маюць?

— Паслухай, прабач, калі ласка. Дзякуй за званок, але я табе пазней перратэлефаную...

Пра навіну, якая сапраўды магла вельмі зацікавіць мяне, мой сябра чамусьці нічога не сказаў. Сёння ноччу нейкія невядомыя людзі зашпурнулі далёка ў кусты сметніцу, а на месца спілаванага дуба, што рос у цэнтры нашага мястэчка, паклалі кветкі...

Праз расчыненае ў вялікі сад акно свежае ранішняе паветра напаўняла пакой. Пяшчотна шапацела лісцё на дрэвах, недзе ўверсе вялікія і маленькія галінкі рухаліся ўзад-уперад і ўверх-уніз адпаведна з толькі ім вядомымі мэтамі, а дужыя ствалы пакрэхтвалі і моцна трымаліся за зямлю. Я ўзгадваў усе неверагодныя падмены і нечаканыя замены, з якімі сутыкнуўся за апошні час, і адчуваў, што ўсё, што адбывалася вакол раней, нейкім чынам звязана з гукамі, чутнымі цяпер. Адчуваў і аднекуль ведаў — гэтыя гукі могуць выклікаць сапраўдныя перамены. Не тыя перамены, што меў на ўвазе мой тэлефонны суразмоўца і якія тычацца свецкіх асобаў, іхняга ладу жыцця ды светапогляду. А перамены ў загадкавай і недасяжнай для асэнсавання сферы, якая завецца душой. Можа, гэта якраз той выпадак, калі кладуць кветкі ў памяць аб загінулым дрэве?..

Вецер задзьмуў мацней, упалі першыя кроплі дажджу. Здавалася, што ў маўклівых жыхароў саду — вялікіх і малых дрэваў, разнастайных кустоў, звычайных і незвычайных траваў — таксама ёсць сваё асабістае жыццё. І на перамену ў гэтым жыцці яны тут жа адрэагавалі: мацней зашумела лісцё, пахаваліся прыгожыя кветкі, гучней зарыпелі моцныя ствалы...

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 64

**Несцярэнка** Юры Яўгенавіч

# Звычайны шоу-бізнес

Апавяданні

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Барыс Сачанка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Наталлі Кучмель

Падпісана да друку 11.06.2015. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 8,19. Ул.-выд. арк. 6,51.
Наклад 250 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.